ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

7 лістапада 1997 г. № 45/3921 Кошт 3 000 руб.

## ЗАПАЛІЦЬ СВЯТЛО Ў ДУШАХ...

***Мікола КРУКОЎСКІ: "Нам вельмі патрэбныя духоўныя ідэалы. Надта ж зняверчанай аказалася душа народа не толькі бяздумна прагматычным матэрыялізмам марксісцкага тэзіса аб прыярытэце эканомікі, але і вераю ў куміры і ідэалы тэхнічнага прагрэсу, што, падобна гіганцкаму катку, бязлітасна падмінае пад сябе ўсё, вырысоўваючы ў перспектыве ўсеагульны Чарнобыль і ядзерны Армагедон. Таму менавіта беларуская інтэлігенцыя і павінна запаліць у сваіх душах святло новых, сапраўды жыццядзейсных ідэалаў..."***

**3, 14—15**

## ВЯРТАННЕ Ў ЭДЭМ

***Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ: "Сёння вельмі шмат гаворыцца пра вялікую стваральнасць пасляваенных і пазнейшых гадоў... Што ж, разбітую і разбураную Беларусь адбудавалі сапраўды вельмі хутка. Адбудаваў яе сваімі рукамі працавіты і руплівы наш народ, але хутчэй за ўсё не дзякуючы бліскучаму кіраўніцтву камуністаў, а нягледзячы на іх кіраўніцтва!***

**5, 12**

## СМЕРЦЬ НАСТАЎНІЦЫ

***Апавяданне Галіны БАГДАНАВАЙ***

**9**





Прагноз, які гэтак рызыкоўна зрабілі мы на сваіх старонках два тыдні таму, спраўдзіўся: першы Беларускі фестываль эстрадных аркестраў насамрэч прайшоў з аншлагам!

Спраўдзіўся і прагноз першага намесніка міністра культуры краіны Уладзіміра Рылаткі, які, адкрываючы свята, спадзяваўся ўбачыць не проста паказ эстрадных калектываў, а і развіццё традыцый джазавай культуры ў таленавітай "сям'і" нашых музыкантаў.

Тры дні фестывальных знаёмстваў... Але чаму б не сказаць — тры дні адкрыццяў? У кожнай праграме былі новыя іскрынкі творчага жыцця, рэдкасныя залацінкі сапраўднай музычнай даравітасці. Хіба не адкрыццём сталася для Мінска выступленне дзявочага... "Капрыза"! Адметнасць калектыву не толькі ў тым, што граюць тут выключна спадарыні — студэнткі Гродзенскага універсітэта, якія маюць сярэднюю музычную адукацыю па класе фартэпіяна, а цяпер перавучыліся на духавых інструментах. Адметнасць — у іх гожай ігры. І ў тым, што маюць цудоўных салістак-спявачак... Зрэшты, пра ўражанні ды адкрыцці першага Беларускага фестывалю эстрадных аркестраў "ЛіМ" распавядзе ў бліжэйшы час. А сёння прадстаўляем салістку гродзенскага ансамбля "Капрыз" Наталлю КЛІМОВІЧ.

*Фота Кастуся ДРОБАВА*

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***7 лістапада. Чырвоны (як і раней!) дзень календара. Да ўсяго — з круглай, юбілейнай (80 гадоў!) датай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Хаця — не, ужо трошкі не так. Час унёс усё ж змены. Сёння ў календары падзея названа больш сцісла і сціпла — проста Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Ужо не вялікай і не сацыялістычнай. 10 кастрычніцкіх (лістападаўскіх) дзён 1917-га амерыканец Джон Рыд назваў "днямі, што ўзрушылі свет". А, можа, усё ж лепш рускае "потрясли" перакласці нашым словам "скаланулі"? Яны і праўда скаланулі. Калі не тады, дык неўзабаве. Што да самой падзеі, дык яна, безумоўна, не ардынарная. Выкрасліць яе з нашай памяці — нельга. Як і з гісторыі. Сёння, гаворачы пра яе, мы гаворым менавіта пра гісторыю. Пра нашу ўжо 80-гадовую гісторыю, у якой перапляталася-зніталася высокае і нізкае, слаўнае і ганебнае, чыстае і подлае, гераічнае і трагічнае. Гісторыя, пачатая палацавым пераваротам 1917-га (рэвалюцыяй ён стаў пазней), пісалася менавіта гэтак — у чорна-белыя палосы. З крывавымі пісягамі-пацёкамі і па адных, і па другіх. Усе 80 апошніх гадоў у краіне, якая мела імя з чатырох зычных літар, ніколі не было таго, што абвяшчалася зычнымі дэкрэтамі рэвалюцыі. Наогул, як сведчыць гісторыя, амаль заўсёды тое, што пачыналася з дэкрэтаў, канчалася дыктатурай, і гэты ўрок гісторыі не лішне помніць у любы час у любой краіне.***
***А тым не менш сёння свята...***

### ЗАПРОСІНЫ ТЫДНЯ

У Мінску госціць Маскоўскі мастацкі акадэмічны тэатр імя Максіма Горкага (МХАТ) пад кіраўніцтвам народнай артысткі СССР Таццяны Дароніной. На сцэне сталічнага Дома афіцэраў МХАТаўцы пакажуць шэсць сваіх спектакляў: "Зойчына кватэра", "Белая гвардыя", "Дама-невідзімка", "Зыкавы", "Мы ідзем глядзець "Чапаева" і "Старая актрыса на ролю жонкі Дастаеўскага". Тэатр прыехаў да нас па асабістым запрашэнні Прэзідэнта краіны. У дадзеным выпадку Аляксандра Рыгоравіча цалкам можна зразумець: Дароніна — актрыса таленавітая, жанчына разумная і, безумоўна абаяльная.

### СКАРАЧЭННЕ ТЫДНЯ

У хуткім часе Беларусь саступіць першынство па колькасці афіцыйных свят. Савет Міністраў падрыхтаваў і прадставіў у Адміністрацыю Прэзідэнта прапановы па скарачэнні колькасці непрацоўных святочных дзён у годзе. Радаўніца, Дзяды, другі дзень праваслаўнага і каталіцкага Вялікадня будуць святочнымі днямі, але не выхаднымі, працоўнымі. Гэта ж тычыцца і Дня канстытуцыі, які, як трапна заўважыў С. Лінг на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат парламента, быў працоўным нават у сталінскія часы. Што яшчэ з натворанага дэмакратамі ды нацыяналістамі прычакае сваёй адмены?

### ОДА ТЫДНЯ

4 лістапада "Народная газета" апублікавала паэтычны роздум напярэдадні 7 лістапада небезвядомага спевака новага часу Б. Спрынчана "Ночь всегда кончается рассветом..." Спяваць оду ці нават і гімн "благородному и великому Октябрю" — прыватная справа паэта Спрынчана. Толькі вось такія пасажы: "Поиском добра осенены, Наносили силам зла удары Революций верные сыны Калиновский, Ленин, Че Гевара... И мужала лирика в борьбе. Не молчала — троны колебала. И теперь звучат во мне — Барбье, Петефи, Шевченко и Купала..." — па меншай меры "гіпербалічная гіпербала", ад якой і Каліноўскі, і Купала, можа стацца, і на тым свеце здрыгануцца. Пабойцеся Бога, спадар Спрынчан! Купала па сутнасці загінуў у абдымках "многоликого Октября", а ўжо ўявіць сабе Каліноўскага чырвонаармейскім коннікам, дык ноч ніколі не скончыцца світанкам...

### АФАРЫЗМ ТЫДНЯ

"Калі белае назваць чорным і паўтарыць гэта мнагакратна добра пастаўленым голасам гучна і з вялікім пачуццём, дык, як мяркуюць многія, белае значна пачарнее".
*(З "Урачэбных афарызмаў" прафесара, доктара медыцынскіх навук Вячаслава Быстрэніна, апублікаваных "Народнай воляй" 4 лістапада г.г.)*

### СУІЦЫД ТЫДНЯ

У мінулую пятніцу скончыў жыццё самагубствам былы старшыня калгаса імя Леніна Смалявіцкага раёна, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Вікенцій Казлоўскі. Яму было 57 гадоў, ён быў членам Аграрнай партыі і намеснікам старшыні парламенцкай камісіі па сельскай гаспадарцы, у лістападзе мінулага года ён падпісаўся за імпічмент прэзідэнту. Праз год ці не, але ў выніку В. Казлоўскі застаўся без працы і фактычна без сродкаў для існавання. Трагічная развязка розгаласу не мела. Памірае людцаў цяпер шмат. Болей, чым нараджаецца...

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Дзве прарэзлівыя, як стрэлы, лічбы прагучалі са старонак друку: летась было аддадзена на ўсынаўленне за мяжу 51 беларускае дзіця, за дзесяць месяцаў сёлетняга года — 40. Розум успрымае гэта: мо і праўда няшчасным дзецям (а гэта сапраўды няшчасныя — хворыя — дзеці) будзе **там** лепей, сэрца ж — не прымае, не хоча мірыцца...

### ВЫДАННЕ ТЫДНЯ

Да традыцыйных ужо "Каласавін" — літаратурнага свята, якое штовосень ладзіцца з нагоды дня нараджэння Якуба Коласа, — выйшла ў свет рэкламна-інфармацыйная і грамадска-культурная газета "Шлях Коласа". Зладзілася выданне па ініцыятыве раённага фонду Якуба Коласа ў Стоўбцах. Іканаграфічны матэрыял прадстаўлены Літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа. Надрукавана газета ў мінскай друкарні "Чырвоная зорка" з фундатарскай дапамогай паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа. Рэдактар — Валерый Дранчук. У нумары — хроніка "Каласавін" з 1985 па 1997 год, слова пісьменніка Генрыха Далідовіча "Каб свет не шукаў беларусаў на карце, мы павінны пачувацца народам, а край свой мець за дзяржаву", зварот да грамадскасці групы дзеячаў культуры і мастацтва аб ушанаванні "таго вялікага і неўміручага, што зрабіў Якуб Колас для беларускага народа", успаміны пра бацьку Данілы Міцкевіча, сына Якуба Коласа, вершы земляка народнага песняра Міколы Маляўкі і іншыя матэрыялы. Дык усё ж — жыве Беларусь?!

# Наша свята ў Празе

Мінулым тыднем прайшлі "Дні беларускага пісьменства і друку" ў Чэхіі. Наладжаная ініцыятывай нашага пасла ў Чэхіі і Славакіі Уладзіміра Бельскага і намаганнямі Дзяржаўнага камітэта па друку, гэтая культурная акцыя сталася значнай падзеяй, звязанай са святкаваннем 480-годдзя першай беларускай кнігі "Псалтыр", вытлумачанай Францыскам Скарынай і надрукаванай ім у Празе. Менавіта апошняя акаліčнасць дазволіла год таму здзейсніць амаль немагчымае: сталіцы Чэхіі, дзе помнікаў, здаецца, даўно ўжо больш, чым жывога люду, паставіць яшчэ і помнік нашаму найзнакамітаму земляку, да якога з пашанай прынеслі кветкі члены беларускай дэлегацыі (фота Г. Жынкова).



Пачалося свята з набажэнства ў кафедральным храме святых Кірылы і Мяфодзія. У зале выстаў храма адкрылася кніжная экспазіцыя "Беларусь, духоўная спадчына". На плошчах Прагі і Чэшскага Крумлава адбыліся тэатралізаваныя прадстаўленні "Беларуская зорка", у якіх удзельнічалі "Сябры" і "Харошкі".

Члены афіцыйнай дэлегацыі былі прынятыя ў пражскай мэрыі, сустрэліся з кіраўнікамі іншых гарадоў Чэхіі, з прадстаўнікамі навуковай і творчай інтэлігенцыі.

Больш падрабязна аб гэтай культурнай падзеі, якая, безумоўна, з шэрагу рэдкіх падзей на нашым часе, мы мяркуем распавядаць у бліжэйшых нумарах "ЛіМа".

З НАГОДЫ

# Шлях у Курапаты

Апошнім часам усё меней верыцца ў выпадковасць некаторых з'яў нашага жыцця. Тое, што некаму здаецца простым супадзеннем фактаў, аказваецца звяном пэўнага палітычнага ланцуга. Напрыклад, усе мы былі сведкамі таго, як Савет Рэспублікі адправіў на "дапрацоўку" закон аб друку. Шмат хто тады ўздыхнуў з палёгкай. А ўжо неўзабаве невядомыя з пасведчаннямі супрацоўніка адной са спецслужб хапаюць на вуліцы журналіста газеты "Імя" А. Бябеніна, адвозяць у лес і праводзяць з ім размову на тэму "Немагчымасць сумяшчэння свабоды слова і сямейнай бяспекі". Пры гэтым "рыцари плаща и шпаги" не пасаромеліся скрасці грошы і нават тэлефонную картку. Што гэта, калі не "ўрок" для ўсіх "нячэсных"?

На ўсёй тэрыторыі былога СССР на пачатку лістапада ўспаміналі ахвяраў палітычных рэпрэсій, а сёлетой у Беларусі разглядаў іх у "параўнальна-гістарычным асвятленні". Прыгадаем артыкул А. Залескага ў "Народнай газеце". Ці не трывожны гэта знак для ўсіх беларусаў? Аўтар дазваляе сабе апраўдваць І. Сталіна, сцвярджаючы, што мільёны расстраляных — сапраўдныя ворагі народа. Менавіта так, без двукосся. Што ж ён ставіць у віну людзям? Мецэнаты, змовы і не толькі. Так, актрыса З. Фёдарава, па словах А. Залескага, "стала посещать приёмы, банкеты, вечера, устраиваемые посольствами стран... Надо быть сверхнаивным, чтобы даже допускать мысль о том, будто она не была использована для получения шпионских сведений". Вось такі "склад злачынства". Але ёсць, аказваецца, рэчы і больш жахлівыя: "внутренние враги социалистического строя применяли такой вид борьбы, как распространение антисоветских анекдотов и поощрение антисоветских разговоров". А ўсё таму, што "в советском государстве при его социалистических формах собственности всякое оскорбление должностных лиц отрицательно влияло на народное хозяйство, которым они руководили". Гэта было б смешным, калі б... Аўтар усё ж не выключае, што разам з "контррэвалюцыянерамі" ахвярамі сталінізму сталі выпадковыя людзі, але робіць гэта своеасабліва. Распавядаючы пра пачатак "чырвонага тэрору" ў адказ на забойства чэкіста М. Урыцкага, прафесар піша: "...обвинение предъявлялось целому классу. Вот почему в этой юридически необоснованной акции погибло много невинных граждан, не выступавших против Советской власти". Мауляў, што зробіш: "лес рубят — щепки летят". Але як можна пісаць наступнае: "Что касается невинно пострадавших и их потомков... им следует свои претензии адресовать провинившимся родственникам, соседям, землякам". Толькі дзеці рэпрэсіраваных чамусьці не спяшаюцца каяцца і дзякаваць "вождю всех времен и народов", а ідуць у Курапаты і запальваюць свечы ў памяць ахвяр сталінскага генацыду.

Сімвалічна, што менавіта 30 кастрычніка ў Мінскім гарадскім судзе пачаўся суд над удзельнікамі веснавых акцый пратэсту, якіх абвінавачваюць у супрацьдзеянні міліцыі. Апазіцыянерам пагражае некалькі год турмы. Паказальна не толькі тое, што арыштоўвалі хлопцаў супрацоўнікі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, паказальны паводзіны праваахоўнікаў. У тым ліку — у судзе. Некаторыя нават не клапоцяцца аб праўдападабенстве сваіх сведчанняў. Адзін капітан, распавядаючы пра падзеі 23 сакавіка, кажа, што ўсе людзі, якія ішлі ў той час па праспекце Скарыны, — удзельнікі несанкцыянаванага шэсця. Астатнія, па яго словах, "схаваліся ў крамах". Толькі ўявіце сабе гэта відовішча! А вось як міліцыянт разумее тэрмін "супрацьпраўныя дзеянні". Да іх трэба адносіць і "выкрыканне антыпрэзідэнцкіх, антыўрадавых лозунгаў". Далей — болей: гэты ж сведка патрабуе ад суда "самага жорсткага пакарання" для "баевікоў". Ці не нагадвае гэта нешта? Між іншым, у судзе высветлілася, што шэсце, па сутнасці, справакавала міліцыя, перакрыўшы шлях на плошчу і перашкаджаючы руху транспарту. Або яшчэ такія красамоўныя факты. Мантаж відзаматэрыялаў робіцца пры ўдзеле спецаператара, які адначасова з'яўляецца сведкам па "справе", а замест аналізання праводзіцца вочная стаўка. У "лепшых" савецкіх традыцыях!

Сапраўды, нішто не выпадковае. Калі ўвесну 95-га па беларускім тэлеканале быў двойчы паказаны фільм Азаронка "Нянавісць...", ніхто не думаў, што вынікам гэтага стане параза апазіцыі на рэферэндуме і на выбарах у ВС. Прайшоў час, і стала зразумелым, што відэастужка Азаронка — не "аднадзёнка". Памятаеце, як некалькі чалавек з мінскага гарадскога клуба аматараў гістарычных ведаў сцвярджалі, што ў Курапатах ляжаць ахвяры гітлераўскага генацыду? І дамагліся перагляду курапацкай справы. Зараз расследаванне аднавілі: ну як жа, амерыканскі пасол Спекхард нясе кветкі да жалобнага месца, аб якім упершыню загаварыў "банкрут" З. Пазняк! Няма сумненняў, да якіх высноў прыйдуць новыя даследчыкі-археолагі (ніхто з тых, хто займаўся гэтым раней, да раскопак не дапушчаны). У нядзельным эфіры праграмы "Рэзананс" прадстаўнік пракуратуры ўжо сёння сцвярджае: "заключэнне Пазняка і яго групы — фальсіфікацыя", "нічога падобнага не было" і г. д. А як быць з прэзумпцыяй невінаватасці? Дзіўная рэч, прыхільнікі "сапраўднай дэмакратыі" ў гутарцы пра Курапаты спасылаюцца на што заўгодна, толькі не на сведчанні відавочцаў расстрэлаў. Дарэчы, ведаеце, хто ўваходзіць у грамадскую камісію па "курапацкай праблеме" (менавіта яна стала ініцыятарам новага "расследавання")? Усё той жа прафесар Залескі...

І яшчэ адзін факт. У той жа дзень, калі адбылося жалобнае шэсце ў Курапаты, па БТ паказалі мастацкі фільм І. Дабралюбава "Эпілог". Фільм пра трагедыю нацыянальнай культуры, фільм з песімістычнай канцоўкай, эпілогам усяго беларускага. Выпадковасць? Мабыць, і так. Але ці не зашмат "супадзенняў"?

**Вадзім ДОЎНАР**

КОНКУРСЫ

# Імя Цвятаевай

Ірына Цвятаева была знаным педагогам, прафесарам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, заслужаным дзеячам мастацтваў рэспублікі. Педагогам, з імем якога звязаны міжнародныя поспехі беларускай фартэпіяннай школы. Невыпадкова яе імя нададзена Міжнароднаму конкурсу юных піяністаў, які сёлета ўжо ў другі раз адбываецца ў Мінску. Дакладней, адбыўся — бо сёння конкурсныя хваляванні аціхлі, і ўвечары ў Вялікай зале сталічнай філармоніі будуць падведзены вынікі гэтага музычнага спаборніцтва, удзельнічалі ў якім прадстаўнікі без малога дзесятка краін свету. Сёлета І. Цвятаевай споўнілася б 80, і конкурс, як і адмысловы канцэрт з удзелам ейных вучняў і паслядоўнікаў, наладжаны днямі, — лепшае ўшанаванне памяці выдатнай піяністкі і педагога. З вынікамі Другога міжнароднага мы пазнаёмім чытачоў "ЛіМа" ў бліжэйшы час.

**Н. К.**

ВІНШУЕМ!

# "Дзякуй, Беларусь..."

Для трапнага вызначэння імпрэзы, што адбылася тыдзень таму ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета, слова пакуль не знайшлося. Строгая? Не. Сціплая? Тым болей — не. Юбілейныя вечарыны сціплымі наўрад ці бываюць. Асаблівa калі праводзяцца яны на самым высокім дзяржаўным узроўні. Аднак гэтая вечарына мала стасавалася з шэрагам аналагічных тлумных шматслоўных урачыстасцяў, бо адлюстроўвала жывую творчасць Мастака, прызнанне публікі, шчырую прафесійную павагу калег, высокую ацэнку працы дзяржавай. І... строгае стаўленне Мастака да сябе.

Народны артыст СССР, мастацкі кіраўнік і дырэктар балета Валянцін Елізар'еў адзначыў сваё 50-годдзе ў тэатры мудра і з густам. Не станавіліся ў бясконцыя чэргі лісліўцы з "адраснымі папкамі", сярод якіх зазвычай губляюцца-бянтэжацца сапраўдныя сябры ды прыхільнікі. Не ладзіўся стракаты "капуснік"... Была абвешчана чарговая прэм'ера. Былі запрошаны знаўцы, крытыкі, журналісты (важная вартасць, уласцівая не многім: В. Елізар'еў умее ладзіць годныя стасункі з прэсай!)...

Прэм'еры папярэднічала афіцыйная цырымонія на сцэне: Прэзідэнт РБ Аляксандр Лукашэнка ўручыў Валянціну Елізар'еву ордэн Францішка Скарыны — за вялікі асабісты ўклад у станаўленне і развіццё беларускага балета. Прагучалі высокія словы пра талент, славу, міжнароднае прызнанне Мастака. І ў адказ: "Дзякуй, Аляксандр Рыгоравіч. Дзякуй, дарагая публіка. Дзякуй, Беларусь... І запрашаю ўсіх на прэм'еру".

Пасля прэм'ернага паказу "Вясны свяшчэннай" І. Стравінскага быў яшчэ адзін аднаактовы спектакль — "Карміна Бурана" на музыку К. Орфа... А заключныя авацыі змяніліся невялічкай урачыстай пастлюдыяй. Намеснік дырэктара тэатра балета Юры Траян "агучыў" некалькі тэлеграм з неабдымнага віншавальнага стосу; выйшаў на сцэну слынны госць — Юры Грыгаровіч...

Расчулены і ўсхваляваны Валянцін Елізар'еў прыгадаў свае першыя ўражанні ад вялікай мінскай сцэны, якую ён 24 гады таму пабачыў "у неапранутым выглядзе" і вырашыў, што будзе тут працаваць...

Ён працаваў і працуе з выдатнымі майстрамі сумежных мастацтваў, з якімі зліваецца ў спектаклях ягоная творчасць. У яго цудоўныя артысты-аднадумцы. Яго цэняць і чакаюць у многіх краінах свету. І ён з годнасцю кажа, што мае ў сваёй працоўнай кніжцы адзін-адзіны запіс: "Вялікі тэатр Беларусі".

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



ПАРАЛЕЛІ

# А дзе наш юбілей?

Расійскі друк паведамляе пра унікальную выставу, якая па ініцыятыве самога Б. Ельцына адкрыта ва Успенскай званіцы Маскоўскага крамля. Выстава мае назву: "Расійскі герб. 500 гадоў". 500 гадоў назад, у 1497 годзе, вялікі князь Маскоўскі Іаан III Васільевіч упершыню змацаваў Даравальную Грамату асаблівай пячаткаю. На гэтай пячатцы з аднаго боку была выява вершніка, які працінае дракона, з другога — выява двухгаловага арла. Іаан III узяў за жонку Соф'ю Палеолаг, спадкаемніцу візантыйскага трона. Гэты шлюб і ўзаконіў двухгаловага арла як знак пераемства Візантыі і Маскоўскага княства. З таго часу і сцвердзіўся асноўны сімвал Расіі — дзяржаўны герб, а Маскоўскі князь увайшоў у кагорту еўрапейскіх манархаў. Згаданая выстава, на якой прадстаўлены мастацкія шэдэўры, сабраныя з музеяў Крамля, Эрмітажа і Дзяржхаза, і апавядае пра гісторыю гэтага важнейшага сімвала Расійскай дзяржавы.

Паведамленні расійскага друку пра выставу ва Успенскай званіцы Маскоўскага крамля міжволі выклікаюць згадкі пра наш гістарычны дзяржаўны герб — "Старадаўнюю Літоўскую Пагоню". Наша ж "Пагоня" куды старэйшая за расійскага двухгаловага арла. Старэйшая, прынамсі, на цэлую сотню з (гакам!) гадоў, а хутчэй за ўсё — на ўсе два стагоддзі. У якасці дзяржаўнага герба Вялікага княства Літоўскага "Пагоня" прынята ў 1384 годзе. Значыць, нашаму нацыянальна-дзяржаўнаму сімвалу ўжо больш чым 600 гадоў. Але ж "Пагоня" звязваецца з імем князя Віцення. А ён пачаў княжыць у 1295 годзе. Значыць, два гады назад, у 1995 годзе, "Пагоні" было 700 гадоў!

У 1984 годзе "Пагоня" не ўдастоілася гонару адзначыць сваё афіцыйнае 600-годдзе з прычыны панаваўшай у тагачаснай краіне камуністычнай ідэалогіі з яе непрыняццем дасавецкай гісторыі народа. Зрэшты, тады і Беларусь — БССР, пераемніца Вялікага княства, была ўсяго толькі ілюзорным дзяржаўным утварэннем.

Не адзначыла "Пагоня" і свой верагодны 700-гадовы юбілей у 1995 годзе, калі Беларусь была ўжо быццам сапраўды незалежнай, суверэннай краінай. Дарэчы, тым годам суседзі-палякі адзначалі 700-годдзе свайго польскага арла, адзначалі шырока, на дзяржаўным узроўні, з удзелам прэзідэнта і кардынала. А мы?.. А мы адзначылі юбілей свайго старажытнага дзяржаўнага сімвала тым, што зганьбілі яго і адракліся ад святыні.

Чым уздасца нам за гэта, Гоcпадзі?..

**М. Г.**

ШЛЯХІ

# Запаліць святло ў душах...

Мікола КРУКОЎСКІ
прафесар, доктар філасофскіх навук

## РЭАЛЬНАСЦЬ І ГРАМАДСКІ ІДЭАЛ У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСІ

*І святло ў цемры свеціць,*
*і цемра не агарнула яго.*
**Іаан**

Беларусь у імгле... Некалі так было сказана Уэлсам пра ленінскую Расію. І вось вядомы журналіст паўтарыў тыя змрочныя словы, адрасуючы іх ужо і Беларусі. Глыбокая цемра бездухоўнасці сапраўды ахапіла нашу шматпакутную краіну. Стала цёмна і ў нашых галовах: нават людзі, якія шчыра жадаюць рэспубліцы і яе народу дабра, змушаны дзейнічаць сёння амаль што вобмацкам і ў сваіх пошуках выйсця, акрамя эканомікі, нічога не бачаць. Усе мы выйшлі ў гэтым сэнсе, на жаль, з марксавага шынялія. Але, як даўно ўжо было сказана, не хлебам адзіным жывы чалавек. І эканоміка залежыць ад духу, варта параўнаць хоць бы той жа пасляваенны, куды больш жахлівы эканамічны развал з цяперашнім. Толькі тады была яшчэ нейкая вера і надзея, была хоць і ілюзорная, ілжывая ў сваёй аснове, але духоўнасць, хоць і прывідныя, але ідэалы, што ў суме сваёй дапамагло неяк выйсці з пасляваеннай галечы. Сёння ж сапраўды траха не беспрасветная імгла...

Але перш чым глядзець уперад у пошуках святла, азірнёмся назад, у мінулае, каб зразумець сучаснасць. Сучаснасць, як вядома, уяўляе сабою толькі пэўную фазу працэсу гістарычнага развіцця, і зразумець яе сутнасць і сэнс можна толькі на фоне ўсяго працэсу ў цэлым. Таму гісторыя чалавецтва і яго культуры, і асабліва законы, што рухаюць яе, ужо з антычных часоў прыцягвалі ўвагу вучоных і філосафаў. Тут пакуль што не месца, зразумела, рабіць падрабязны агляд іх канцэпцый і поглядаў. Скажам толькі, што на працягу блізка трохтысячагадовай гісторыі філасофскай думкі перад намі выразна выступаюць тры такія асноўныя канцэптуальныя версіі, цесна звязаныя паміж сабой. Згодна першай з іх і, мабыць, самай старажытнай, гісторыя ідзе па крузе, рэгулярна паўтараючыся праз пэўныя адрэзкі часу (піфагарэйцы і Эклезіяст). Згодна другой, ужо значна пазнейшай канцэпцыі гістарычны прагрэс здзяйсняецца па бясконца ўзыходзячай простай лініі (філосаф-асветнік Кандарсэ). І, нарэшце, трэцяя з іх, як бы аб'ядноўваючы сабой дзве папярэднія, параўноўвае лінію гістарычнага прагрэсу са спіраллю, ці, калі праектаваць спіраль на плоскасць, з нейкім падабенствам сінусоіды (дарэчы, калі спіраль тут адыгрывала ролю хутчэй метафары, то сінусоіда дае магчымасць далейшага строга матэматычнага мадэлявання праблемы).

Гэтая апошняя канцэпцыя ўжо ў чыста лагічным аспекце найбольш адпавядае ісціне, бо ўяўляе сабою дыялектычнае адзінства, гегелеўскі сінтэз дзвюх папярэдніх канцэпцый, што выступаюць тут як тэзіс і антытэзіс, як крайнія пункты погляду. І вядомая яна была таксама з часоў Эмпедокла і Платона, атрымаўшы глыбокае лагічнае абгрунтаванне ў філасофіі Гегеля і асабліва ў яго славутых "Лекцыях па эстэтыцы". Строга ж эмпірычнае пацвярджэнне яна атрымала значна пазней у працах О. Шпенглера, А. Тойнбі і асабліва П. Сарокіна, прадэманстраваўшы здзіўляюча дакладнае супадзенне абстрактна-тэарэтычнага разумавання з канкрэтна-эмпірычным падыходам. Цікава, што канцэпцыя гэта выдатна пацвярджаецца і сучаснымі сістэмна-кібернетычнымі метадамі, як было паказана нашымі распрацоўкамі 60—80-х гадоў у галіне эстэтыкі і мастацкай культуры.

Кіруючыся ў прынцыпе азначанай канцэпцыяй, хоць і не столькі ў лагічнай, колькі ў інтуіцыйна-эмпірычнай яе форме, Шпенглер і высунуў сваю славутую думку аб "закаце Еўропы", згодна якой еўрапейскае грамадства і яго культура ўжо з пачатку XX стагоддзя развіваецца па сыходнай галіне той сінусоіды. З гэтым пагаджаліся пазней і Тойнбі, і Сарокін, а Бярдзяеў, напрыклад, як і Генон, увогуле лічыў, што азначаны "закат Еўропы" распачаўся ўжо ледзьве не ў познім сярэднявеччы. Асноўныя рысы гэтага "заката" характарызуюцца секулярызацыяй царквы, агульным зніжэннем духоўнасці, ростам індывідуалізму, распадам маральных сувязей паміж людзьмі і расколам грамадства на актыўна супрацьстаячыя сацыяльныя групы, што былі тэарэтычна акрэслены Марксам як класы, а Артэга-і-Гасэтам пазней — як эліта і натоўп.

●

Тое, што грамадства і яго культура могуць перажываць занепад і разлажэнне, было заўважана яшчэ ў часы Рэфармацыі, і тады ж пачаліся спробы актыўна супрацьстаяць ім і практычна, у сацыяльна-палітычным плане — гэта выразілася ў шэрагу буржуазных рэвалюцый. Характэрна, што тыя ранія буржуазныя рэвалюцыі, пачынаючы з вялікай сялянскай вайны ў Германіі і канчаючы Амерыканскай рэвалюцыяй, здзяйсняліся пад рэлігійнымі ідэаламі абноўленага першапачатковага хрысціянства з уласцівай яму арыентацыяй на высокую мараль і духоўнасць абсалютнага, Боскага тыпу. Рэвалюцыі гэтыя далі магутны штуршок для развіцця і ўзмацнення, уключаючы і эканоміку, такіх еўрапейскіх нацыянальных культур, як англійская, нямецкая і амерыканская. Водгулле тых грандыёзных сацыяльных працэсаў, дарэчы, дакацілася і да Вялікага княства Літоўскага, абумовіўшы яго агульны росквіт у скарынаўскія часы. Усё гэта было пераканаўча паказана М. Вэберам у яго славутай рабоце "Пратэстанцкая этыка і дух капіталізму". Пра тое ж не раз пісаў і В. Зомбарт, падкрэсліваючы, што і капіталізм таксама меў некалі свой дух.

Аднак у некаторых рэгіёнах Еўропы тыя адраджэнскія працэсы аказаліся затармажанымі з прычыны пэўных асаблівасцей гістарычнага развіцця і сацыяльных, у прыватнасці, кампрамісаў, як, напрыклад, у Францыі часоў Людовіка XIV. Чарговыя, спозненыя спробы пераходу на ўзыходную лінію рабіліся ў абставінах распачатага спаду колішняга духоўнага ўзлёту, што быў гэтак характэрны для эпохі Рэфармацыі. У перыяд асветніцтва ўжо рэзка інтэнсіфікуюцца працэсы секулярызацыі і "матэрыялізацыі" духоўнай культуры (Шпенглер увогуле называў гэта пераходам культуры ў стан цывілізацыі, падобным пераходу жывога арганізма ў мёртвы механізм). Напрыклад, у "Грамадскім дагаворы" Ж.-Ж. Русо, гэтым евангеллі Французскай рэвалюцыі, на месца Боскага суверэнітэту як вышэйшай інстанцыі ісціны і дабра ставіцца безапеляцыйны суверэнітэт народа. Да чаго можа прывесці гэткі суверэнітэт, выразна паказала Французская рэвалюцыя: у руках такіх яе дзеячаў, як якабінцы, ужо з самага пачатку ўзнёслыя па сваім сэнсе ідэалы Свабоды, Роўнасці і Брацтва сталі грунтавацца не на аўтарытэце Бога як вышэйшай духоўнай інстанцыі, а на аўтарытэце гільяціны. І хоць Рабесп'ер, спахапіўшыся, спрабаваў утварыць спецыяльным рашэннем Канвента культ Вярхоўнай Істоты, каб неяк апраўдаць развязаны ім крывавы тэрор, гэта не магло ўжо дапамагчы: грамадства імкліва пакацілася ўніз. Зрэшты, і сама тая Вярхоўная Істота задумана было толькі як увасабленне чалавечага, а не Боскага розуму, і глыбока сімвалічным аказаўся факт, што ролю тае Істоты сыграла перад узбуджаным Канвентам аголеная кафэшантанная спявачка Тэрэза, злёгку захінутая ў трохкаляровы рэспубліканскі сцяг. Павучальная гісторыя Французскай рэвалюцыі і яе наступстваў добра вядомая, і ўжо Напалеон, апярэджваючы Гегеля, выдатна ахарактарызаваў яе славутым афарызмам: du sublime au ridicule il n'y a qu'un pas (ад вялікага да смешнага толькі адзін крок). Гэтых слоў, як вядома, не цураўся пазней і Маркс.

На далейшым працягу гісторыі таксама неаднаразова з'яўляліся людзі, незадаволеныя такім яе ходам і спрабаваўшыя неяк яго змяніць. Але і яны не маглі ўзняцца ў сваім разуменні гісторыі вышэй суверэнітэту народа, абапіраючыся не столькі на абсалютную рэлігійную мараль, колькі на сацыяльна-абумоўленую, адносную, сітуацыйную па сваёй сутнасці мараль, як тое здарылася, напрыклад, з сацыялістамі-утапістамі тыпу Сен-Сімона, Оўэна і Фур'е. А за імі, як бы ілюструючы сабой гэту лінію пераходу ад арганізма да механізма, да матэрыялістычнага, па словах Генона, "зацвярдзення" культуры, на гістарычную арэну выступаюць такія мысліцелі і дзеячы, як Маркс і крыху пазней — Ніцшэ. Будучы як ісцінныя сыны свайго часу ваяўнічымі бязбожнікамі і матэрыялістамі, яны стварылі светапоглядныя сістэмы, што давядзены былі іх куды менш таленавітымі і разумнымі паслядоўнікамі да вынікаў яшчэ жахлівейшых, чым якабінскі тэрор, да вынікаў, што ўвасобіліся ў такіх сацыяльных з'явах, як бальшавізм і фашызм. Калі Русо надзяляў суверэнітэтам народ яшчэ як цэласны сацыяльны арганізм, грэбліва адкідаючы тое, што ён азначаў як populace, г.зн., чэрнь, то і Маркс, і Ніцшэ грунтавалі фактычна свае сацыяльныя і палітычныя ідэалы менавіта на гэтай апошняй. Для Маркса такой асновай з'яўляўся пралетарыят, лацінская назва якога сведчыць сама за сябе, а для Ніцшэ — зусім ужо асацыяльныя, хоць і апрануты ў арыстакратычныя шаты, індывід, расава чыстая "светлавалосая бестыя", надзеленая якасцямі звышчалавека. І той і другі ў выніку арыентаваліся ўжо ўвогуле не на мараль, а на матэрыяльную сілу, амаль што цалкам супадаючы ў форме палітычнай яе рэалізацыі — дыктатуры. Палітычнае ўвасабленне ніцшэанства — фашызм, імкліва ўспыхнуўшы злавесным фасфарычным бляскам у Германіі трыццатых гадоў, быў, як вядома, задушаны супольнымі высілкамі аб'яднаных народаў Еўропы, паспеўшы тым не менш нарабіць гіганцкую колькасць пачварных злачынстваў. З Марксам і яго вучэннем справа аказалася куды больш складаная і горшая.

Згодна прынятай тут трэцяй канцэпцыі кожная гістарычная эпоха, нагадваючы сабою чарговую хвалю на сінусаідальнай лініі развіцця чалавецтва, пачынаецца звычайна з перавагі духоўна-ідэальнага фактару над матэрыяльным ва ўсім сацыяльным і культурным жыцці грамадства (тую фазу Сарокін называў, зрэшты, не вельмі ўдала, ідэяцыянальнай). Заканамернасць гэтая знайшла сабе, дарэчы, своеасаблівае адлюстраванне ў вядомай народнай прымаўцы пра дарогу ў пекла, выбрукаваную добрымі

*(Працяг на стар. 14—15)*

## У майстра — юбілей



**Нават не самыя заўзятыя прыхільнікі мастацтва ведаюць імя вядучага саліста беларускай оперы Эдуарда Пелагейчанкі. А што ўжо казаць пра сапраўдных знаўцаў гэтага жанру! Без перабольшання — многія проста абагаўляюць ягоную творчасць. Нават калегі Э. Пелагейчанкі лічаць яго незаменным у тэатры. Яны так і напісалі на віншавальнай афішы да творчай вечарыны Эдуарда Іванавіча, якая адбылася з нагоды 25-годдзя яго сцэнічнай дзейнасці.**

**Многія крытыкі і знаўцы опернага мастацтва адзначаюць, што цудоўны тэнар Эдуарда Пелагейчанкі з гадамі абсалютна не страціў сваёй прыцягальнай сілы. Вядома, што тэнар — самы далікатны і ўразлівы голас, і таму, хто ім валодае, цяжэй, чым іншым вакалістам, падтрымліваць сябе ў творчай форме. Той факт, што Э. Пелагейчанка і праз 25 гадоў сцэнічнага жыцця знаходзіцца ў росквіце творчых сіл, гаворыць пра ягоную адказнасць перад сваёй прафесіяй, якая вымагае пэўных высілкаў — і фізічных, і духоўных.**

**У Нацыянальным тэатры оперы Беларусі Э. Пелагейчанка працуе 12 з паловай гадоў — гэта якраз палавіна яго творчага шляху на сённяшні дзень. А пачынаў у 1972 годзе ў Пермскім оперным тэатры. На працягу 10 гадоў супрацоўнічаў таксама з Вялікім тэатрам СССР. На Беларусь прыехаў ужо сталым майстрам, з багатым рэпертуарам і са званнем народнага артыста РСФСР.**

**У Мінску яго адразу ацанілі і прафесіяналы, і публіка. Няма патрэбы пералічваць назвы ўсіх оперных спектакляў з удзелам Э. Пелагейчанкі, прасцей будзе сказаць, што ён выконвае ці не ўвесь тэнаровы рэпертуар тэатра і ў большасці спектакляў з'яўляецца незаменным салістам. Па сваёй прыродзе лірычны тэнар, Э. Пелагейчанка з вялікім поспехам выконвае і драматычныя партыі, што сведчыць пра шырыню яго творчага дыяпазону і высокі прафесіяналізм.**

**У нас заўсёды талент і прафесіяналізм артыста адзначаліся адпаведным чынам: наданнем ганаровага звання, якое, у сваю чаргу, прадугледжвала і пэўныя грашовыя выплаты. Зразумела, што Э. Пелагейчанка атрымаў званне народнага артыста ў Расіі яшчэ пры існаванні Саюза, а цяпер, жывучы і працуючы на Беларусі, ён як быццам не можа стаць упоравень з народнымі артыстамі нашай краіны. Бо народныя артысты Беларусі атрымліваюць адпаведную грашовую надбаўку, а Э. Пелагейчанка, як народны артыст Расіі, — не. Вядома, крыўдна. Званне ж надаюць за высокія дасягненні ў мастацтве, і талент паўсюль павінен ацэньвацца адэкватна.**

**Зоя ЛЫСЕНКА**

## Каб жа большы тыраж

**Канечне, многія кнігі цяпер з-за вялікіх фінансавых цяжкасцяў выходзяць абмежаваным накладам. Адно суцяшэнне, што з імі можна пазнаёміцца ў бібліятэках. Але ж бываюць і такія выданні, якія неабходны, як кажуць, штодня, павінны знаходзіцца пад рукой. Да такіх выданняў належыць і "Кароткі слоўнік тэрмінаў па гісторыі Беларусі" (укладальнікі Л. Нікіценкава і І. Шаўчук). Выпусціў яго Брэсцкі дзяржаўны універсітэт тыражом усяго... 100 экземпляраў. Няйначай толькі для ўласнага карыстання. А гэты ж дапаможнік наўрад ці залежыцца б на паліцах кнігарань. Чаму б, у такім разе, не зацікавіцца ім якому-небудзь недзяржаўнаму выдавецтву?**

НОВАЕ

# Пачатак пакладзены

***Зусім нядаўна аб музеі сучаснага беларускага мастацтва мы толькі чулі і адносілі рэалізацыю мары ў далёкую перспектыву. Ды вось, здаецца, мара пачынае здзяйсняцца. Ёсць рашэнне ўрада аб стварэнні музея, і цяпер ідзе ўжо гаворка аб яго канцэпцыі.***

***З дырэктарам музея сучаснага выяўленчага мастацтва, у нядаўнім часе — рэктарам Беларускай акадэміі мастацтваў Васілём Пятровічам ШАРАНГОВІЧАМ гутарыць наш карэспандэнт.***

**— Васіль Пятровіч, паколькі зараз у вас новая праца, значыць, намаганні калектыву Беларускай акадэміі мастацтваў пераканаць улады не звальняць вас з пасады рэктара поспеху не мелі? Ці быў афіцыйны адказ на ліст выкладчыкаў БелАМ ва ўладныя структуры?**

— Мабыць, афіцыйнай рэакцыяй трэба лічыць тое, што я болей не рэктар. Шчыра кажучы, мне шкада было пакідаць акадэмію.

З ёй звязана трыццаць шэсць гадоў майго жыцця — шэсць гадоў я быў студэнтам і трыццаць выкладчыкам. Наша прафесійнае кола вельмі шчыльнае, таму мне няцяжка здагадацца, хто з маіх калег быў ініцыятарам кадравых змен у сценах акадэміі, хто скарыстоўваў кожную нагоду, каб абліць акадэмію брудам. Вельмі шкада, што гэтыя людзі маюць уплыў на ўладу, а значыць і на культурную палітыку краіны.

**— А як вы адчуваеце сябе на новым рабочым месцы?**

— Я афіцыйна заступіў на пасаду дырэктара Музея сучаснага выяўленчага мастацтва пятага верасня. Нейкія высновы рабіць, пэўна, рана. Адно відавочна: работы шмат. Гаворка пра неабходнасць такога музея вядзецца даўно, ужо ці не некалькі дзесяцігоддзяў. Але рэалізацыя ідэі распачалася толькі сёлета. 13 чэрвеня ўрад прыняў пастанову "Аб мерах па стварэнні Музея сучаснага выяўленчага мастацтва", потым быў загад міністра культуры ад 26 чэрвеня. Пачатак пакладзены, і я ўпэўнены, што музей будзе. Але што гэта будзе за музей, не ведае ніхто.

**— Аднак нейкая база ёсць ужо сёння?**

— Сёння на баланс музея перададзена памяшканне былога шматфункцыянальнага комплексу "На ростанях" на плошчы Коласа і былы кінатэатр "Беларусь". Памяшканне на плошчы Коласа давесці да ладу адносна лёгка. Каб зрабіць тут экспазіцыйныя залы, патрэбны не такія ўжо вялікія сродкі. Іншая рэч — былы кінатэатр. Тут спатрэбіцца вялікая перабудова.

Два прыгаданыя памяшканні — для пачатку някепска. Але толькі для пачатку.

**— Вам трэба болей?**

— Не мне — музею! Мяркуйце самі. У рэканструяваным кінатэатры можна размясціць асноўную экспазіцыю жывапісу і графікі. Скульптуры — ужо цяжэй. На плошчы Коласа будуць зменныя (па месяцу альбо па некалькі тыдняў) экспазіцыі тых жа жывапісу і графікі. Але ці дасць гэта ўяўленне аб сучасным мастацтве Беларусі? Непасрэдна з выяўленчым мастацтвам звязана мастацтва дэкаратыўна-ўжытковае. Нельга абмінуць і народнае мастацтва. Ягоныя сучасныя формы адрозніваюцца ад класічных, занатаваных у энцыклапедыях. А фотамастацтва Беларусі? А дызайн? Значыць, неабходны дадатковыя экспазіцыйныя плошчы.

Сёння неад'емнай часткай нашай мастацкай культуры сталі хэпенінгі, тэатралізаваныя шэсці, на выставах даўно нікога не здзіўляюць інсталяцыі. Вопыт дзесяцігоддзяў заходняй культуры быў асвоены нашымі мастакамі "экстэрнам", у паскораным тэмпе. Гэта з'ява яшчэ чакае свайго асэнсавання. І ўсё гэта павінна быць данесена да гледача, наведвальніка Музея сучаснага мастацтва. Значыць, трэба мець лекцыйныя залы з адпаведнай апаратурай, архіў фота- і відэа матэрыялаў. Не лішняй будзе і бібліятэка (я сам бы перадаў у яе частку кніг па мастацтве з майго ўласнага збору). Архіў, бібліятэка — гэта ўжо кампаненты навукова-даследчага цэнтра сучаснага мастацтва. А дзе размясціць такі цэнтр? Так што ніякім чынам не абыдземся тымі плошчамі, якія сёння на балансе музея. Зразумела, калі краіне патрэбны музей паўнавартасны...

**— Маючы такія планы, вы, мабыць, нешта сабе і прыгледзелі?**

— Так, я прыгледзеў для музея двухпавярховы асабняк (дзе — не скажу, бо знойдуцца і іншыя ахвотнікі). Спадзяюся ў гэтай справе на паразуменне з уладамі. Мяркую, што часткай Музея сучаснага мастацтва можа стаць Музей імя Бембеля. Тым болей, што ён мае статус Музея сучаснай беларускай скульптуры. Тэрыторыя вакол былога кінатэатра "Беларусь" таксама павінна адысці да музея, тут можна зрабіць свайго роду "сад скульптуры" — экспазіцыя манументальна-дэкаратыўнай пластыкі. Але ўсё гэта — перспектыва. А пакуль трэба найлепшым чынам выкарыстаць наяўныя плошчы.

**— Як вам бачыцца асноўная экспазіцыя?**

— Я думаю, яна мае быць, так бы мовіць, пастаянна-зменнай. У Нацыянальным мастацкім музеі экспазіцыя можа не мяняцца дзесяцігоддзямі. Бо там прадстаўлены творы, выпрабаваныя часам; творы, якім вызначана месца ў анталогіі культуры. Гэта — класіка. А экспазіцыя і фонды нашага музея будуць складацца з твораў, якія яшчэ толькі маюць шанцы ўвайсці ў анталогію. Так бы мовіць, кандыдаты ў класіку. Таму і экспазіцыя, мяркую, павінна на стадыі фарміравання калекцыі мяняцца кожныя паўгода-год.

**— Хто будзе вызначаць, варты твор калекцыі Музея сучаснага мастацтва ці не варты?**

— Пры музеі будзе рада, у якую ўвойдуць вядомыя творцы розных пакаленняў і розных стылёвых арыентацый. Само разуменне "сучаснае мастацтва" акрэсліць досыць цяжка. Кожны мастак, кожны крытык мае свае крытэрыі "сучаснасці". Каб не было пакрыўджаных, рашэнні трэба прымаць калегіяльна. Я асабіста хацеў бы, каб у музеі былі прадстаўлены ўвесь спектр сённяшняга мастацтва Беларусі: ад фотарэалізму да мастацтва канцэптуальна-авангарднага.

**— Але ж вас ведаюць як прыхільніка мастацтва рэалістычнага...**

— Рэалізм ніхто не адмяняў. Я ўпэўнены, што рэалізм — гэта грунт, аснова выяўленчага мастацтва ўвогуле. Іншая справа, што ў вачах сённяшняга гледача разуменне рэалізму ў нейкай ступені скампраметавана так званым "сацрэалізмам", камуністычным афіцыёзам. Але пройдзе час, і людзі разбяруцца, дзе была кан'юнктура, а дзе — мастацтва. Я не думаю, што сёння альбо заўтра знойдзецца нехта, у каго падыме рука кінуць камень, скажам, у вялікага мастака-рэаліста Паўла Корына. Хоць той жыў і працаваў пры "сацрэалізме"...

**— У якой ступені вы збіраецеся скарыстоўваць вопыт іншых краін?**

— Ужо сёння ёсць цікавыя прапановы ад нямецкай амбасады па супрацоўніцтве ў стварэнні навукова-інфармацыйнага цэнтра пры музеі. Але не варта ігнараваць і вопыт нашых усходніх суседзяў. Палітычны суверэнітэт не замінае існаванню адзінай культурнай прасторы.

Калі я быў рэктарам, я спецыяльна ездзіў у Пецярбург, каб аднавіць сувязі паміж нашай акадэміяй і шэрагам пецярбургскіх вышэйшых навучальных устаноў — Інстытутам імя Рэпіна, Акадэміяй тэатральнага мастацтва і былой вучэльняй імя Мухінай, якая зараз мае статус акадэміі. Планаваў такую паездку ў Маскву, але не паспеў... Дарэчы, мае калегі-рэктары маскоўскіх і пецярбургскіх ВНУ званілі мне і са здзіўленнем пыталіся, што здарылася...

На сваёй новай пасадзе я, безумоўна, буду працаваць над аднаўленнем культурных сувязяў, якія былі ў савецкі час. Вопыт Расіі, Украіны, краін Балтыі нам будзе вельмі дарэчы.

**— Васіль Пятровіч, пакуль дзяржава вагалася быць ці не быць музею беларускага сучаснага мастацтва, з'явіліся прыватныя калекцыі, якія можна лічыць прававобразам такога музея. Найперш я назваў бы Валерыя Жыльцова і ягоную галерэю "Жыльбел". Калекцыя вельмі прадстаўнічая, надзвычай густоўная, а галерэя мае высокі рэйтынг. "Жыльбел" нават спансіруе культурніцкія акцыі дзяржаўнага ўзроўню (напрыклад, Шагалаўскі пленэр). Выходзячы з нашай эканамічнай і культурніцкай сітуацыі, вы, як дырэктар дзяржаўнага музея, схільны лічыць прыватнага калекцыянера сваім канкурэнтам альбо саюзнікам і памочнікам?**

— У дадзеным выпадку нам няма чаго дзяліць. І дзяржаўная ўстанова і прадпрымальнік-мецэнат робяць адну справу — пашыраюць культурнае поле. Ва ўсім свеце дзяржаўныя музеі супрацоўнічаюць з уладальнікамі прыватных калекцый. Гэта справа выгадная абодвум бакам. Думаю, так павінна быць і ў Беларусі. І першым крокам можа стаць удзел калекцыянераў мастацтва разам з крытыкамі, мастацтвазнаўцамі, мастакамі ў дыскусіі па тэме, што ўвогуле трэба лічыць мастацтвам сучасным.

**— Дзякуй за гутарку, Васіль Пятровіч. Плёну вам.**

**Гутарыў Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

ЛУЧНАСЦЬ

# Ён — легенда...

На святкаванне сотых угодкаў Мухтара Аўэзава ў Мінск прыбыла прадстаўнічая дэлегацыя з Казахстана. Паколькі юбілей казахскага класіка адзначаецца на ўзроўні ЮНЕСКА, то дзеячы культуры з Алма-Аты пабывалі ўжо ў Маскве і С.-Пецярбурзе, мяркуюць паехаць з той самай мэтай у Германію і Іран. А пасярэдзіне, як вы разумееце, Беларусь, а ў яе сталіцы для далёкіх і блізкіх гасцей ёсць Таварыства дружбы і культурнай сувязі. Тут і адбыўся "круглы стол" з удзелам афіцыйнай дэлегацыі Казахстана, пасла РК у Беларусі Ю. Клачкова, пісьменнікаў, бібліятэчных работнікаў і іншых.

У доме, дзе праводзіцца шмат падобных сустрэч і таму цяжка прыдумаць нейкія новыя формы сяброўскіх кантактаў, адбылася надзіва ўзвышаная, прыгожая, я сказала б, гаворка.

Тон ёй задала намесніца сп. Ваніцкага Ніна Сямёнаўна Іванова — "па сумяшчальніцтве" сакратар Таварыства беларуска-казахскай дружбы. З бліскучым эсэ, у якім спалучаліся абсяг ведаў з глыбінёй асэнсавання, выступіў сын Аўэзава, пісьменнік і дыпламат Мурат Аўэзаў. Згадаўшы трагічныя вехі гісторыі свайго народа (40 год ядзерных выпрабаванняў, прымусовая калектывізацыя, сталінскія рэпрэсіі, якіх не пазбег і яго слаўны бацька), Мурат Мухтаравіч правёў паралелі з беларускай гісторыяй. Ён перакананы, што нашы народы выпакутавалі права на лепшае будучае.

Акадэмік Закі Ахметаў і сакратар пісьменніцкага саюза Дулат Ісабекаў адзначылі такую рысу выдатнага мастака слова, як успрымальнасць да культур іншых народаў (ён вучыўся ў Ленінградзе і Ташкенце), яго глыбокую абазнанасць у сусветнай культуры і творчую натхнёнасць.

Пра сваё ўспрыманне твораў Мухтара Аўэзава, яго рамана "Абай", гаварыў пісьменнік Леанід Левановіч. "Гэта постаць адраджэнскага маштабу", — адзначыў ён. І прывёў такі цікавы факт: кіргіз Ч. Айтматаў лічыў сваёй святыняй эпас кіргізскага народа "Манас" і творчасць казаха Аўэзава.

Прысутны на сустрэчы Павел Атрушкевіч —наш зямляк, ураджэнец Стаўбцоўшчыны — 40 год на волі лёсу жыве сярод казахаў, адчуў дух гэтага стэпавага народа. Як старшыня Асамблеі народаў Казахстана, ён садзейнічае культурным цэнтрам беларускай дыяспары, служыць яднанню двух народаў.

Мы даведаліся, што ў Казахстане нарэшце адкрылася пасольства РБ, што новы імпульс супрацоўніцтву дала нядаўняя сустрэча нашых прэзідэнтаў. "Мы адкрываем не толькі краіны, але і адзін аднаго", — казаў першы намеснік міністра культуры Беларусі У. Рылатка. Яму ж належыць і такое дасціпнае выслоўе: "Дружба і любоў — як вусная народная творчасць—жывуць, пакуль перадаюцца з сэрца ў сэрца". На сваёй мове, мабыць, пра тое ж сказала і казахская домбра...

З кароткімі прамовамі за "круглым сталом" выступілі Г. Пашкоў, У. Паўлаў, Г. Марчук.

Кіраўнік Дэпартамента культуры, заслужаны дзеяч мастацтваў, прафесар Дусейн Касеінаў перад тым, як уручыць сувеніры, выказаў цёплыя словы ўдзячнасці ўсім прысутным і вядучай, а таксама надзею на будучае супрацоўніцтва. "Усе мы — слугі вечных каштоўнасцей", — падсумаваў ён, і хіба можна сказаць лепей?

Д. Ісабекаў адзначыў такую дэталь: вялікі сын казахскага народа, як і наш Купала, знайшоў у Маскве і сяброў, і славу, і смерць. Таму на заканчэнне прывядзём словы чалавека, які добра ведаў яго, Іраклія Андроннікава: "Ён — з'ява, ён — вялікі сімвал нашага жыцця, ён — легенда..."

**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

***Роўна 80 гадоў назад над шостай часткай зямной сушы запанавала "надоўга і ўсур'ёз" сіла, якая дагэтуль у гісторыі чалавецтва заяўляла пра сябе толькі спарадычна і без вялікіх поспехаў. Камунізм упарта і мэтанакіравана прабіваў сабе шлях не дзесяткі гадоў і нават не сотні. У розных абліччах і пад рознымі назвамі, пераважна ў тэарэтычных выкладках, ён існаваў, бадай што, на працягу ўсёй гісторыі цывілізацыі.***

***Тыя выкладкі можна адшукаць яшчэ ў VIII стагоддзі да нашай эры, калі старажытныя габрэйскія прарокі Іёль і Амос даводзілі пра дадзеную Богам спаконвечную роўнасць паміж людзьмі і несправядлівасць усялякае эксплуатацыі чалавека чалавекам. Ад Платона да Маркса шматлікія мысляры і філосафы шукалі рэцэпт аптымальнага сацыяльнага светаўладкавання. Карл Маркс як бы падагуліў іх тытанічныя высілкі і стварыў вучэнне, пра якое пазней ягоныя наступнікі сцвярджалі, што яно "ўсемагутнае, бо слушнае". Гэтае вучэнне, на іх думку, павінна было вывесці чалавецтва на якасна новы шлях эканамічна-сацыяльнага развіцця. У кастрычніку 1917 яно і вывела, праўда, не ўсё чалавецтва, а толькі пэўную ягоную частку на доўгашукальны бальшак, скіраваны да "светлай будучыні"...***

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

# Вяртанне ў Эдэм

## НЕСВЯТОЧНЫЯ НАТАТКІ НАПЯРЭДАДНІ СВЯТА

I

На расійскай глебе Марксавы духоўныя саджанцы далі надзвычай багатыя ўзыходы. Але ці было гэта нечаканым? І ўвогуле, ці была нечаканай "Вялікая рэвалюцыя" ў адной "асобна ўзятай краіне", адной з буйнейшых і магутнейшых на той час імперый у свеце?

Надыход катаклізму ў матухне Расіі неаднаразова прадказвалі найбольш дальнабачныя з яе сыноў. Напрыклад, славуты "рэвалюцыянер-дэмакрат" Аляксандр Герцэн, які пісаў у сярэдзіне XIX стагоддзя: "Сацыялізм будзе развівацца ва ўсіх сваіх фазах да крайніх наступстваў, да абсурду..." "Кансерватар" Фёдар Дастаеўскі таксама прадчуваў у апошнія гады жыцця: "...выйдзе такі морак, такі хаос, нешта... грубае, сляпое, бесчалавечнае, што ўвесь будынак абрынецца пад праклёнамі чалавецтва, да таго як будзе завершаны..." Амаль адначасна з Дастаеўскім "люстэрка рускай рэвалюцыі" Леў Талстой бліскуча "адлюстраваў" схему будучых працэсаў: "Да ўлады прыйдуць балбатуны-адвакаты і прапойцы-памешчыкі, а пасля іх — Мараты і Рабесп'еры". Прарочылі і расійскія паэты: "Настанет год, России чёрный год, Когда царей корона упадёт..." (М. Лермантаў); "Люди, вы ль не узнаете Божьей десницы: Сгибнет четверть вас от глада, мора и меча..." (А. Блок).

Усе прароцтвы, на жаль, збыліся самым дакладным чынам. "Чорны" 1917 год стаў пачаткам працяглай і цяжкай хваробы велізарнай краіны. Да ўлады прыйшлі спачатку "балбатуны-адвакаты", а потым не прымусілі сябе чакаць і расійскія Мараты з Рабесп'ерамі. Сацыялізм вельмі імкліва развіўся "да крайніх наступстваў". Народ Расіі зрабіў выбар на карысць не сваіх традыцыйных духоўных імператываў, а бясконца чужых сацыялагічных схем, якія вельмі нагадвалі схемы тэалагічныя. Але для таго, каб такі выбар зрабіць, патрэбны былі пэўныя перадумовы, якія бліскуча стварыла расійская інтэлігенцыя, палічыўшы за лепшае не асэнсоўваць гісторыю, а бязглузда над ёю маралізаваць.

І ўвогуле, рэвалюцыйны дух быў далёка не чужым для бясконцых расійскіх прастораў. Гістарычны шлях развіцця Расіі даволі шчыльна памечаны вехамі шматлікіх "дзікіх і бяссэнсавых" бунтаў. Дастаткова згадаць імёны Разіна і Пугачова, паўстанні якіх пакідалі пасля сябе шырачэзны крывавы шлейф... Меў народ расійскі схільнасць да бунтарства. "Менавіта з іх, з гэтых самых русічаў, спаконвеку слаўных сваёй антысацыяльнасцю, — пісаў пасля Кастрычніка Іван Бунін, — якія далі са свайго асяродку безліч "удалых разбойнікаў", безліч бадзяг, летуноў, а потым хітроўцаў, басякоў, якраз з іх і вербавалася краса і гонар, надзея рускай сацыяльнай рэвалюцыі..."

Таму крыху дзіўнымі здаюцца сёння меркаванні паасобных сучасных расійскіх даследчыкаў, якія ў стварэнні "рэвалюцыйнай сітуацыі" ў Расіі абвінавачваюць выключна "іншародцаў". Для таго, каб чужое "насенне" дало такія багатыя ўзыходы, патрэбна была вельмі добра падрыхтаваная глеба. "Сацыялістычная рэвалюцыя не можа перамагчы адначасна ва ўсіх краінах, — прыйшоў да высновы У. Ленін падчас першай сусветнай вайны. — Яна пачнецца ў такой краіне, дзе супярэчлівасці імперыялізму дасягнулі найбольшай вастрыні... Такая краіна будзе ўяўляць з сябе найбольш слабое звяно ў ланцугу імперыялізму і тут лягчэй за ўсё парваць гэты ланцуг..." Такую краіну будучаму "правадыру сусветнага пралетарыяту" не трэба было доўга шукаць...

II

У. Ленін даволі слушна вызначыў Расію як краіну, што мела для рэвалюцыі ўсе неабходныя эканамічныя і палітычныя перадумовы. Але не высакародныя мэты "знішчэння усялякай эксплуатацыі чалавека чалавекам, поўнай ліквідацыі падзелу грамадства на класы, бязлітаснага падаўлення эксплуатататараў", — як сцвярджалася ў знакамітай "Дэкларацыі правоў працоўных і эксплуатуемага народа", прынятай на III Усерасійскім з'ездзе Саветаў, — былі галоўнымі для гэтай рэвалюцыі. Замест знішчанай "усялякай эксплуатацыі" рускі народ, а заадно і ўкраінскі, беларускі і многія іншыя народы атрымалі эксплуатацыю, якой, па сваёй звышарганізаванасці і жорсткасці, бадай што, не было яшчэ ў сусветнай гісторыі. Куды там няшчасным будаўнікам егіпецкіх пірамід ці кітайскай сцяны да шчаслівых "стваральнікаў" Беламорканала або даваеннага БАМа, ці прыгонным сялянам Салтычыхі да "добраахвотна" калектывізаваных калгаснікаў якога-небудзь "Нового пути"...

Як гэта ні дзіўна, але галоўнай прычынай рэвалюцыі ў Расіі былі не вышэйзгаданыя прычыны, не татальныя змовы "іншародцаў", багата фінансуемых "цёмнымі знешнімі сіламі", а самы звычайны нацыянальны (і, безумоўна, імперскі!) інтарэс Расіі. Менавіта бальшавікі аказаліся найлепшымі ў гісторыі вялікай імперыі выразнікамі і абаронцамі яе нацыянальных інтарэсаў...

Пацвярджэнне гэтаму няцяжка знайсці і ў дарэвалюцыйных працах усё таго ж У. Леніна, які неаднаразова зазначаў, што ў Расіі назіраецца грандыёзнае засілле замежнага капіталу, які, безумоўна, свядома тармозіць развіццё важнейшых у стратэгічным плане галін прамысловасці Расіі, напрыклад, машынабудавання, і штогод выпампоўвае з краіны сотні мільёнаў рублёў у выглядзе прыбытку і працэнтаў па займах. Усё гэта, на думку У. Леніна, абяскроўлівала расійскую эканоміку...

Відавочна, дзесьці тут, а не ў дэкларатыўных дэмагагічных закліках да "вызвалення працоўных", і хавалася адна з асноўных спружын будучай рэвалюцыі.

Менавіта таму, на нашу думку, супраціўленне галоўных крыважэрных эксплуататараў няўхільнаму поступу "рэвалюцыйных мас" было такім непераканальным і хутчэй умоўным. Найбольш актыўна супраціўляліся тыя слаі грамадства, у якіх аказаўся не зламаным духоўны стрыжань, якія інстынктыўна адчувалі смяротную пагрозу бальшавізму менавіта духоўнаму патэнцыялу народа. Што да "эксплуататарскіх", уласна капіталістычных вярхоў, то яны яўна разлічвалі рукамі агрэсіўных і імпэтных бальшавікоў расчысціць шлях для сваіх уласных мэт.

Падобна на тое, што марозавы і рабушынскія "джына" з бутэлькі выпускалі мэтанакіравана і паслядоўна, не зусім разумеючы наступствы такога легкадумнага кроку. Праўда, пазней "джын" той найлепшым чынам атаясамляў імперыю жорстка і няўхільна адстойваючы яе інтарэсы, але яму зусім не былі патрэбны спадарожнікі-канкурэнты. Бальшавікі не сталі дзяліцца "вялікай перамогай" і бязлітаснай "рэвалюцыйнай мятлою" вымелі з краіны як чужы, так і нацыянальны капітал, а заадно залішне еўрапеізаваную расійскую інтэлігенцыю, што нямала зрабіла для духоўнага сталення і ўзлёту бальшавізму. Не мінула "карающая десница" і многіх блізкіх спадарожнікаў і саюзнікаў, якія актыўна дапамагалі разбураць дзяржаўную сістэму Расіі. Не абмінулі амаль нікога з патэнцыйных канкурэнтаў — ні чыноўніцтва, ні вайскоўцаў, ні купецтва. Цэлыя класы і слаі грамадства вынішчаліся пад корань. Затое няўхільна адстойваўся "нацыянальны інтарэс". Вялікага маху далі тыя, хто разлічваў на спіне бальшавікоў "даехаць у рай". У актыўна будуемым новым Эдэме на іх яўна не разлічвалі...

Бальшавізм не проста аказаўся найбольш удалым спадкаемцам імперскасці — ён вывеў яе на новы, нечувана высокі ўзровень. За вонкавай дэмакратызацыяй адміністрацыйнага падзелу, за "аўтанамізацыяй" і стварэннем незвычайнай для сусветнай практыкі палітычнай сістэмы СССР, як аказалася пазней, хавалася надзвычай жорсткая і шавіністычная па сваёй сутнасці палітыка зніваліявання ўсяго адметнага ў нацыянальным плане. Асабліва гэта датычыла "блізкіх" — украінцаў і беларусаў. У гэтай ганебнай справе бальшавікі, трэба сказаць, "преуспели"...

III

Напярэдадні рэвалюцыйнага "прарыву" супалі інтарэсы розных сіл. Гэта і інтарэсы вышэйзгаданай пэўнай часткі буйнога нацыянальнага капіталу, што разлічваў адным ударам раз і назаўсёды пакончыць з замежнай фінансава-эканамічнай экспансіяй, якая, на іх думку, ужо выканала сваю першапачатковую інвестыцыйную задачу. Гэта і інтарэсы тых самых каварных "іншародцаў", у якіх былі таксама даволі празаічныя мэты — асвоіць нарэшце вышэйшыя паверхі расійскай уладнай сістэмы, куды шлях для іх да 1917 г. быў практычна закрыты і куды яны ў выніку рэвалюцыі ўварваліся вельмі актыўна, запоўніўшы практычна ўсе паверхі бальшавіцкай бюракратычнай сістэмы. Гэта, безумоўна, і інтарэсы галоўнага праціўніка Расіі ў імперыялістычнай вайне — кайзераўскай Германіі, якая на такія мэты сродкаў не шкадавала.

І, нарэшце, інтарэсы ўласна бальшавікоў — даволі спецыфічнай палітычнай касты-клана, што мела ў рэвалюцыі, акрамя выразна нацыяналістычных, вузка расійскіх мэт, мэты і стратэгічныя. Знакаміты "інтэрнацыяналізм" бальшавікоў якраз і быў падпарадкаваны гэтым мэтам. Успомнім усё таго ж У. Леніна, які абсалютна шчыра сцвярджаў адразу пасля Кастрычніцкай перамогі: "Мы павінны дамагчыся перамогі пралетарскай рэвалюцыі ва ўсіх, ці прынамсі ў асноўных краінах капіталу".

Прычым няма аніякай супярэчнасці паміж бальшавікамі-"імперцамі" і бальшавікамі-"інтэрнацыяналістамі", змагарамі за "вызваленне працоўных усяго свету". Для такога "вызвалення", безумоўна, быў патрэбен плацдарм, прычым моцны і надзейны. Такім плацдармам і мусіла стаць, па задуме бальшавікоў, Расія.

Гэты дзіўны сімбіёз вузкакланавых бальшавіцкіх і спецыфічна імперскіх памкненняў аказаўся надзвычай жывучым, бо моцна і стабільна сілкаваўся на спрадвечных цэнтрабежных імпульсах вялікай этнамасы. Інтарэсы малых этнасаў проста ігнараваліся, яны былі першапачаткова асуджаны на незайздросную ролю "спадарожнікаў", а некаторыя, такія, напрыклад, як беларусы, — на поўную асіміляцыю і знікненне як нацыі. Час цудоўна пацвердзіў гэтыя выкладкі. Цяжкавылечная хвароба імперскасці, звышдзяржаўнасці вельмі доўга не паддавалася "лячэнню" і ў значна больш цывілізаваных народаў Брытаніі і Францыі. Што казаць пра народ Расіі, які ў многіх пакаленнях выхоўваўся "нацэленым на ўдар"... Размова не ідзе пра натуральныя і абсалютна нармальныя нацыянальныя інтарэсы ўласна расійскага народа, на якія ён, як і ўсе іншыя народы, мае святое права. Справа ў спарадычнай схільнасці гэтых інтарэсах да "зашкальвання", да высакамернага ігнаравання крэўных праблем меншых суседзяў.

На нашу думку, рэвалюцыя ў Расіі ў значнай ступені была вынікам гэтага "зашкальвання", бліскуча маскіруемага пад інтэрнацыянальную рыторыку. На чале "паўстання пралетарыяту" апынуліся ў выніку жорсткага адбору найбольш прагматычныя і цынічныя сілы, для якіх знакамітае макіявельева: "Мэта апраўдвае сродкі" аказалася надзвычай прыдатным, як і дасканала распрацаваная ім палітычная тэхналогія. Менавіта яна ляжала і ляжыць у аснове ўсіх таталітарных рэжымаў XX стагоддзя.

"Слаўная перамога" Кастрычніка выклікала сапраўдную ланцуговую рэакцыю ў Еўропе. Сацыялісты ў тым ці іншым выглядзе захапілі ўладу па сутнасці ў большасці краін. Найбольш паслядоўныя з іх, такія, як член італьянскай рабочай сацыялістычнай партыі Беніта Мусаліні і член германскай нацыянал-сацыялістычнай партыі Адольф Гітлер, па прыкладзе бальшавікоў жорстка расправіліся з рэшткамі дэмакратыі ў сваіх краінах і ўстанавілі ў іх рэжымы, якія пазней назавуць таталітарнымі. Канечне, была пэўная розніца паміж сацыялізмам "усходнім" і "заходнім". У адрозненне ад "заходняга", які фінансавыя капіталы сваіх краін "асвойваў" даволі памяркоўна, "усходнікі" аддавалі перавагу "экспрапрыяцыям", дакладней — узброеным рабаўніцтвам з гвалтам, але сур'ёзна падмацаваным фенаменальнай палітычнай і сацыяльнай дэмагогіяй.

Але "сацыялісты" розных колераў — ад чырвонага да карычневага — так і не паладзілі паміж сабой, нягледзячы на ўсе спробы знайсці кансенсус. Былі блізкія да яго яны ў жніўні 1939 года, і ўсё ж іх шляхі-сцяжынкі разышліся. "Тытунь" стратэгічных планаў гэтых драпежнікаў не мог быць падзелены мірна. У выніку практычна ўся Еўропа аказалася ўцягнутай у адну з самых жорсткіх войнаў у гісторыі цывілізацыі.

Аўтар далёкі ад думкі атаясамліваць усіх сацыялістаў, бо далёка не ўсе яны былі (ды і ёсць!) "ваўкамі ў авечай скуры", ад якіх засцерагаў калісьці шануемы большасцю з нас Аўтар Вялікай Кнігі. Многія з іх паслужылі ў якасці звычайных прыступак для сапраўдных "ваўкоў". У 1917 годзе Аляксандр Керанскі рабіў шмат прамоў, якія былі напоўнены шматлікімі абяцаннямі і ўсемагчымымі клятвамі. У. Ленін, насуперак агульнапрынятым сёння стэрэатыпам, рабіў вельмі мала прамоў, а І. Сталін іх не рабіў амаль зусім, за выключэннем безвыходных сітуацый. Бальшавіцкія правадыры вастрылі "зубы" рэвалюцыі без лішняй балбатні... Сённяшнія "сацыялісты-папулісты", якія, на жаль, працягваюць вызначаць наш лёс, прамоў робяць многа, але ніколі не прамовяцца пра галоўнае: пра сутнасць сваіх сапраўдных планаў у дачыненні да па-ранейшаму бяспраўных працоўных мас...

IV

Бальшавіцкая, выразна "сацыялістычная" тэхналогія аблапошвання мас, якая і сёння актыўна шчыруе вакол нас, была цудоўна адпрацаваная якраз правадырамі "вялікага кастрычніка". Цяжка быццам бы і ўявіць сабе, як людзі ў цвярозым розуме маглі верыць апантаным "гандлярам цудоўнай будучыняй"? Леў Троцкі, напрыклад, абяцаў кожнаму камсамольцу геній Платона і Арыстоцеля, а У. Ленін у 1922 годзе ў газеце "Правда" сур'ёзна сцвярджаў, што гадоў праз 10 людзі будуць працаваць па некалькі гадзін у дзень, ды і то некалькі гадоў у жыцці. На тыя невымерныя даброты, якія яны паспеюць напрацаваць за гэтыя нешматлікія гадзіны і гады, яны змогуць бестурботна бавіць час усё астатняе жыццё... Праз 10 гадоў, у 1932 годзе, мільёны даверлівых "пралетарыяў" і "працоўных сялян" "бестурботна" бавілі свой час у шматлікіх ГУЛАГах на бязмежных прасторах краіны перамогшага сацыялізму. І праз 80 гадоў мы бачым, што "вера" тая ў многіх зусім не пахіснулася.

Бальшавікі, як, дарэчы, і нацыянал-сацыялісты ў Германіі (паміж гэтымі двума "сацыялістычнымі рэжымамі наогул вельмі шмат паралеляў, якія яшчэ чакаюць свайго глыбокага асэнсавання), давалі і шэраг агульных абяцанняў, такіх, напрыклад, як **мір паміж народамі, свабода і дэмакратыя для народа,** хуткі і значны **рост дабрабыту** людзей, нечуванае **развіццё культуры і навукі**. Як на справе былі выкананы гэтыя абяцанні?

1. Мір паміж народамі. У выніку жыццё народаў, дзе перамог той ці іншы "сацыялізм", хутка стала падобным да рэжыму казармы. Найвялікшыя "міратворцы" "ваявалі" так ці інакш практычна на працягу ўсіх 80 гадоў існавання "сацыялізму".

2. Свабода і дэмакратыя. Забеспячэнне свабоды і дэмакратыі ў СССР (і ў нацысцкай Германіі) пачалося з адхілення народа ад якога б там ні было ўдзелу ў вырашэнні свайго ўласнага лёсу, нягледзячы, на фармальна "самую дэмакратычную ў свеце Канстытуцыю", прынятую ў СССР, і не менш "дэмакратычныя" рэферэндумы ў Германіі 30-х. Замест "волі народа" панавала "воля правадыроў", якія праводзілі яе шляхам бязлітаснага падаўлення нават самых нязначных "несанкцыянаваных" праяў. У выніку знішчаліся, як мы ўжо адзначалі, цэлыя слаі насельніцтва, толькі ў нацыстаў не па класавым прынцыпе, а — па расавым. Але чалавеку, якога ставяць "да сценкі", усё роўна, з якім ідэйным абгрунтаваннем яго накіруюць "на той свет" — з марксісцкім ці нацысцкім.

Знішчаючы варожыя класы ці расы, знішчалі лепшыя, найбольш адметныя "сланечнікі" сярод моцна забуялага духоўнага пустазелля, тых, у каго была воля да свабоды, талент, лепшыя генетычныя "праграмы" наступных пакаленняў. Па вялікім рахунку, тэрор гэты, ды і ўвогуле тэрор усялякіх рэвалюцый, накіроўваўся не толькі супраць пэўных класавых ці расавых ворагаў, але і супраць усёй нацыі. Не паталагічная крыважэрнасць Марата, Рабесп'ера, Сталіна, Гітлера была таму прычынай. Гвалт быў і застаецца прагматычным і НАТУРАЛЬНЫМ спосабам падтрымання НЕНАТУРАЛЬНЫХ грамадскіх канструкцый! У выніку людзі аказаліся пазбаўленымі нават тых свабод, якія яны мелі падчас "рэакцыйных рэжымаў". Скінуўшы адны ланцугі, працоўны люд атрымаў іншыя, больш цяжкія і ганебныя, бо цяпер тыя ланцугі належала ўслаўляць і апяваць.

3. Рост дабрабыту. Гэта была адна з ключавых мэт усіх рэвалюцый. Краіну "перамогшага пралетарыяту" ў гэтым плане чакала нечуванае фіяска. Гаспадарчае жыццё было скіравана зусім не ў гэтым кірунку, а да насычэння прагі да ўлады кіруючага клана-касты. Гэтая ўлада змагла манапалізаваць практычна ўсе сферы чалавечага жыцця — ад размеркавання "пайкі" да інтымных стасункаў. Усё будавалася для ўлады і дзеля ўлады, абсалютнай і невымернай. Трагедыя заключалася ў тым, што невялікі слой грамадства, які відавочна паразітаваў на гэтым ладзе,

*(Працяг на стар. 12)*

## Запісвалі Чачот і браты Тышкевічы

**Шматтомны збор "Беларуская народная творчасць", які ажыццяўляе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, папоўніўся чарговай кнігай. Выдавецтва "Беларуская навука" выпусціла том "Фальклор у запісах Яна Чачота і братоў Тышкевічаў" (укладанне, сістэматызацыя тэкстаў і каментарыі В. Скідана і А. Хрушчовай, уступны артыкул Т. Валодзінай).**

**Гэта не першае вяртанне творчай спадчыны Я. Чачота сучаснаму чытачу. Кніга яго выбраных твораў выходзіла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", яго ж аднатомнік паклаў пачатак "Беларускаму кнігазбору". Але ў згаданых зборніках увага засяроджана на арыгінальных творах Я. Чачота. Ён жа шмат запісваў вуснапаэтычную творчасць беларускага народа. Праўда, дасюль з гэтымі запісамі былі знаёмы толькі спецыялісты, бо кнігамі, у якіх яны змешчаны, далёка не кожны можа пакарыстацца, да таго ж шмат што засталося ў рукапісах.**

**Цяпер жа ў "Фальклоры ў запісах..." даволі поўна прадстаўлены калядныя, валачобныя, веснавыя, купальскія, жніўныя, хрэсьбінныя, вясельныя, пазаабрадавыя песні з "калекцыі" Я. Чачота і калыханкі. Ёсць у кнізе і такія раздзелы, як "Крывіцкія прыказкі і прымаўкі", "Прыказкі і прымаўкі, прыстасаваныя да свят", "Адметныя выразы і параўнанні, якія можна аднесці да прымавак", "Загадкі".**

**Вернута з небыцця і частка фальклорнай спадчыны, да збераЖэння якой мелі дачыненне браты Тышкевічы. Малодшы Яўстафій Піевіч, як вядома, застаўся ў гісторыі нацыянальнай культуры і найперш фалькларыстыкі працай "Апісанне Барысаўскага павета". З яе і ўзяты творы для гэтага тома ў серыі "Беларуская народная творчасць" (асобная матэрыялы перакладзены на беларускую мову В. Скіданам і К. Цвіркам). А ў выніку з'явіліся раздзелы "Вясельныя абрады вясковага люду ў Мінскай губерні", "Абрады вясковага люду з-над Бярэзіны", "Прыказкі жыхароў з ваколіц Бярэзіны".**

**Старэйшы Тышкевіч — Канстанцін Піевіч — пабудаваў па сваім праекце ў Лагойску флатылію з пяці суднаў і 5 чэрвеня 1857 года накіраваўся з вёскі Камень па рацэ ў бок Вілейкі, тым самым пачаўшы экспедыцыю "Вілія і яе берагі". Пазней такую назву атрымала і яго манаграфія, што стала адной з самых грунтоўных краязнаўчых прац сярэдзіны XIX стагоддзя. Поруч са зборам іншых матэрыялаў К. Тышкевіч запісваў і песні, праўда, не сістэматызуючы іх па жанрах. У кнізе "Фальклор у запісах..." друкуюцца і песні і прыпеўкі.**

**В. ЗУШЧЫК**

## Слова са словам вяжацца

**Розныя народы ўступаюць адзін з адным у кантакты, а гэта непазбежна сказваецца і на стане лексікі — з'яўляюцца запазычанні з іншых моў. Гледзячы ж шырэй, пры гэтым адбываюцца складаныя працэсы. Гэта тычыцца развіцця і суседніх літаратур.**

**Гэтыя праблемы, дарэчы, знаходзіліся ў цэнтры ўвагі IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі, якая праходзіла 22—24 красавіка ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце. Тэма гаворкі была такой: "Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства". З дакладамі і выступленнямі ўдзельнікаў канферэнцыі можна будзе пазнаёміцца ў буйнейшых бібліятэках краіны — згаданы універсітэт выпусціў іх ратапрынтным спосабам (у трох частках). Праўда, наклад невялікі, усяго 220 экземпляраў, ды, як кажуць, гэта ўсё ж лепш, чым нічога.**

## І ўчарашні дзень, і сённяшні

**Яшчэ адну кнігу ў серыі "Школьная бібліятэка" выпусціла выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Гэта калектыўны зборнік апавяданняў і апавяданняў "З мінулага і сучаснага", змест якога склалі творы розных празаікаў: "Ластаўкі" А. Кулакоўскага, "Пакуль не развіднела" Б. Сачанкі, "Порахам пахла зямля", "Абуджэнне", "Сівы конік" У. Дамашэвіча, "Пагарэльцы", "Салодкія яблыкі" В. Адамчыка, "Гарадскія" В. Карамазава, "Радаміца", "Мама чакае", "Жулік" А. Кудраўца, "Рандэву на манеўрах" У. Арлова.**

КНІГАРНЯ

# У пошуках самапазнання

У апошнія 10-15 гадоў выявілася ў нас немалая група даследчыкаў, якія працуюць на сумежжы розных галін беларусістыкі. Калі абмежавацца тут людзьмі старэйшага пакалення, то гэта Генадзь Каханоўскі, які нядаўна пайшоў ад нас, Адам Мальдзіс, Леанід Лыч, Уладзімір Конан, Генадзь Кісялёў, Арсень Ліс, Вячаслаў Шалькевіч, Янка Саламевіч, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан... За мяжой — Янка Запруднік, Юры Туронак, Мікола Нікалаеў... І хоць іх навуковыя інтарэсы сфармаваліся даўно, але менавіта зараз зроблена асабліва многа ў вывучэнні культурнай спадчыны свайго народа. Прычым на тых дзялянках, якія былі зусім занядбанымі. І гэта зразумела: у пераломныя часы нацыянальнага развіцця, часы выпрабаванняў і надзей, павышаецца цікавасць да ўласных каранёў, да самых разнастайных з'яў і працэсаў духоўнага жыцця, бо ўсе яны лучаца ідэяй адраджэння Беларусі. Пералік згаданых спецыялістаў можна было б працягваць, але заўсёды ў ім застанецца яшчэ адна асоба — Аляксей Каўка.

Жывучы і працуючы ў Маскве, А. Каўка пільна ўглядаецца ў родную рэчаіснасць і вельмі чуйна рэагуе на ўсе праявы яе грамадскага жыцця. Чалавек па-беларуску лагодны і добры, зычлівы ў адносінах з сябрамі і калегамі, ураўнаважаны па натуры, нават крыху па-сялянску непасрэдны (а ў кага з нашых патрыятычна заангажаваных інтэлігентаў не заўважаецца гэтая якасць, што псіхалагічна звязвае з народнымі асновамі?), ён здольны ўзрывацца шквалам эмоцый, бурнай энергіяй, інтэлектуальна вытанчаным сарказмам, калі закранаецца гонар нацыі, калі зняважаюцца яе гістарычныя правы, скажаецца праўда пра яе лёс. Пачуццё трывогі за стан нашых духоўных каштоўнасцяў, жаданне давесці непарыўнасць нашай культурна-нацыянальнай традыцыі і падказалі, трэба думаць, А. Каўку яго кнігу з характэрнай назвай-выклікам: "Тут мой народ", выдадзеную ў Мінску у 1989 г. І вось новая кніга А. Каўкі — зборнік пад загалоўкам зноў жа дэманстратыўна годным: "Жывём!" (М.-Мн., 1997). Удакладненне да загалоўка — "Старонкі беларускага самапазнання".

Кнігу склалі артыкулы, рэцэнзіі, даклады, публічныя выступы, інтэрв'ю аўтара. Сабраныя разам, яны ўвасабляюць свет нашага сучасніка, тагО беларускага інтэлігента, для якога ідэі адраджэння Беларусі — найвышэйшая каштоўнасць жыцця. У кнізе не знойдзем строга акадэмічнага аналізу падзей і фактаў. Навуковыя назіранні і высновы ідуць тут побач з публіцыстычнымі, з'яўляюцца іх своеасаблівым працягам. Красамоўныя ў гэтых адносінах назвы раздзелаў: "Тэрыторыя ці нацыя?", "Прыйдзе мудры палітык", "Усебеларускі ўздым наперадзе", "Як прыроджаны беларус", "Не жаліцца — працаваць", "Застацца сабою", "Беларускі дом — Беларускі Храм". Постаці, што сталі аб'ектам вывучэння, — Францішак Скарына, Тадэвуш Касцюшка, Павел Шпілеўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Іван Луцкевіч, Зоська Верас, Мікалай Улашчык. Развагі над іх лёсамі нязменна праводзяць аўтара да абагульненняў-рэфлексій на тэмы нацыі, яе шляхоў, яе будучыні. Невыпадкова зборнік адкрываецца артыкулам "Беларускі рух вызваленчы (спроба агляду)".

У кнізе разам з тым знойдзем цікавыя архіўныя знаходкі, малавядомыя факты з гісторыі беларускай культуры. Да прыкладу, вядзецца гаворка пра рукапісы П. Шпілеўскага, яго няпростыя адносіны з часопісам "Москвитянин". Упэўнена трактуецца рускі філолаг, акадэмік А. Шахматаў як паслядоўны прыхільнік беларускага руху, прыводзіцца тэкст яго ліста да Аляксандра Уласава, а таксама ліст Івана Луцкевіча да А. Шахматава. Не можа не зацікавіць і ліст з рэдакцыі "Нашай нівы" (застаўся без адказу), адрасаваны ў Лондан кіраўніцтву Польскай сацыялістычнай партыі ў 1907 г. Слушныя аргументы знаходзіць аўтар у артыкуле пра глыбокі хрысціянскі змест асветніцкай дзейнасці Ф. Скарыны. Дакладна расстаўлены акцэнты ў характарыстыцы шматграннай дзейнасці І. Луцкевіча, а сама яго праца на беларускай ніве паказана канкрэтна, з прыцягненнем новых матэрыялаў.

Яшчэ А. Каўка разважае над каталогам "Кніга Беларусі" і лёсам беларускага друку ва ўмовах Расійскай імперыі, узроўнем яго вывучэння ў Савецкай імперыі, абмалёўвае навуковы і чалавечы воблік Мікалая Улашчыка, раскрывае сваё бачанне "заходнерусізму" і яго сучасных метамарфоз, дае водпаведзь аднаму з беларускіх лінгвістаў, які прапаноўваў, каб беларуская мова выжывала ў смелым спаборніцтве з рускаю (А. Каўка тут напамінае пра розныя стартавыя ўмовы і рэальныя магчымасці для такога спаборніцтва). Грунтоўна разглядае ён праблему "Усходу" і "Захаду" ў мастацкім светабачанні Я. Купалы.

Усяго ў зборніку 23 раздзелы-часткі, і аўтар выступае ў ролі гісторыка, палітолага, філосафа, літаратуразнаўца, этнографа, кнігазнаўца, пераконваючы чытача і эрудыцыяй (уключае кожную з'яву культуры ў салідны кантэкст), і логікай доказаў. Але розныя іпастасі знанага беларусіста прыводзяцца тут, урэшце, да "агульнага назоўніка" — перад намі перш за ўсё патрыёт Бацькаўшчыны, нястомны руплівец на глебе нацыянальнага адраджэння. Для кніжкі ў цэлым надта характэрнымі могуць быць наступныя высновы аўтара: "На фоне разнявоеленае творчае думкі адвечны дэфіцыт Беларушчыны ў Беларусі, мабыць, найвастрэйшы з усіх нашых нястач, не здаецца нам неадольным. Здабыванне ўласнае Бацькаўшчыны, шлях беларуса да Беларусі, якім бы ні быў цярністым, задоўжаным, завершыцца гістарычнай перамогай. А значыць і Беларушчына ў Беларусі — разняволенае нацыянальнае развіццё ва ўсёй паўнаце, з традыцыйна напружанага, змагарнага стану "віхуры і націску", "мужнасці і геройства" набудзе ўрэшце натуральны, унармаваны характар. І постканіяльны абшар на геаграфічным стыку еўрапейскага Усходу і Захаду, знаны ў свеце ад нядаўняга пад фармальнай назвай Рэспублікі Беларусь, пачне прываблівацЬ тоеснасцю нацыянальнага аблічча, адэкватным саманазве беларускім ладам і стылем жыцця".

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ**

# Нелістападаўская мелодыя кахання

Пра каханне сказана і напісана шмат. І тым не менш, нягледзячы на багатую палітру вершаваных вобразаў гэтага вечнага пачуцця, заўсёды з цікавасцю гартаеш новы зборнік інтымнай лірыкі. Бо чакаеш ад яго суладнасці з уласным унутраным светам і таго незамнога, Боскага святла, якое ратуе ў змрочную часіну. Вершы Міколы Шабовіча з невялікай кніжачкі "Яшчэ пакуль не лістапад...", выдадзенай у 1996 годзе творчай фірмай "Тэмікс", упэўнена, знойдуць шчыры водгук у чытача. Сама назва гучыць сімвалічна: толькі голая, бязрадасная восень душы можа пазбавіць чалавека здольнасці кахаць. І адначасова — жыць.

У зборніку няма суму і сляпога адчаю, якое дастаткова часта можна сустрэць у творах іншых паэтаў. Каханне як непазбежная і ўсеабдымная субстанцыя дазваляе лірычнаму герою М. Шабовіча не заблытацца ў складаных варунках лёсу, захаваць сваё цэласнае і гарманічнае "я":

***Люблю цябе, адну цябе люблю,***
***Няхай наўкол сцюдзёна і віхурна***
***І белы пух атульвае зямлю***
***Пад музыку "Асенняга накцюрна".***

Гэтае чатырохрадкоўе выступае лейтматывам да ўсёй кніжкі, дапамагае адчуць глыбіню светаўспрымання паэта. Менавіта яно, маленькае, змешчанае ў самым канцы зборніка, нагадвае мне выразны, па-майстэрску выкананы акорд. І ўразіў гэты вершмініяцюра, верш-імпрэсія, калі хочаце, значна больш, чым асобныя творы з пяці-шасці строф. У іх ужо расстаўлены аўтарскія акцэнты, зроблены пэўныя высновы, а чытачу застаецца хіба што атрымліваць "асалоду" ад пасіўнай ролі сузіральніка. У мініяцюры "Люблю цябе, адну цябе люблю..." паэт працуе разам з чытачом. Стварэючы ўражанне недавершанасці, М. Шабовіч дае кожнаму з нас права на ўласнае ўспрыманне твора і яго завяршэнне. Нешматслоўнасць насычае верш імпульсіўнасцю і дынамікай. Адметная пазіцыя галосных гукаў стварае своеасаблівую музыку. У выніку перад чытачом паўстае малюнак зімовай непагадзі, ратункам ад якой — цяпельца шчырай і аддана любові.

Дарэчы, у большасці вершаў зборніка гучыць музыка. Пяшчотна-трапяткая, мінорна-задуменная. Дазволю сабе працытаваць некалькі ўдалых, на маю думку, строф:

***Апошніх крокаў блюз самотны***
***Зноў разарваў начную ціш,***
***Нібыта птушкай пералётнай***
***Ты заўтра ў выраі адляціш...***
***("Палалі зоры над зямлёю...")***
***Пальецца чыстая мелодыя***
***Яшчэ не выказаных слоў,***
***І ціхі вечар з асалодаю***
***Ля нашых схіліцца галоў...***

*("Яшчэ за вокнамі віхурыцца...")*

М. Шабовіч умее расчуць музыку ў самых звычайных, на першы погляд, жыццёвых праявах. Толькі я нездарма падкрэсліваю — на першы погляд. Бо хіба гэта звычайнасць, калі побач каханая і ўсё, што яе акружае, напоўнена чароўнымі гукамі? І нават простае маўчанне набывае ў паэта асаблівы сэнс (верш "Як добра, што мінае час самоты..."). Праўда, у адным з твораў зборніка музыку стварае піяніна. Ягоны акорд шчымліва працяў цішыню начной вуліцы і прыцягнуў, нібы магніт. Лірычны герой верша ў думках цалуе ўжо нясмела "мелодыю вачэй, і рук, і рухаў". Хіба не хораша сказана, далікатна, з тонкім густам? Ноч у творы — як увасабленне безабароннасці чалавечай душы, пакуль яшчэ не абагрэтай каханнем. Акорд піяніна становіцца тым выратавальным агеньчыкам, які выводзіць з тупіка безвыходнасці і напаўняе жыццё сэнсам.

Увогуле ж сэнс жыцця для лірычнага героя М. Шабовіча — кахаць. Пакутліва і аддана. У самоце бялюткай зімовай завеі і ў шоргаце лістоты асенняе ночы. Але найвялікшае шчасце прыносяць паэту спеўныя летнія вечары, калі да самага рання рука ў руцэ, калі "гучыць птушына ў вышыні цудоўная мелодыя пяшчоты". І над абодвума закаханымі — зорка як сімвал вечнага і неўміручага. Дарэчы, гэты вобраз з'яўляецца скразным у зборніку. Відаць, значны ўплыў на М. Шабовіча аказала Багдановічава зорка Венера. І ў рытміцы вершаў М. Шабовіча, і ў іх музычнасці асабіста мне бачыцца сувязь з інтымнай лірыкай Максіма Багдановіча. Асабліва такое падабенства адчуваецца ў вершы "Двух жаўрукоў грудзей сваіх хаваеш...". Для таемнага моманту яднання М. Шабовіч знаходзіць такія словы, што ў чытача ўзнікае ўражанне лёгкасці і палёту. Паэт звяртаецца да дзеясловаў, пры гэтым дасягаючы не нястрымнай паспешлівасці, а салодка-працяглага імгнення па-новаму зразумець і адчуць каханага чалавека. Пасля чаго... згубіць яго ў беласнежнасці зімы альбо ў асеннім дні. І доўга-доўга чакаць вяртання, бо такі ўжо, мусіць, у лірычнага героя лёс: "глядзець бясконца пад аблокі".

У зборніку М. Шабовіча прыемна ўражваюць нечаканыя спалучэнні слоў, якія ствараюць адметныя вобразы:

***Нам не вярнуцца ў колішнюю восень***
***І не вярнуць пачуццяў лістабой.***

*("Давай пафіласофствуем з табой...")*

Лістабой пачуццяў — незвычайнае, згадзіцеся, у асацыятыўным плане словазлучэнне. Аднак у чытача ствараецца выразная карцінка асенняга лісця, якое так падобна на бурлівасць чалавечых пачуццяў.

У многіх вершах зборніка адчуваецца ўвага да слова. М. Шабовіч адной з асноўных сваіх задач бачыць пошук "незацяганых" моўных адзінак. Услухайцеся ў гучанне слоў **знячэу, суцем, мігатлівы, несустрым**. Хіба не надаюць яны паэтычнай мове мілагучнасці і хараства? Хочацца пажадаць М. Шабовічу і надалей гэтак жа ўдумліва працаваць над словам. І калі ў паэта "яшчэ пакуль не лістапад", то стварыць неўзабаве новы зборнічак інтымнай лірыкі.

**Таццяна СТАРАСЦЕНКА**

ЧАСОПІСЫ

# У жыцці заўжды няпроста

Сёлета мы не робім штомесячных аглядаў часопісаў, але надараюцца выпадкі, калі пра чарговы нумар проста нельга не сказаць. А з'яўленне восьмай, палымянскай кніжкі, якая, праўда, крыху запазнілася, гэта якраз такі выпадак. Рэдка які яшчэ нумар, хоць планка мастацкасці "Полымем" пастаянна вытрымліваецца на належнай вышыні, бывае такім цікавым і змястоўным.

У першую чаргу гэта тычыцца прозы, якая прадстаўлена рознымі жанрамі. У. Паўлаў выступае з аповесцю "Пад схіленым дрэвам". Чытачы, бадай, ведаюць, што ў прозе ён не навічок — як у "дарослай", так і ў прозе для дзяцей. І найчасцей піша на матэрыяле, блізкім сабе, расказвае пра людзей, якія жывуць і працуюць на яго радзіме. Новая аповесць — не выключэнне. І ў Залессі, вядома, лёгка ўгадаць Замошша, адкуль пісьменнік родам. Як і знайсці пэўныя аўтабіяграфічныя моманты ў характары аднаго з галоўных герояў Яновіча. Ды, зразумела, справа не ў гэтым. Прывабліваe ў творы добрае веданне аўтарам вясковага, сялянскага жыцця ўвогуле, прытым на значным гістарычным прамежку. Дзеянне ў аповесці адбываецца ў сённяшнім дні, але да месца рэтраспекцыі ў гады трыццатыя і ваенныя. І тады паўстае тая праўда, якую доўгі час гаварыць было нельга. І тады раскрываюцца лёсы простых людзей, якія мусілі прайсці праз суровыя выпрабаванні. І ў мірны час, але ў страшныя гады сталінізму, яны былі нават больш жорсткімі, чым у вайну. І ад гэтага нікуды не дзенешся. І пра гэта У. Паўлаў расказвае знешне як бы і стрымана і разам з тым зразумелым узрушэннем, якое да месца тады, калі ўзнімаюцца жыццёвыя пласты, пад якімі як бы схаваны лёсы канкрэтных людзей. Прываблівае ў аповесці здольнасць пісьменніка ўмела кампанаваць, здавалася б, у многім разрозненыя матэрыял. А без гэтага нельга было абысціся, бо ў невялікім, усяго ў некалькі выдавецкіх аркушаў творы, ахоплены вялікі прамежак часу. У. Паўлаў знайшоў належнае выйсце. Неаднаразова лаканічныя з'яўляюцца сведчанні, якія выступаюць свайго роду "звязкамі": "У сельсавеце з васьмі вёсак, куды ўваходзіла і Залессе, ніхто не пайшоў у паліцыю", "Карнікі спалілі вёску Адамова. З людзьмі"...

Аповесць "Пад схіленым дрэвам" — яшчэ адзін зрэз народнага жыцця, дакладна заўважаны і належным чынам асэнсаваны.

Георгій жа Марчук, як чытачы паспелі заўважыць, апошнім часам аддае перавагу навеле. Некалькі твораў гэтага "самага малога" празаічнага жанру і на старонках "Полымя" — "Вахта", "Дваццаць даляраў", "На Успенне". Усё гэта — імгненні нашага сучаснага жыцця. І за кожным выпадкам, дзякуючы майстэрству пісьменніка, праступае і тыповае, што ўжо тычыцца многіх. У жыцці заўжды няпроста, але на тое яно і жыццё, каб чалавек усё ж паспрабаваў, наколькі яму магчыма, сцвердзіцца ў ім. Г. Марчук прыхільнік навелы роздумнай, аналітычнай.

У апавяданні ж І. Капыловіча "Вольная воля" — лёс маладога чалавека, які ў юным узросце з-за людской подласці апынуўся за кратамі. Цяпер ён вяртаецца дамоў, асэнсоўваючы ў думках свой нялёгкі і няпросты жыццёвы шлях. Як складзецца далейшы лёс Сцяпана, можна толькі здагадвацца, бо пісьменнік (і правільна робіць) апошняй кропкі ў творы па сутнасці не ставіць. Мы развітваемся з героем твора ў той момант, калі ён толькі ступіў на падворак бацькоўскай хаты.

Прапануе "Полымя" і фрагменты з рамана І. Ласкова "Арцём Дабрэнька". Шкода, што аб'ём часопіса не дазваляе апублікаваць твор цалкам, бо, як відаць па прапанаваных урыўках, раман арыгінальны. А калі прыняць пад увагу месца жыхарства І. Ласкова (ён, як вядома, доўгі час жыў у Якуціі, дзе і заўчасна памёр), ёсць падставы гаварыць і аб літаратуры беларускага замежжа, няхай і блізкага. І добра было б, калі б удалося тое, што засталося ў І. Ласкова неапублікаваным пры жыцці, своечасова выдаць. Хоць бы ў серыі "Галасы беларускага замежжа".

А яшчэ абавязкова хочацца звярнуць увагу чытача на тое, як хораша адзначана 80-годдзе з дня нараджэння П. Панчанкі. Гэта і неапублікаваныя яго творы, і лісты А. Куляшова і М. Танка да Пімена Емяльянавіча, і артыкул С. Законнікава "Любоў мая цяжкая...", у якім і асабістае ўспрыманне паэзіі П. Панчанкі, але разам з тым і вызначэнне яе месца ў беларускай літаратуры.

Памеры водгуку не дазваляюць пагаварыць пра іншыя матэрыялы. Таму пажаданне: не забудзьцеся пазнаёміцца з восьмым нумарам "Полымя".

**А. М.**

# "Палессе" — выданне рэгіянальнае

Літаратурна-гістарычны і грамадска-культурны часопіс — так значыцца на вокладцы... А называецца гэты часопіс "Палессе" і выдаецца ў Гомелі. Першы нумар "Палесся" пабачыў свет яшчэ ў 1996 годзе і "ЛіМ" пра гэта паведамляў. У тым жа першым нумары заснавальнік і галоўны рэдактар часопіса Рыгор Андрэявец, выступаючы з артыкулам-зваротам "У добры шлях, "Палессе", вызначаў накірункі будучага выдання. У прыватнасці, абяцалася, што "часопіс, пачынаючы з сівой мінуўшчыны, будзе праўдзіва і аб'ектыўна асвятляць і складаць гісторыю Палескага краю", падтрымліваць маладыя таленты, "не пакіне па-за ўвагай ... і такую трагічную для рэгіёна падзею, як аварыя на Чарнобыльскай АЭС, у выніку якой значная тэрыторыя краю аказалася пад атамным попелам", а паколькі Палессе — паняцце не толькі геаграфічнае, не забывацца і пра тое, што робіцца ў суседзяў — у Бранскай і Чарнігаўскай абласцях.

Каб выканаць такія задачы, трэба, каб часопіс выходзіў больш-менш рэгулярна. Дзеля гэтага меркавалася, у 1996 годзе выдаць тры нумары аб'ёмам звыш 15 уліковавыдавецкіх аркушаў...

Мінуў год... Што ж спраўдзілася з абяцанняў? Ды, як бывае, у пэўнай ступені ўсё, за выключэннем апошняга, якое, калі прыняць пад увагу жыццядзейнасць выдання, ці не галоўнае. На жаль, той першы нумар стаў адзіным у 1996 годзе, сёлета ўдалося выпусціць два — у студзені і маі... Прычына зразумелая — цяжкасці матэрыяльнага плана. І за гэта заснавальніка не ўшчуваць трэба, а толькі паспачуваць яму, бо робіцца не толькі ўсё магчымае, а і немагчымае — прынамсі, другі сёлетні і трэці з часу выхаду нумар "Палесся" значна таўсцейшы за сваіх папярэднікаў.

Калі ж мець на ўвазе змест, дык, на маю думку, "Палессе", як рэгіянальны часопіс (хачу падкрэсліць: рэгіянальны!), атрымаўся. Матэрыялы, змешчаныя ў гэтых трох нумарах, даваляюць адчуць, чым жыве Палессе, якая ў яго багатая гісторыя, наколькі моцныя тут літаратурныя парасткі. Маецца на ўвазе творчасць не толькі тых, хто жыве ў Гомелі, а і ўкраінскіх, рускіх пісьменнікаў, а таксама тых, хто нарадзіўся на Гомельшчыне, а цяпер стала прапісаўся ў Мінску, ды не парывае сувязяў з землякамі.

Двойчы прадстаўлены ў "Палессі" Міхась Башлакоў. У першым нумары — вялікай падборкай вершаў, у другім за сёлетні — паэмай "Як слёзы горкія Айчыны...", у якой гучыць трывожны роздум пра лёс Бацькаўшчыны, а лірычны герой заклапочаны тым, каб выжыў беларускі народ, выжыла Беларусь. І, канечне ж, ва ўсіх гэтых развагах відочна чарнобыльская "падсветка": "Я шукаю Радзіму. Радзімы няма. Я гукаю народ. А вакол цішыня. Толькі мёртвай пустыні Шапочуць пяскі, Засыпаюць мой голас, Каб не ўскрэслі радкі".

Чарнобыльская тэма надзіва праканаўча гучыць у вершах Міколы Мятліцкага "Бяссмертнік", "Аксакаўшчына", "Зязюля" (N 1, 1997).

Тым больш блізкай была яна гамяльчаніну Івану Кірэйчыку — на жаль, ужо нябожчыку. Верш "Закіпаюць травы" краналы той першароднай чысцінёй, якая, калі за пяро бярэцца сапраўдны талент, прысутнічае нават у творах, драматычных па змесце:

***Закіпаюць травы на лугах,***
***Разнаквецяць, брадзяць, кашміровыя.***
***А на сэрцы — цяжкая туга —***
***Зноў не будуць травы састагованы.***
***Травы, што праўэнджаны наскрозь***
***Чорнаю чарнобыльскай нядбайнасцю,***
***Пойдуць пад снягі і пад мароз***
***Без святой,***
***Без касавіцкай радасці.***

Абразок Андрэя Федарэнкі (N 1, 1997) "Чабор" — свайго роду прызнанне ў любові да Бацькаўшчыны, але прызнанне праз роздум, што з'яўляецца падчас раней невядомага табе, якое можа быць і ў самым звычайным — у выглядзе і паху чабору.

У рамане Уладзіміра Фадасеенкі "Мутныя росы" (у першым нумары за сёлетні год апублікаваны скарочаны варыянт) па-новаму асэнсоўваюцца працэсы калектывізацыі, калі ламаліся людскія лёсы, а ў выніку галоўны герой Церак, які не пажадаў уступаць у калектыўную гаспадарку, быў аб'яўлены ворагам...

Наколькі моцны творчы патэнцыял у гомельскіх аўтараў пераконваюць вершы Таісы Мельчанкі (N 1, 1997), Юрыя Фатнева (N 1, 1996), камедыя Васіля Ткачова "Шкірдзюкі займаюць абарону" і апавяданне Анатоля Бароўскага "Вужык" (таксама N 1, 1996). Што да Фатнева, дык ён выступае і як празаік: у другім за сёлетні год часопіс пачаў публікацыю яго рамана "Кумиры творяху", пабудаванага на гістарычным матэрыяле. Дарэчы, усяго Фатневым напісана пяць раманаў, якія, на жаль, пакуль і не дайшлі да чытача.

І, увогуле, ці ўсіх, хто варты ўвагі, мы ведаем? Для прыкладу: прапануецца раздзел з рамана "Дарована судьбой" пінчука Сяргея Талкачова — "...И многое еще другое" (N 1, 1997), а раман гэты біяграфічны і расказвае пра знакамітага аўтара "Пунсовых ветразяў" Аляксандра Грына. Асобныя раздзелы ўжо з'яўляліся ў шматлікіх перыядычных выданнях, а калі кніга выйдзе, бадай, аднаму Богу, вядома!

Моцная ў "Палессі" публіцыстыка. У першым нумары за 1996 год яна была чарнобыльскай тэматыкі, у наступных самага рознага зместу.

Прыемна і тое, што з першага нумара за сёлетні год з'явіўся спецыяльны раздзел "Гісторыя і краязнаўства". Вызначаюцца артыкулы В. Лебедзевай "Трывожныя дваццатыя...", што аб'ектыўна асэнсоўвае пасляэвалюцыйныя падзеі на Гомельшчыне і "...Грамадзянка Бадунова мае шмат заслуг...", з якога паўстае постаць колішняга міністра урада Беларускай Народнай Рэспублікі, сакратара ЦК Партыі беларускіх эсэраў Палуты Бадуновай (N 2, 1997).

З аўтараў, якія жывуць у суседніх з Гомельшчынай абласцях Украіны і Расіі, можна пазнаёміцца з творамі Станіслава Рэп'яха, Аляксандра Аліініка, Ларысы Сакаловай, Дзмітра Іванова... Думаецца, правільна, што публікацыі прадстаўлены ў арыгінале — на украінскай і рускай мовах.

Ёсць у "Палессі" і пастаянны раздзел "Хроніка". Сумнення няма — ён патрэбны. Але хацелася б, каб пры падачы інфармацыйных матэрыялаў выкарыстоўваўся больш дробны шрыфт. Усё ж яны ў літаратурна-гістарычным і грамадска-культурным часопісе не асноўныя.

Калі пра ўражанне ў цэлым, дык рэгіянальны часопіс "Палессе" атрымаўся. Хацелася б толькі, каб знайшліся тыя, хто падтрымае выхад і чарговых нумароў, а па рэкламе, змешчанай на яго старонках, відаць, што такія арганізацыі і ўстановы ёсць.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

СТОП-КАДР



Люблю адзіноту,
Люблю адзіноту — скразную,
Як рана былой маладосці...
Люблю адзіноту,
Люблю адзіноту, якую
Сам Бог запрашае ў госці.

У той адзіноце
Гучаць клавесіны і флейты
Ў цешацца добрыя эльфы;
паэт заказаны
На дне беларускае мовы
Шукае пяшчотныя словы...

Л. Дранько-Майсюк

**Дзяржаўны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга 8 лістапада а 19 гадзіне ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі (праспект Скарыны, 50) прадстаўляе літаратурна-песенную праграму паэта Леаніда Дранько-Майсюка "Музыка і астры".**

**Паэтычна-зажураны настрой паэта, які ўвекавечыў Генадзь Жынкоў, спадзяёмся, на вечарынеператворыцца ў святочна-ўзнёслы...**

## Адрас кніжных навінак — Горкі

**Бібліятэчка краязнаўчай літаратуры ў Горках папоўнілася яшчэ двума выданнямі. Адно з іх — кароткі даведнік "Літаратурны музей Максіма Гарэцкага", аўтарам якога з'яўляецца У. Ліўшыц, пазнаёміць з матэрыяламі музея класіка нацыянальнай літаратуры, што знаходзіцца на яго радзіме ў вёсцы Малая Багацькаўка суседняга Мсціслаўскага раёна. Багаты ілюстрацыйны матэрыял кніжкі дае магчымасць уявіць жыццёвы і творчы шлях пісьменніка. Фінансавалася выданне Аб'яднаннем дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь.**

**У кнізе ж У. Ліўшыца і Ю. Назарава "Горецкий лесхоз. Краткий очерк истории и деятельности" расказваецца аб шляху, пройдзеным гэтай гаспадаркай за 60 гадоў. Успамінаюцца лясгасаўцы, што загінулі на франтах, былі рэпрэсіраваны, гаворыцца і пра сённяшніх працаўнікоў. Пры напісанні нарыса шырока выкарыстаны матэрыялы нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобласці, перыядычнага друку, успаміны ветэранаў калектыву. А сродкі на выданне кніжкі выдаткавала кіраўніцтва лясгаса.**

**Абедзве гэтыя кніжкі пабачылі свет у Оршы.**

**М. СТУДНЕВА,**
**супрацоўнік Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея**

## Як не спяваць пра... міліцыю

**Асабліва, калі ўпэўнены, што "мая міліцыя — мяне беражэ", і калі, да ўсяго, сам звязаў сваю працу з дзейнасцю органаў унутраных спраў. Таму паэт Кастусь Цыбульскі і вырашыў прысвяціць Слуцкай міліцыі паэму "Вецер эпохі". Ды і нагода для гэтага ўзнікла немалаважная: акурат 80 гадоў назад у колішнім павятовым горадзе і з'явіўся першы атрад народнай міліцыі. Паэма К. Цыбульскага выйшла ў Слуцку асобнай кніжкай (выдавец Істомін).**

## "Крыніцы" — 30

**Сёлета літаб'яднанню "Крыніца", якое працуе пры бярозаўскай раённай газеце "Маяк", споўнілася трыццаць гадоў. Як засведчыў пратакол ад 27 мая 1967 года, на першым сходзе літаб'яднання прысутнічалі 23 чалавекі, кіраўніком быў абраны інструктар Бярозаўскага райкама партыі Аляксандр Вінаградаў (літаратурны псеўданім — Міхаіл Авінаў), дапамагаць яму павінны былі перакладчыца з Белаазёрска Ніна Мацяш і вучань 9 класа Боркаўскай сярэдняй школы Дзіма Бартноўскі.**

**Я таксама была ўдзельніцай таго першага пасяджэння, у памяці маёй не захаваліся ні Вінаградаў, ні юны Бартноўскі, аднак добра помню, як спаткала на аўтавакзале ў Белаазёрску Ніну Мацяш і яе сястру Алену. Утрох мы і паехалі ў Бярозу. На ганку драўлянага будынка рэдакцыі нас сустракаў усмешлівы кучаравы адказны сакратар раёнкі Яўген Сяленя, які афіцыйна ўзначаліў літаб'яднанне ў 1972 годзе.**

**У "Маяку" яшчэ да ўтварэння літаб'яднання друкавалі свае першыя творы такія вядомыя цяпер пісьменнікі, як Алесь Разанаў, Ніна Мацяш, Раіса Баравікова, Анатоль Казловіч. Пазней праз літаратурнае аб'яднанне прайшлі Віктар Супрунчук, Васіль Сахарчук, Мікола Трафімчук, Мікола Арахоўскі. У выніку супрацоўніцтва з газетаю прафесійнымі журналістамі сталі Уладзімір Субат, Аляксандр Іваноў, Марыя Зубель, Георгій Мярзосаў, а Уладзіміра Сіпягіна завабіла кінатэледакументалістыка.**

**Яўген Васільевіч Сяленя і цяпер кіруе "Крыніцай", сумяшчаючы гэтую грамадскую працу з пасадаю рэдактара раёнкі, дапамагае пачаткоўцам паверыць у свае сілы, уважліва сочыць за творчасцю пісьменнікаў-землякоў, якія жывуць далёка ад Бярозы, і сам піша кнігі пра Бярозаўшчыну, яе мінулае і сучаснае.**

**Зінаіда ДУДЗЮК**

ПАЭЗІЯ

Алег САЛТУК



# Усё міне. Каханне — не!

•

*На світанку зоркі гаснуць,*
*На паўстанку бэз цвіце.*
*Мне даўным-даўно ўжо ясна,*
*На якой сысці вярсце.*

*Па дарозе буду марыць,*
*На парозе памаўчу.*
*Захачу, развею хмары,*
*Калі дужа захачу.*

*Захмялею ад раздолля,*
*Разамлею ад цяпла,*
*Захачу ажно да болю,*
*Каб і ты са мной была.*

*Прыляцела б, як маланка,*
*Смела б вусны апякла...*
*Уцякачка-паланянка —*
*Ўся з блакітнага святла!*

•

*Яшчэ не восень, але ўжо на злом*
*Ідзе няспешна лета маладое.*
*Над возерам туманы, над сялом,*
*І луг не раскашуецца травою.*

*Лес прычакаў заядлых грыбнікоў,*
*Ды ў кошыках яшчэ свіцяцца донцы.*
*На золку штось клюе і ў рыбакоў.*
*Прастор і цішыня,*
*І так — бясконца.*

*Мяне апанаваў чамусьці сум,*
*Хоць нарадзіўся сам на зломе лета.*
*У суме тым я воблік твой нясу,*
*Апеты мной і летам абагрэты.*

*Мне лёгка так і цяжка сёння так,*
*Як не было ў жыцці яшчэ ніколі.*
*Ты для мяне — агеньчык і маяк*
*У вечаровым полі маёй долі.*

•

*Мне радасна з табою гаварыць,*
*Калі за стол збіраецца сябрына,*
*Калі святло ў тваіх вачах гарыць,*
*Мая найдаражэйшая жанчына.*

*Мне радасна з табою гаварыць*
*Праз кіламетры і па тэлефоне,*
*А потым цыгарэту прыкурыць,*
*Цябе ўявіць — якая ты сягоння?*

*Мне радасна з табою гаварыць,*
*Калі нас удваіх ніхто не чуе,*
*І толькі месяц зорачкі вартуе*
*І перапёлка ў полі просіць піць.*

*Мне радасна з табою гаварыць.*
*Пра гэта закрычаць не пабаюся,*
*Пакуль на белым свеце буду жыць,*
*Пакуль навекі не адгаваруся.*

•

*Гай дрыжыць ад злых скразнякоў.*
*Восень-восень, што робіш ты?*
*Разгарэўся касцёр за ракой.*
*Ах, які агонь залаты!*

*Скразнякі, адны скразнякі!*
*Разляцеліся, загулі.*
*Так вось сталася праз вякі,*
*Так і будзе на гэтай зямлі.*

*І гарэць залатым кастром,*
*І нікога ім не сагрэць.*
*Ну, а нам, каханая, нам*
*Не сталець ужо, а старэць.*

*Я вазьму непазбыўны свой сум*
*І шпурну ў залаты касцёр.*
*А цябе на руках узнясу*
*Аж да самых высокіх зор.*

*Ды ты вернешся, знаю я.*
*Без цябе ж не змагу пражыць.*
*Ты — зямная і толькі мая*
*На грудзях, на душы,*
*на крыжы.*

•

*Нічога, любая, нічога*
*На свеце вечнага няма.*
*Ды ў нас з табой адна дарога*
*І гэта, веру, нездарма.*

*Яна пакру́частая, ведай,*
*На ёй больш золі, чым цяпла.*
*На ёй і радасці і беды,*
*І бездань цемры і святла.*

*Якая восень залатая*
*Глядзіць у вокны цягніка!*
*Я кожнай жылкай адчуваю —*
*Ў маёй руцэ твая рука.*

*Бездапаможная часінай,*
*Часінай моцная наўздзіў.*
*І без яе, напэўна б, згінуў,*
*Ці сам сабою бы не быў.*

*Я з ёй і сёння ўваскрасаю,*
*Калі яна мяне кране.*
*Я знаю, любая, я знаю:*
*Усё міне.*
*Каханне — не!*

З ПОШТЫ

Анатоль МАЙСЕЕНКА

## Песня

*Па-над зямлёй танцуюць промні —*
*То затухаюць, зноў гараць.*
*Пайду з вачэй, наўрад ці ўспомняць,*
*Ды нехта будзе паўтараць.*

*Ах, жан-чы-ны,*
*Ох, жанчыны!*
*Не вядзіце да бяды.*
*Я без вас, як без Айчыны,*
*Ці без хлеба і вады!*

*Напэўна, сам і напрарочыў:*
*На беражку маёй вясны,*
*Як ўвайшла аднойчы ў вочы.*
*Так залятае сёння ў сны.*

*Іду супроць вятроў сярдзітых,*
*Фінал нікому не відзён.*
*Ты знай адно: з тваёй арбіты*
*Я не сыду да скону дзён.*

*Ах, жан-чы-ны,*
*Ох, жанчыны!*
*Не вядзіце да бяды.*
*Я без вас, як без Айчыны,*
*Ці без хлеба і вады!*

## Курлы

*Напэўна, восень зноў спяшыла,*
*Бо з жураўлінага крыла*
*Пяро мне раптам падарыла,*
*А клін да сонца павяла.*

*Навокал пуста.*
*Дождж цярусіць.*
*Клін выгінаецца дугой.*
*З нябёс жураўлік беларусіць*
*Сваёй адвечнаю тугой.*

*Тут наша б пелася й вялося,*
*Каб мы з табой былі арлы.*
*Няўжо цяпер мне засталося*
*Адно журботнае "курлы"?..*

*Стаю пад хмарамі без шапкі.*
*У цёплы край не паплыву,*
*Хоць скора белыя ахапкі*
*Пазначаць дол і галаву.*

*Я нашы гнёзды захаваю, —*
*У іх стагоддзяў кроў і пот.*
*Ну й што,*
*што птушкі адлятаюць? —*
*Не стрэліў толькі б хтосьці ў лёт!*

Ніна ЧАРНЕЙКА

•

*Глыток бы радасці!*
*Ну хоць адзін глыток!*
*Каб валачы далей*
*цяжар зямнога быту,*
*Каб кожны дзень зямны,*
*які слязой абмыты,*
*вяртацца ў памяць,*
*каб хацеў — не мог.*

*Глыток бы радасці!*
*Ці часам ласкі простай,*
*ці дотыку гарачае далоні,*
*калі душа заблытана ў палоне*
*людскога раўнадушша,*
*кпінаў, злосці.*
*...Глыток бы радасці,*
*глыток бы ласкі!*
*І разарве душа цяжкія пасткі!*

## Грамнічная свечка

*Нават летам,*
*калі сонца і спёка,*
*мне бывае так холадна,*
*што, здаецца, кожная клетачка*
*прымерзла*
*да чагосьці невыносна ледзянога...*
*Я спрабую сагрэцца*
*цудоўнай музыкай,*
*добрым вершам*
*ці светлым успамінам.*
*Але не сграваюся.*
*І тады*
*я запальваю сваю Грамнічную свечку*
*якая саграе кожную клетачку,*
*больш жвава гоніць маю кроў,*
*кожны дзень*
*уліваючы ў мяне*
*святую любоў да зямлі.*

Наталля БУРДЗЕЙКА

•

*Жыць цяплом учарашняга сонца*
*І раптам убачыць,*
*Як новы дзень, бы светлы сцяг,*
*Уздымаецца над пацямнелымі*
*ад бяссонніцы*
*Гарадскімі вокнамі.*

•

*Плач, душа!*
*Палац твой — паветраны,*
*І адно ратаванне,*
*Што ён стаіць на зямлі,*
*На Боскай далоні,*
*На сцежках дзяцінства.*

•

*Прыгаршчы птушак*
*упалі на кроны таполяў,*
*Крыкі ірвуцца*
*у сонныя шыбы дамоў.*
*Вогненны шар*
*пакаціўся, узняўся над полем,*
*Яркімі промнямі*
*вёску фарбуе наноў.*

Юрый ШЫШК

•

*Толькі людзі і пацукі*
*Забіваюць падобных сабе.*
*І кветка новай рэвалюцыі*
*Узрастае на тле*
*З нашых душ і цел.*
*А пакуль сцены*
*Грамадскіх прыбіральняў*
*Замяняюць сабой*
*Скрыжалі гісторыі*
*Гэтага пакалення —*
*Там усё пра нас напісана.*

Барыс ДАВІДЗЮК

•

*Адхіляючы думкі благія,*
*На кастрышчы мінулых надзей*
*Дагараюць сады залатыя,*
*Добры смутак нясуць да людзей.*

*І ў ранак туманны апошніх*
*Не збірае ніхто ўжо грыбоў.*
*Толькі мокрыя шэрыя пожні,*
*Нібы людзі без мараў і слоў.*

*Не забуду жытнёвыя хвалі.*
*Назаўсёды ўжо смутак вачэй.*
*Калі лета мы ўсе шанавалі,*
*То я восень шкадую мацней.*

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

## Зорныя ноты

*На самай высокай ноце*
*Агню песнаспеўнага Духу*
*Самотна мне ў адзіноце*
*Зорныя зыкі слухаць.*

*Як хораша тут, пад сонцам,*
*А не ў міжзорнай прасторы,*
*Знаць, што жыццё бясконца*
*Сочыць таемнасць зорак.*

*На самай глыбіннай ноце*
*Майго неўтаймоўнага Духу*
*Прыходзіць святло з цямноцця*
*І зоры адважна рухае.*

СЛАНЕЧНІК, абцяжараны безліччу ім самім узгадаваных чарнапузых семак, ужо не меў сілы паварочвацца ўслед за сонцам, пільнаваць гэтую дзіўную, забытую ў сусвеце, самую годную з усіх зорку любові. Бязвольна панурыўшы галаву, ён чакаў канца. А, можа, пачатку! Пачатку свайго новага існавання там... Там, дзе ты нікому нічога не вінны, дзе лёгка дыхаецца і марыцца, дзе можна стаць бязважкім сонечным святлом ці імклівым ветрам, дзе здзяйсняюцца ўсе твае парыванні і мары, бо ты сам, і дух твой і душа ёсць ужо не што іншае, як адзінае парыванне і мара...

Пануры сланечнік утаропіўся ў зямлю. Цвыркатанне конікаў закладае род, а яшчэ, лічылася, лепш за ўсіх у іхнім гарадку замаўляла ваду і варажыла... Цяпер пасля ейнае смерці прыязджаюць па ваду да ейнага сына. Нават са сталіцы.

Пятроўна вырошчвала кветкі, Каваліха лячыла, Рыжэвічыха вучыла. Яна была першай настаўніцай і ў пляменніка Пятроўны, і ў сына Каваліхі...

Я з яе вучняў ведала толькі дваіх. Тоню і Антона. Мае равеснікі. І мусіла ж быць у іх нешта агульнае... Раз вучыліся ў адной настаўніцы. Першая ж настаўніца яна як маці...

Тоня, звычайна вельмі мяккая, чуллівая кучаравенькая бландзінка, усмешлівая і шчодрая, скончыла ў сталіцы медінстытут, і вось павандра-

— Дзякуй, — сумелася, не ведаючы як адказаць. — У нас жа сваіх, не прыдумаеш, дзе падзець. І сушым іх, і варым, і ўсё адно гніюць...

— Гэта ж надта добрыя, белы наліў, — па-паляшуцку круглячы канчатак, умольна, але з гонарам, сказала Рыжэвічыха і, не пачуўшы адказу, уздыхнула: — Ну во, каму ні прапаную, усе адмаўляюцца. І суседка кажа: "Свае е..." і ты... Поўзаю, збіраю, а каму, навошта?..

Тоня ў роспачы хацела ўжо забраць у яе тыя яблыкі. Але ж.. І ейная мама гэтаксама поўзала, уздыхала над іхнімі ападкамі. Стрымалася. Панесла два поўных вядры вады дадому...

А цяпер вось нічога ўжо не вернеш...

што пакінула Рыжэвічыха ў сваіх вучнях? І Тоня, і Антон ведаюць сабе цану. Іх ніхто ніколі не змусіць іх пакланяцца недарэчным ідалам...

Ля вакна, таго самага, за якое, здаецца, адплыла з цяпер застаўленага талеркамі жалобнага стала труна, вісела цудоўная пяшчотная акварэль. Іхняя рэчка. Царква. У ранішнім знобкім тумане... Гэта ўнучка намалявала. Надзея. Блакітныя вочы, даўгія льняныя валасы... Калі летам яна прыязджала да бабулі, шторанак бегла на рэчку, рабіла нейкую адмысловую гімнастыку, купалася... А па вечарах малявала ці, прыхінуўшыся да старой пахілай вярбы, чытала... І было ў ёй нешта нетутэйшае, такое далікатнае, вытанчанае, панскае...

Побач з ёю за жалобным сталом сядзеў ейны брат Сяржук, Сяржук, як ён сам сябе называў, увесь у канапушках, з нязвыклым тут на раёне дзявочым хвосцікам на патыліцы...

— Увесь у дзеда, — уздыхала суседка Рыжэвічыха, — Драчун. Мой жа, вы памятаеце, калі што не па ім — адразу біцца. Каб не мая цярплівасць, і мне б перападала... А гэты, малы, у рыцары запісаўся. Замкі з пластыліну лепіць, коннікаў, сам сабе латы, кальчугу зрабіў... Уяўляеце, колькі гэта цярпення трэба мець, каб з дроту сабе выплесці кальчугу... Сама не ведаю, што з яго будзе...

Галіна БАГДАНАВА



# СМЕРЦЬ НАСТАЎНІЦЫ

## У ПОШУКАХ СТРАЧАНАЙ ГОДНАСЦІ

вушы. Цішыня. За веснічкамі, за гэтымі да драбніц знаёмымі сланечніку, ягонымі блакітнымі веснічкамі сёння цішыня. Маўчыць, не прадыхнуць, камячыць насоўкі гора.

Дзверы ў хаце — напятыя. Пры іх, уздоўж сцен, дзе прыйдзецца, панурыя, стаяць, сядзяць настаўнікі ў акуратных старамодных касцюмах, суседкі ў чысценькіх светлых хусцінках. Сярод захінутых жалобай люстэрак, чорных сарочак, сукенак і стужак гэтыя хусцінкі бышцам урачыстыя, свежы подых Радаўніцы. Людзі сталага веку на пахаванне прыбіраюцца, як на свята. Можа, таму, што смерць для іх не ёсць канец? Смерць для іх — пачатак. Пачатак новага, яшчэ неспазнанага існавання. Існавання ў бязважкасці святла, імклівым подыху ветру, у летуценнасці мараў...

Захінуўшы (каб бяда не прычапілася) чыстымі хусцінкамі свае акуратна пададзеныя сівыя валасы, кабеты праводзяць у апошні шлях сваю суседку. Рыжэвічыха, цяпер ужо назаўжды сцяўшы знямелыя вусны, ляжыць у труне, ахінутая белапенным цюлем і слёзным маленнем сваіх здранцвелых ад журбы дочак і ўнукаў. Сёння ёй выпраўляцца ў дарогу, якую, нідзе не падзенешся, давядзецца рана ці позна прайсці кожнаму з нас. Невядомы шлях да вечнасці. Таемны калідор, у якім мігціць запаленая ля партрэта свечка і глуха зачыненае вакно, за якім ужо па-суседску падаюць руку, сустракаюць Рыжэвічыху суседкі — Пятроўна, што адышла ўсяго некалькі тыдняў таму, Каваліха, з якою развіталіся летась...

Пятроўна вырошчвала клубніцы, гуркі, і кветкі... Півоні, гладыёлусы, нават ружы. Вырошчвала і прадавала (і ў Мінск на Камароўку вазіла). Збірала на бязбедную старасць і на смерць. Ейны муж памёр рана, дзяцей Бог не паслаў... Усё жыццё спадзявалася толькі на сябе. Ці тое пяць, ці тое дзесяць тысяч сабралася ў яе на кніжцы, калі прыскочыла і праглынула іх усе неназэрная інфляцыя (глядзі ты, і не папярхнулася!). Праглынула, вальяжна пазяхнула, пацягнулася ды з'едліва пасміхнулася з услаўленых, шанаваных па ўсім свеце працавітасці і ашчаднасці. Па ўсім свеце ды не ў нас... Пятроўне б адпачыць, а яна, ужо хворая, перамагаючы боль у сэрцы, ціск, разам з пляменнікам і пляменніцаю ізноў капала, палола, палівала грады. Палола, пакуль не спаралізаваў яе інсульт. Пляменніца не кінула яе, дагледзела, пляменнік пахаваў. Цяпер яны ўдваіх, таксама немаладыя ўжо людзі, збіралі ў ейным садзе яблыкі. Белы наліў і мэльбу.

Каваліха таксама даглядала сад і гаваўшы са сваім падцягнутым і надта ж паслухмяным перад вышэйшымі чынамі вайсковым-мужам і такімі ж, як яна, кучаравенькімі і яснавокімі дачушкамі па Расіі і Прыбалтыцы, нядаўна вярнулася назад да маці, у гэты, да болю знаёмы ёй, родны гарадок. Цяпер яна працавала ўчастковым тэрапеўтам у раённай паліклініцы, вырошчвала мядовыя настуркі і сама не верыла, што рашылася на развод... А ўся справа ў тым, што пасля таго, як муж звольніўся ў запас і замест строгага кіцеля і пагонаў апрануў вульгарныя шорты з пальмамі і майку "адзідас", пачаў вазіць з Польшчы, Румыніі, Турцыі джынсы, красоўкі, яшчэ ўсялякую дробязь, як пачаў гандляваць, то як усё адно кайданы з яго знялі. Напіваўся, грубіяніў, зневажаў яе. Больш за ўсё яму падабалася пасміхацца з ейнае зарплаты. За месяц урач атрымлівае, колькі ён за дзень! Вось табе і залаты медаль, і чырвоны дыплом, высушаныя мазгі... Не стрывала, забрала дзяўчат і дамоў, да мамы. Муж прыязджаў, прасіў прабачыць, але яна пэўна ведала, што варта будзе яму напіцца, і ўсё паўторыцца наноў. А тут, дома, яна бышцам выпрасталася і гадна ўскінула сваю кучаравенькую галоўку. Яна радавалася, што дзяўчаты вучацца ў той самай школе, што і яна, і вучацца на выдатна, брат паступіў на юрфак, а мама пайшла на пенсію, і цяпер яны разам даглядалі гарод і нават купілі казу. У родным гарадку яе называлі не йначай, як "наш доктар"...

Гэта да яе, першай, кінулася тым страшным вечарам дачка Рыжэвічыхі, якая, ну бышцам адчувала!, прыехала на выхадныя з горада. Але яна, Тоня, як і "хуткая дапамога", якую выклікалі суседзі, ужо нічога не магла зрабіць.

— Валявая была жанчына... — зусім недарэчы сказаў шафёр "хуткай"...

— Надта ж не хацела, баялася быць нам абузай, — у роспачы прашаптала дачка. — Зіму ж у нас, у Мінску жыла, а як пацяплела, сюды папрасілася... Мы з сястрой як ні ўпрошвалі, не згадзілася, пасхала. А як тут ёй адной... Яна ж і забівацца пачала: ці паела, ці не... І хадзіла ледзь-ледзь... Без кавенькі ні кроку...

Тоня абняла яе і заплакала... За дзень да таго была моцная навальніца. Яблыкі пазбівала... Тоня прыйшла да калонкі па ваду і бачыць: Рыжэвічыха, абапіраючыся на кавеньку, навуколенцах поўзае па сваім садзе, збірае яблыкі-ападкі... Заўважыла яе, ледзь пераводзячы дыханне, зморана гукнула:

— Тонечка! Можа вазьмі сваім дачушкам яблычкаў... Вунь іх сколькі нападала...

Тоня, стоячы пры веснічках, плакала. А Антон, з якім калісьці яшчэ ў першым класе Рыжэвічыха пасадзіла за адну парту, толькі панура курыў...

Ён не плакаў. Думаў. Дзіўная рэч жыццё. Сёння ёсць, а заўтра, як пясок скрозь пальцы, — ні дзянёчка, ні хвіліначкі, ніводнага ўздыху.

І ніколі больш не трэба будзе адпрошвацца ў хітраватага выпівохі прараба, які каб выслужыцца перад начальствам у гэткую спёку пагнаў усіх грузіць цэглу. І не трэба будзе чакаць тыднямі да смешнага малую зарплату. Не трэба будзе тлумачыць Наташцы, жонцы і матцы, з кім і дзе выпіў... Але ж ужо і Наташка не прыгорне, і дачушка не прылашчыцца і сынок, як і ён, Антосік не папросіць падкінуць да неба... Застануцца ягоныя кнігі і часопісы, і курганы, там, за рэчкай, у якіх адкапаў ён старую ржавую сякеру і чарапкі, з якіх склеіў шэранькі шурпаты гаршчочак. А хто ягады, грыбы пазбірае на ягоных мясцінах? Наташка адна без яго так далёка не паедзе, не асмеліцца. І веласіпед ягоны, і лыжы, і стрэльба... Заржавее стрэльба... І не згатуе ў печы Наташка, так, як толькі яна ўмее, свежаўпалянага зайца. Не, памерці страшна... А можа і не страшна зусім... Вось Рыжэвічыха ўжо ведае, што там, за рысаю...

А яшчэ ж дні два таму сядзела яна з цёткаю Дусяй на лавачцы ля калонкі, і ён, набраў вады, пастаяў з імі... Разгаварыліся. Пра таго, каго для самых сябе незаўважна ўсе ў іхнім гарадку пачалі называць Ён.

— От ты скажы, улез людзям у душу, — шчыра абуралася цётка Дуся. — А сам...

— Пусты чалавек, — як адрэзала Рыжэвічыха, і гэтыя ейныя словы рэхам стаялі ў Антонавай памяці ўсе гэтыя дні. Як гэта страшна, калі пра цябе пажылая жанчына, настаўніца кажа ўсяго два словы: "пусты чалавек!". Гэта ж, як сланечнік без семак, ці колас без зярнят... не, не хацеў бы ён, каб пра яго ці пра дзяцей ягоных, унукаў хто-небудзь так сказаў...

На памінках Антон сеў побач з жонкай, Наташкай. І калі налілі яму першую чарку, адчуў, як тая адразу наструнілася, захвалявалася. Ён скурай адчуваў гэтую ейную заўсёдную пільнасць... Каб жа толькі не напіўся, каб жа не напіўся... Але сёння яна не раздражняла, не ятрыла яго... Ён сам пасля трэцяй, як гэта прынята, сам закрыў сваю чарку далонню. І ніхто яго не ўгаворваў, не вымушаў. Бо тут, у гэтай хаце гэта было не прынята. Тут шанавалі цвярозы розум і годнасць.

А можа, гэта і ёсць тое галоўнае,

Побач з Надзеяй і Сержуком сядзе Антонаў бацька. Ён раптам расплакаўся і, сам сабе наліўшы чарку, падняўся. І Антон ажно перасмыкнуўся ад ягонага глухога, з трэшчынай, голасу...

— Даруйце, я таксама хачу сказаць... Я любіў, я кахаў Соню... І многія з вас тут, і жонка мая, а можа, і дзеці, ведаюць пра тое. Калі яна прыехала сюды, з мужам, з дзвюма сваімі дачушкамі, і ў мяне ўжо і жонка была, і сыны падрасталі... Але калі зранку яна ў сваёй лёгкай, як аблачынка, сукенцы, у гэтых акуратненькіх туфліках праходзіла паўз наш двор у школу... Я шторанак, як заварожаны стаяў пры вакне ці ля веснічак... было ў ёй нешта такое... Гонар, годнасць у ёй была... Незвычайная. І так яна ішла, ступала... Імклівa, лёгка. Так несла сваю, як карону, аплеценую залатымі косамі галаву... У мяне ўсярэдзіне ўсё замірала. Адно слова — настаўніца... І што дзеці нашыя людзьмі сталі, гэта ж ёй, Соні, дзякуй.... А мне, мне за шчасце было, хоць прывітацца, хоць словам з ёю перамовіцца. Я потым увесь дзень як на крылах лётаў. Я ейную ўсмешку во тут, — ён пастукаў па грудзях, — во тут дасюль нашу... А сёння, як усё адно вырваў хто яе ў мяне. Пуста, як жа пуста цяпер стала...

І ён, глынуўшы, упаў на рукі і заплакаў наўзрыд. І маці заплакала разам з ім...

Атулены ляснымі, грыбнымі ўзгоркамі, ды жыццядайнымі крыніцамі гарадок развітаўся са сваёй Настаўніцай. Ля блакітных веснічак сланечнік чакаў свайго канца. А ў сталіцы, у Мінску, ля Камароўкі ўсё наўкола ўжо было запляванa семкамі. Людзі з сумкамі беглі, ішлі, спяшаліся кожны па сваіх справах і лузгалі, лузгалі семкі... Лузгалі і плявалі.. Можа, так ператвараюцца ў вярблюдаў?..

І па гэтым расплаўленым, мяккім, запляваным семкамі асфальце крочыў рыцар у латах. Ніхто не пазнаваў яго. Жалезная маска хавала ягоны ўпарты, засыпаны канапацінкамі кірпаносы твар і сабраныя ззаду ў хвосцік валасы. Ён крочыў годна, прыгожа. І, здавалася, адзін нікуды не спяшаўся. Ён ужо развітаўся са сваім маленствам. Але добра памятаў і атулены ўзгоркамі гарадок, куды прыязджаў да бабулі на лета, і тое, як шчодра, па-суседску частавала яго Пятроўна клубніцамі, і як, калі ён спужаўся сабак, Каваліха загаворвала яму крынічную ваду.. Адтуль, з маленства, з мамінай радзімы ў яго і цярплівасць, і працалюбства, і, так хочацца верыць, моц. Бо, нікому нябачная, ляціць над ім, блаславяе яго ягоная баба Соня. Сафія. Мудрасць. І ў яго стае годнасці і волі вось так, імклівa, лёгка крочыць нават па заплываным вярблюдамі асфальце.

## Ёсць прадмет мастацтва!



**Адзначыўшы сёлета ў траўні дваццацігоддзе, — як мае быць і як бывае зазвычай у Магілёўскім абласным лялечным тэатры, — значыць, паказаўшы "маленькае вытанчанае шоу" ды перадпрэм'ернага "Макбэта", Алег Жугжда і ягоная К° на злом галавы "рванулі" па фестывальныя лаўры. "Разанскія агледзіны-97" яны скаланулі адметным "Чырвоным каптурком", пасля чаго скіравалі колы сваёй "Кубані" ў Белград. Фестывальная публіка "Белгародскае забаўлянкі" атрымала невялічкі, але ўразлівы шок ад магілёўскіх "Пііпкі і ведзьмы" (паводле Сяргея Кавалёва). Дарэчы, менавіта ў Белградзе беларуская зборная ў асобах з Гомельскага, Магілёўскага ды Віцебскага тэатра лялек выглядала на рэдкасць прадстаўнічa ды гожа. "Піліпку..." назвалі "спектаклем, у якім ёсць прадмет мастацтва", "паваротным пунктам фестывалю", "заходнім спектаклем" (!). Непаўторная Ларыса Мікуліч, улюбёнка магілёўскіх дзяцей ды іхніх бацькоў, у кулуарах амаль аднагалосна была прызнана першай актрысай фестывалю ("як яна фантастычна імправізуе!").**

**Памяняўшы на пераправе коней (транспарт, бо якая "Кубань" вытрымае), магілёўцы папраставалі праз украінскую мяжу ў бок Ужгарада. Там гасцінная ужгародская "Інтэрлялька-97" каторы ўжо раз іх абдымала, цалавала ды песціла ўвагай. У кампаніі славакаў, румынаў, немцаў ды гасцінных гаспадароў-украінцаў магілёўскі "Піліпка..." пачуваўся надзвычай упэўнена: магутным беларускім акордам (музыка Паўла Кандрусевіча) завяршыў і гэтую фестывальную акцыю. Забраў і гран-пры, каб пачуць захоплена-расчараванае: "Ну вось, як заўжды, прыехаў Магілёў, усё ва ўсіх паадбіраў і з'ехаў!.." "Усё" — гэта прызы ды ўзнагароды.**

**Праз два дні, перабраўшыся праз Карпаты й памежнікаў, Магілёўскі абласны тэатр лялек урачыста адкрыў свой чарговы сезон 11 кастрычніка. Паводле адметнай завядзёнкі, адкрыў прэм'ерай. У пастаноўцы Аляксея Ляляўскага. "Неверагодным лялечным цыркавым прадстаўленнем" зрабіўся "Вясёлы цырк" Анатоля Ляляўскага ў сцэнаграфіі У. Кандрусевіча-малодшага ды з музыкай У. Кандрусевіча-старэйшага. Захопленых гледачоў беспакарана аблівалі вадой ды прымушалі рагатаць клоуны-лялечнікі Коля (М. Сцешыц), Вася (В. Прабадзяк) ды Міша (М. Беланожка). Зрэшты, пачуваецца прадметам мастацтва, хоць сабе й мокрым, нячаста выпадае нават самым спанатраным тэатралам.**

**А. Б.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Чырвоны каптурок".*

## Юбілейнае "Рэха маўчання"

**28 кастрычніка ў Беларускім Саюзе кінематаграфістаў адбылася святочная вечарына, прысвечаная пяцідзесяцігоддзю вядомага рэжысёра-дакументаліста Юрыя Хашчавацкага. Яшчэ на фільме "Сустрэчны іск" (1989) ён занатаваў словы Алеся Адамовіча: "Майсей, калі запісваў запаветы, забыўся на адзінаццаты: "не бойся". Апошні фільм Хашчавацкага "Звычайны прэзідэнт" (1997 г.), які на міжнародным Берлінскім фестывалі атрымаў спецыяльную прэмію, — сапраўдны ўчынак харобрага сэрца. Таму ўсе, хто віншаваў юбіляра — а гэта кінарэжысёры Алег Белавусаў, Вячаслаў Нікіфараў, Юры Марухін, Аляксандр Карпаў, прадстаўнікі кінавідзастудыі "Таццяна", дырэктар Інстытута Гётэ Вера Багальянц, — дзякавалі яму за мужнасць і шчырасць у кінематографе. Юбіляр у сваю чаргу "пачаставаў" сваім улюбёным фільмам "Рускае шчасце" (1992) і адкрыў сакрэт... Маўляў, днямі закончыў новую стужку пад назовам "Рэха маўчання".**

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

МУЗЫКА

# Маем дастаткова, каб... зачараваць увесь свет

### IV СУСВЕТНЫ КАНГРЭС ЦЫМБАЛІСТАЎ ПРАЙШОЎ У МАГІЛЁВЕ. ПРА ГЭТА НАША ГУТАРКА З ЗАГАДЧЫКАМ КАФЕДРЫ СТРУННЫХ НАРОДНЫХ ІНСТРУМЕНТАЎ, ЗАСЛУЖАНЫМ АРТЫСТАМ БЕЛАРУСІ, ПРАФЕСАРАМ ЯЎГЕНАМ ГЛАДКОВЫМ — ПРЭЗІДЭНТАМ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСКІХ ЦЫМБАЛІСТАЎ

**— Не было б у нас Саюза музычных дзеячаў — не адбылася б на Беларусі такая, здавалася б, роднасная для яе культуры, падзея...**

— Так, менавіта дзякуючы кіраўніцтву Беларускага саюза музычных дзеячаў школа беларускіх цымбалаў упершыню выйшла ў шырокі свет. Хаця, вядома, лепшыя прадстаўнікі нашай школы не аднойчы здзіўлялі замежную публіку сваім мастацтвам. Але мы існавалі гэткімі самотнікамі, нават не здагадваючыся, што створана Сусветная асацыяцыя цымбалістаў на чале з вядомай венгерскай выканаўцай Вікторыяй Херэнчар. Што асацыяцыя, развіваючы міжнародныя кантакты прафесійнікаў і аматараў гэтага досыць распаўсюджанага інструмента, імкнецца папулярызаваць цымбалы, узнімаць іх прэстыж на канцэртнай эстрадзе сярод іншых музычных інструментаў. Падкрэслю: дзякуючы ініцыятыве нашага Саюза музычных дзеячаў, ягонаму старшыні Міхасю Дрынеўскаму, намеснікам — Наталлі Вітчанцы ды Томасу Курылу, пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры я патрапіў на II Сусветны кангрэс цымбалістаў, які адбыўся ў 1993 годзе ў Брно. Праз два гады кангрэс праходзіў у Брацілаве. На той час беларуская цымбальная школа ўжо атрымала станоўчы розгалас. Ды і спадарыня Херэнчар, пабываўшы з візітам у нас, прапанавала чарговы форум асацыяцыі наладзіць на Беларусі.

**— Два гады прамінулі — і вось Магілёў прыняў гасцей. Вы, Яўген Пятровіч, можаце параўнаць свае ўражанні з тым, што дзеелася ў Брно, у Брацілаве...**

— ...і магу сказаць, што IV кангрэс аказаўся самым прадстаўнічым. Прытым, што не ўсе з абвешчаных удзельнікаў прыехалі. Напрыклад, праблемы з афармленнем дакументаў не дазволілі патрапіць на кангрэс дэлегацыям Лівана, Ірана. Ад СНД, на жаль, змаглі прысутнічаць толькі Малдова ды Расія. Увогуле ж, акрамя Беларусі, былі прадстаўлены 14 краін свету!

Да гонару Міністэрства культуры, але асабліва — магілёўцаў, арганізацыя гэткай значнай для абласнога цэнтра імпрэзы ўдалася. Насычанасць праграмы вымусіла падоўжыць час правядзення кангрэсу яшчэ на адзін дзень. Але як усё было дакладна наладжана! Кругласутачна працаваў штаб, дзе можна было атрымаць вычарпальную інфармацыю; дакладна і адказна працавалі перакладчыкі — ніколі не даводзілася іх шукаць або клікаць, заўсёды былі побач з гасцямі. Камп'ютэрны прэс-цэнтр дапамог нашым студэнтам у распаўсюджванні рэпертуару — бясплатна ксеракапіравалі ноты. Для жадаючых набыць аўдыё- і відэаматэрыялы кангрэса наладзілі запіс і продаж касет. Не забыліся і пра сувеніры для ўсіх удзельнікаў: прынамсі, сапраўдным падарункам сталася ўручэнне альбомаў з каляровымі фота...

Словам, дзякуй арганізатарам, сярод якіх я вылучыў бы кіраўнікоў вобласці і горада, спадароў Кулічкова, Дарашкова, Лаўцова, кіраўнікоў Магілёўскай філармоніі спадароў Браілоўскага, Шабаліна... Досыць сціплыя сродкі, выдаткаваныя на правядзенне кангрэса, былі скарыстаны з розумам і з густам.

**— Праграма пяці дзён кангрэса — гэта...**

— ...гэта па 5-6 канцэртаў на працягу дня! Прыемна, што зала заўсёды была поўная, а публіка — зацікаўленая і ўдзячная. Атрымалася сапраўднае яскравае свята! Кожнай дэлегацыі даваўся пэўны "кавалак" часу, а змест "выказвання" прапанаваілі яны самі. Але ў выніку ва ўсіх выступленнях вызначыўся агульны прынцып: даведка пра стан цымбальнага выканальніцтва ў краіне папярэднічала канцэрту, які, у сваю чаргу, мог суправаджацца кароткімі каментарыямі, анатацыямі.

Аднак гэткая фестывальная стракатасць выявіла, на маю думку, істотную праблему. Уявіце сабе вялікае поле, стыхійна засеянае самымі рознымі кветкамі: яно такое радаснае, вясёлае! Але... тут пануе бессістэмнасць. Цудоўна, што Сусветная асацыяцыя штогод павялічваецца: у ёй ужо 180 індывідуальных чальцоў, а ёсць жа і форма калектыўнага членства. Ёсць свае асацыяцыі ў Венгрыі, Германіі, Чэхіі, Славакіі, на Беларусі. Ёсць перспектыва стварэння аналагічнай суполкі ў Кітаі, дзе, паводле свежых звестак, на цымбалах іграюць 20 тысяч чалавек. Таму вельмі адчувальна, што ў Сусветнай асацыяцыі ёсць нібыта два пласты: прафесійныя выканаўцы, якія маюць адпаведную адукацыю, і цымбалісты-аматары. Творчыя мэты, рэпертуар, праблемы ў іх розныя. Значыць, для сапраўды плённай і сур'ёзнай працы кангрэсу трэба ладзіць заняткі па секцыях. Пакуль такога падзелу не было. Таму і ў мяне ўражанні досыць стракатыя.

Былі сапраўдныя адкрыцці. Напрыклад, майстэрства кітайскіх выканаўцаў. Яшчэ ў Брно я слухаў віртуоза-кітайца Ху Пінчына, які жыве ў Лондане, грае на сваіх самабытных цымбалах пад назвай "янчынь", выкладае. У Магілёў прыехала прадстаўнічая дэлегацыя з Кітая — 11 чалавек, у тым ліку прафесар Пекінскай кансерваторыі Ксіянг Зухуа. Высветлілася, што сістэма навучання на цымбалах там вельмі падобная да нашай: заняткі пачынаюцца з маленства, потым — сярэдняе звяно адукацыі, ёсць і вышэйшае. Граюць сола, у розных ансамблях, а дзяржаўны цымбальны аркестр складаецца з 62 чалавек — крыху больш, чым склад нашага аркестра імя Жыновіча.

На сапраўдным прафесійным узроўні выступілі малдаване. Майстрам высокага класа паказала сябе цымбалістка з Сінгапура К'ю Джыан Кінг. Знакаміты прафесіянал — венгерскі цыган Калман Балаг, які мае талент музычнай імправізацыі, але віртуозна грае і класіку. Германію прадстаўляў квартэт цымбалістаў, які прадэманстраваў тыпова нямецкую манеру выканання, нібыта скапіраваную са старажытных фрэсак: гэткія адмысловa выкручаныя рукі, што ўрэшце абмяжоўвае развіццё тэхнікі, прыёмаў гуказдабывання. І рэпертуар, і выканаўчая манера немцаў характарызуюцца камернасцю. Праўда, апроч строгай старадаўняй музыкі яны гралі свой авангард 90-х гадоў — ёсць рэчы цікавыя, са складанай гарманічнай мовай.

Іншыя ўражанні ад так званага аматарства. Гэтую плынь прадстаўлялі пасланцы Англіі, ЗША, Аўстраліі — яны граюць на падобных інструментах, якія называюцца "далсема". Аднак аўстралійка Джыліян Алкок — аматарка адмысловая. Яна — гаспадыня майстэрні па вырабе гэтых музычных інструментаў, прапагандуе іх у Аўстраліі праз тамтэйшую суполку аматараў грання на далсема, праз наладжванне рэгіянальных фестываляў.

Экстравагантны непрафесійнік — Фрэдэрык Цвайг са Швейцарыі: імправізатар, кампазітар, джазмэн, ён дэманстраваў магчымасці свайго кустарнага інструмента з адмысловым гукавым прыстасаваннем, ладзіў гэткае шоу з уласнымі спевамі. А вось галандзец Міхаэль Манту ўразіў зусім іншым шоу — у добрым сэнсе рэстараннага кшталту: ён досыць віртуозна валодае венгерскімі цымбаламі, без умоўнасцяў трымаецца на сцэне, імправізуе на венгерска-румынска-цыганскія тэмы, яркі, артыстычны, наладжвае жывы кантакт з публікай, "заводзіць" яе.

Але, пагадзіцеся, калі адзін канцэрт складаецца з варыяцый на румынска-цыганска-венгерскія мелодыі "сваёй гатоўкі", а другі — з акадэмічных твораў прафесійных кампазітараў, дык цяжка гаварыць пра агульныя праблемы за "круглым сталом" кангрэса. Дый часу для абгаварэння не заставалася.



*У Магілёве лаўрэат Міжнародных конкурсаў Кацярына Анохіна і прафесар Яўген Гладкоў ігралі дуэтам.*



*К'ю Джыан Кінг (Сінгапур).*



*Калман Балаг (Венгрыя).*



*Прэзідэнт Сусветнай асацыяцыі цымбалістаў Вікторыя Херэнчар.*

**— Можна толькі абменьвацца фестывальнымі ўражаннямі... Дарэчы, якое уражанне зрабіла беларуская дэлегацыя? Я разумею, гаварыць пра сваіх цяжка...**

— Вядома, наша дэлегацыя была ў выйгрышным становішчы: гаспадары заусёды маюць магчымасць паказаць усё лепшае, што маюць. Нашымі сіламі ладзіўся канцэрт-адкрыццё, мы мелі свой час для паказу ў межах кангрэса і, на роўні з усімі удзельнікамі, дзесяцімінутнае выступленне ў праграме закрыцця. Такім чынам, госці пабачылі-паслухалі Акадэмічны аркестр імя Іосіфа Жыновіча, ансамблі цымбалістаў — Беларускай акадэміі музыкі, Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі, Мінскага музычнага вучылішча. Былі яркія дуэты: Святлана Загуменкіна — Таццяна Мельнікава, Таццяна Шумакова — Наталля Аруцюнава, Вольга Мішула — Вераніка Дабрыніна. Выдатна выступілі салісткі: Кацярына Анохіна, Вольга Скобеюс, Юлія Кузьменка, Ларыса Рыдлеўская. Удзельнічалі нашы "Ліцвіны" і вядомы сямейны ансамбль з Пастаў...

**— Няўжо і "груздаўскі дзед" Іван Іосіфавіч Мацкевіч прыехаў?!**

— Прыехаў "дзед"! Паказалі свету самабытныя дыятанічныя цымбалы з Пастаўшчыны. І сучасны фабрычны інструмент усебакова і годна паказалі. І уся, так скажу, узроставая палітра выканаўцаў была прадстаўлена. Магутная атрымалася карціна! Адразу загаварылі: гэта, маўляў, Школа, якой цяжка што-небудзь проціластавіць.

**— А дарэчы: сімвалічна, што сёлетні год — год Іосіфа Жыновіча, год школы Жыновіча!**

— Вось пра гэта я і казаў ва ўступным слове да нашай праграмы: 90 гадоў споўнілася з дня нараджэння Іосіфа Іосіфавіча Жыновіча, заснавальніка нашай цымбальнай школы. І, дарэчы, выспявае думка наконт новага міжнароднага конкурсу — конкурсу цымбалістаў імя Жыновіча. Мае калегі-магілёўцы гэтую думку падтрымліваюць.

**— Яўген Пятровіч, а якія актуальныя для беларускай школы праблемы высноўваюцца са "стракатай фестывальнасці" сёлетняга кангрэса?**

— Праблема якасці інструмента. Маю на ўвазе не самую канструкцыю беларускіх цымбалаў — канструкцыя нармальная, а выраб — не надта. Паводле гэтых параметраў мы сёння на вельмі нізкай прыступцы адносна іншых краін. Там ідзе сапраўды творчы пошук — працуюць над паляпшэннем акустычных якасцяў, выпрацоўваюць электронныя інструменты, і толькі нашы цымбалы застаюцца на тым узроўні, да якога давяла барысаўская фабрыка. Праблему трэба вырашаць тэрмінова, бо даўно ўжо нашы выканаўцы "перараслі" якасць цяперашніх інструментаў!

Акрэслілася і праблема для педагогаў. У праграме кангрэса быў канцэрт імправізацыі і джаза. І вось тут выявіўся недахоп нашай, здавалася б, бездакорнай школы. Хаця замежныя музыкі пераважна не ўражвалі тэхнічным майстэрствам і тонкасцю нюансіроўкі, сёе-тое паказаць у жанры імправізацыі яны змаглі. А мы, на жаль, — не. Сістэма нашай музычнай адукацыі не прадугледжвае развіццё здольнасцяў да імправізацыі. Трэба гэта прызнаць як недапрацоўку маю асабістую і ўсіх нашых педагогаў.

**— І не толькі цымбалістаў гэта датычыць, гэта недахоп усёй сістэмы музычнага навучання!**

— На жаль... Хаця ў піяністаў, напрыклад, джазавая імправізацыя ўсё ж сядытады практыкуецца. А гэта вельмі важна! Уменне імправізаваць узбагачае асобу выканаўцы, разнявольвае ягонае "я", развівае талент. Словам, ёсць пра што падумаць, як развіваць у нашых будучых музыкантах талент імправізатараў. Можа, трэба звярнуцца да таленавітых піяністаў, скрыпачоў...

**— Можа, дапамогуць майстаркласы вядомых імправізатараў?**

— Сапраўды, з такіх класаў могуць выйсці здольныя педагогі-імправізатары, якія з часам наладзяць сістэму выкладання гэтага адмысловага мастацтва паводле спецыяльнай праграмы, якая, безумоўна, узбагаціць школу беларускага цымбальнага выканальніцтва.

Ёсць, вядома, пачуццё гонару за тое, што Беларусь мае такую школу, пра якую загаварылі цымбалісты з усяго свету. Але я з пачуццём шчырай павагі дадаю, што ёсць яшчэ і непараўнальная школа кітайская, якая, паўтаруся, вельмі падобная да нашай. І невядома яшчэ, якімі сюрпрызамі парадуюць нас праз два гады: наступны, V сусветны кангрэс асацыяцыя вырашыла праводзіць у Кітаі, у краіне, дзе, я ўжо казаў, 20 тысяч цымбалістаў!

Хацелася б, каб у будучым свята музыкі спалучалася з канструктыўнай навукова-тэарэтычнай працай. Бо мы ўжо дастаткова ведаем адно аднаго, паказ магчымасцяў цымбальнага мастацтва адбыўся досыць шырокі, убачыць штосьці прынцыпова новае наўрад ці магчыма. Таму трэба паказанае абмеркаваць і падумаць, што ж трэба рабіць надалей, каб усё наша стракатае міжнароднае сямейства цымбалаў захапіла ўвесь свет, прыцягнула да сябе цікавасць многіх меламанаў.

**— Дзякую за гутарку.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**
*Фота А. ФАЙНІЦКАГА*

КІНО

# "Гэтай планеце я б паставіла нуль..."

Аднойчы Ганна Ахматава заўважыла: я не паэтка, я — паэт! Божухна, гэты несур'ёзны канчатак -а-: сакратарка, журналістка, паэтка. Гэта незразумелае жаданне хутчэй прылічыць да жаночага полу. Бо, калі перафразаваць біблейскія словы, што можа быць добрага ад жанчыны?!

Не ведаю чаму, мо пад уплывам паэзіі, дзе ёсць жаночыя і мужчынскія рыфмы, у кінематографе таксама вылучаюць мужчынскае і жаночае кіно. "Калі фільм таленавіты, поўны любові і пяшчоты, разумны і далікатны, — гэта, вядома, жаночае кіно!" — гавораць на незалежнай жаночай кінавідэастудыі "Таццяна", арганізатар Міжнароднага фестывалю жаночага кіно ў Мінску. Шчыра кажучы, я не прытрымліваюся гэтага вызначэння. На маю думку, ёсць таленавітае і пасрэднае кіно, сур'ёзнае і пацяшальнае. Галоўнае для мяне ў тым, што жанчына мае магчымасць здымаць кіно, гэта значыць усведамляць сябе праз уласную дзейнасць.

Не? Не так? Добра, ёсць жаночае кіно. Поўнае любові і пяшчоты. Але ў які лагер залічыць новую карціну расійскага рэжысёра Кіры Муратавай? Бо яе "Тры гісторыі" — гэта сапраўдная анамалія ў жаночым кіно.

Прэм'ера "Трох гісторый", ужо цяпер скандальнага фільма, адбылася у студзені ў маскоўскім Кінацэнтры. З таго часу новая карціна Муратавай вандруе па кінафестывалях. На IV Міжнародным фестывалі жаночага кіно "Тры гісторыі" атрымалі адзін з галоўных прызоў. А вось на V фестывалі ра-сійскага кіно "Акно ў Еўропу" фільм Муратавай нават не быў уключаны ў праграму конкурсных фільмаў... з-за прапаганды бязлітаснасці.

"Тры гісторыі" Кіры Муратавай — гэта шок. Шок да канца сеанса. Сто пяць хвілін гульні са смерцю. Твар у твар.

У "Кацельню N 6" (першая навела фільма) галоўны герой (С. Макавецкі) прыносіць забітую ім суседку. "Яна ўвесь час голая хадзіла, а кватэра ў нас камунальная, — са слязьмі тлумачыць ён свайму сябру Гену, качагару. — Спалі яе, спалі, аддай яе цела агню, каб па-людску было". "Не магу, — упіраецца Гена, — гэта тэхнічна немагчыма". Пакуль сябры дамаўляюцца, камера спыняецца на параненым горле мёртвай жанчыны, спыняецца амаль пяць хвілін... Шкада глядацкіх нерваў, бо сябры так нічога і не вырашаюць. Давесці справу да канца ім не даюць гомасексуалісты, якія дурэлі ў кацельнай душавой. Так скончваецца гісторыя першая.

Другая — мае назву "Афелія". Галоўная гераіня Офа (яе сыграла вядомая расейская сцэнарыстка Рыната Літвінава, аўтар гэтай навелы) працуе ў архіве радзільнага дома. Спачатку яна душыць панчохай нявопытную дзяўчыну, якая адмовілася ад свайго новароджанага, а потым топіць сваю маці, што некалі адмовілася ад яе. "Я ненавіджу мужчын, я ненавіджу жанчын, я ненавіджу дзяцей і гэтай планеце я б паставіла нуль", — гаворыць Офа свайму палюбоўніку. Вось такая гісторыя другая.

У трэцяй кінанавеле "Дзяўчынка і смерць" забойца — пяцігадовая дзяўчынка, якую даглядае, пакуль маці працуе, хворы стары (Алег Табакоў). Дзяўчынка ўпартая і капрыз-лівая, старому не пазайздросціш. "Любіць старога і старую можна толькі тады, калі вельмі любіш. Бо старасць успрымаецца, як віна, яе хочацца пакараць", — разважае герой А. Табакова. "Пусці, пусці мяне на вуліцу", — несупынна крычыць малая. Стары забараняе. Тады дзяўчынка падсыпае яму ў кубак з вадой пацучынай атруты. Старасць пакарана. Канец гісторыі трэцяй.

"Тры гісторыі" Муратавай — гэта непрыкметная пастка для чалавека. Калі ў траўні фільм паказвалі ў мінскім кінатэатры "Масква", большасць гледачоў трапіла ў яе адразу ж. Тры жудасныя забойствы Муратавай прымусілі іх смяяцца і апладзіраваць. Няхай будзе праклятым чорны гумар! "Я — гэта іншы", — любіў гаварыць вядомы французскі паэт-сімваліст Арцюр Рэмбо. Іншы — гэта хто: звер, забойца? Кіра Муратава добра пасмяялася з людзей, калі тыя, таксама смеючыся, спавядаліся ёй у кіназале. Калі забойства мяне забаўляе, ці не забойца і я таксама? Калі пах крыві не выклікае спазмаў, ванітаў, ці не звер я? "І забойца, і звер", — даравала гледачу грахі Кіра Муратава. Даравала, каб той нарэшце зразумеў, хто ён такі па-сапраўднаму...

Зусім нетрадыцыйная для жанчыны роля — суддзі. Звычайна прысуд чалавецтву выносіць мужчына-рэжысёр, такі, напрыклад, як Інгмар Бергман. Больш жорстка і бескампрамісна судзіць "рэжысёр у спадніцы". І судзіць праўдзіва! Жахі, якія паказала Муратава, на маю думку, не прыдумаеш, іх толькі можна ўбачыць ці пачуць пра іх. (Памятаю тэлевізійны рэпартаж з жаночай калоніі. Шаснаццацігадовая дзяўчына расказвала, як яна забіла сваю маці, а потым рассекла яе труп. Нават у наркатычным дурмане забойца адчувала, што маці замінае ёй. Малой з трэцяй гісторыі К. Муратавай таксама перашкаджаў стары. Вось яна і забіла яго).

Значыць, усе людзі забойцы і звяры?! Думаю, Муратава мяркуе менавіта так. Жудасны маналог Офы: "Я ненавіджу мужчын, я ненавіджу жанчын..." — гэта і маналог рэжысёра. Тут варта пагадзіцца з расійскім кінакрытыкам А. Кладо, якая пісала: "У свеце Муратавай няма Бога, але вядзе рэй матэрыя з яе хімічнай рацыяй". Яшчэ з часоў Дастаеўскага вядома: калі няма Бога, чалавеку ўсё дазваляецца. Нават забіваць і ненавідзець. Муратава не спрабуе адказаць, чаму той забіў, а гэты ненавідзіць. Яна толькі канстатуе: усе — звяры. Яна толькі імкнецца як мага больш натуралістычна паказаць бруд чалавечага жыцця і чалавечай душы. Каб не засталося ілюзій наконт уласнай святасці. У "Кацельні N 6" пяцёра дарослых людзей дурэюць каля трупа забітай жанчыны. Пасля смерці старога ў "Дзяўчынцы і смерці" пяцігадовае дзяўчо спакойна выбягае на вуліцу — гуляць. Ні страху, ні болю. Смерць у "Трох гісторыях", я сур'ёзна кажу — гэта асалода, яна прываблівае. Невыпадкова ў навеле "Афелія" маці Офы чытае "Гамлета": на вокладцы п'есы рэпрадукцыя карціны Джона Мелеса "Смерць Афеліі". Мёртвая дзяўчына ляжыць у вадзе. Яе цела ўжо пачало гнісці. Аднак яно вабіць сваёй жудаснай прыгажосцю. Да ванітаў.

Калі параўнаць першы і апошні фільмы Муратавай, то зразумееш, што канструктыўны жаночы пачатак, які яшчэ ёсць у "Кароткіх сустрэчах" з яго любоўным трохкутнікам, цалкам знік з "Трох гісторый".

Беларускі мастак Рыгор Несцераў упэўнены, што наступнае стагоддзе будзе праходзіць пад знакам жаночага пачатку. Набліжаецца час прыгажосці, кахання, чуллівасці. Рэжысёр К. Муратава, адна з жанчын, якая ўжо цяпер паставіла нашай планеце нуль.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

# Музыкаў падтрымлівае саюз немцаў

"Франц Лефарт-ансамбль" памятаюць у Мінску. Чатыры гады таму гэты калектыў камернай музыкі з Расіі прыязджаў у сталіцу Беларусі. І вось ён зноў завітаў да нас. Мне давялося пабываць на яго канцэрце ў Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, дзе гучалі творы Глінкі, Рахманінава, Брамса.

Патэтычнае трыо М. Глінкі ў выкананні Аляксандра Блока (фартэпіяна), Віктара Шпілера (віяланчэль), Віталя Хандраса (скрыпка) уразіла ансамблевасцю гучання найвышэйшага класа. Нядаўні выпускнік Маскоўскай кансерваторыі Аляксей Папоў выканаў адажыо і фугу з Санаты ля мінор для скрыпкі сола І. С. Баха. Зноў — цудоўны гук, інтэрпрэтацыя сапраўднага прафесіянала, віртуоза!

Чацвёрты квартэт Я. Брамса до мінор у непаўторным выкананні піяніста Аляксандра Блока, віяланчэліста Віктара Шпілера, скрыпача Віталя Хандраса і альтыста Дзмітрыя Глебава таксама пакарыў слухачоў.

Разам з інструменталістамі асабліва ўзвышаную атмасферу на канцэрце стварала цудоўная спявачка, абаяльная Алена Зямскова.

— У нашым рэпертуары самыя розныя творы ад Баха да Шнітке, выконваем і авангардную музыку, — расказаў кіраўнік "Франц Лефарт-ансамбля" заслужаны артыст Расійскай Федэрацыі Віктар Шпілер. — У выкананне старадаўняй музыкі стараемся ўкладаць сучаснае светаразуменне, свой сённяшні погляд. Усе мы — члены Міжнароднага саюза расійскіх немцаў, які падтрымлівае нас матэрыяльна, асабліва назаву ягонага старшыню Гуга Вармсбехера. Гэтая дапамога дае нам магчымасць выступаць у многіх кутках Расіі, Германіі, удзельнічаць у руска-нямецкім фестывалі ў Калінінградзе. Зусім нядаўна мы выпусцілі кампакт-дыск, на якім запісаны ў нашым выкананні творы Моцарта, Брамса, Бетховена. Працаваць з вялікім натхненнем нам дапамагае творчая абстаноўка ў калектыве. Усе музыканты нашага ансамбля працуюць з сапраўдным захапленнем.

Канцэрт "Франц Лефарт-ансамбля" адбыўся і ў Мінскім музычным вучылішчы імя М. Глінкі, дзе, нягледзячы на халадэчу, гасцей прымалі вельмі цёпла і ніводны слухач не пакінуў залу, пакуль ішоў канцэрт.

Сёлетні прыезд у Мінск гэтых таленавітых музыкантаў быў прысвечаны сёмай гадавіне аб'ядання Германіі.

**Вера КРОЗ**

## Заўсёды з Беларуссю

ЯНКУ ЗОЛАКУ — 85

Ёсць у Янкі Золака верш, напісаны параўнальна нядаўна, 24 кастрычніка 1994 года:

*Пытаюць мяне колькі раз: ці пазбыўся*
*Я суму свайго па далёкай Радзіме?*
*А што адказаць? Не, сябры, не забыўся*
*Я зямлю, якая мяне нарадзіла.*

*Радні і знаёмым я кланяцца мушу:*
*Прышліце мне вестку з бацькоўскага Краю,*
*Каб мог наталіць ёй сасмяглую душу,*
*Каб мог я пазбыцца нуды і адчаю...*

Гэты невялікі твор, дакладна перадае душэўны стан паэта, які развітаўся з Бацькаўшчынай яшчэ ў 1944 годзе. Праўда, яму пашанцавала: некалькі гадоў назад Антон Міхайлавіч (сапраўднае яго прозвішча Даніловіч, Янка Золак — адзін з псеўданімаў, які стаў галоўным) пасля доўгай разлукі наведаў Радзіму, пабываў і ў роднай вёсцы Лучнікі, што непадалёку ад Слуцка... Але гэтыя радасныя дні прамільгнулі маланкава хутка, давялося вяртацца назад, у Злучаныя Штаты Амерыкі. Тугі не паменела ў нечым, магчыма, і пабольшала. І мае рацыю Л. Пранчак, які назваў яго "самотным паэтам". А гэтая самотнасць, вядома, і ад перажытага.

Янка Золак — з кагорты тых, хто ў гады мінулай вайны спадзяваўся, што Беларусь стане незалежнай дзяржавай. Настаўнічаў, працаваў карэктарам у газеце, пазней служыў у Беларускай Краёвай Абароне. Друкаваўся ў выданнях, дазволеных акупацыйнымі ўладамі, частка твораў Я. Золака ўвайшла ў калектыўны зборнік "Песняры Случчыны", выдадзены ў Слуцку ў 1943 годзе. Гэтага было больш чым дастаткова, каб пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, апынуцца ў лепшым выпадку там, дзе, як кажуць, і Макар цялят не пасвіў, а то і трапіць пад кулю. Таму і вырашыў Я. Золак не выпрабоўваць лёс, добраахвотна стаў выгнаннікам. Спачатку жыў у Нямеччыне, а пасля знайшоў прыстанішча ў Амерыцы.

Першыя вершы пачаў пісаць у школе і падпісваў іх псеўданімам Антось Вірок. У ЗША выступаў і як А. Здрок, З. Ажына, К. Асцюк, К. Аса, Яз. Дольны і, зразумела, Я. Золак. Найбольш вядомы як паэт. На Беларусі яго вершы друкаваліся ў анталогіі паэзіі беларускага замежжа "Туга па Радзіме", складзенай Б. Сачанкам. Нядаўна выйшла і кніга Я. Золака "Вятрыска з радзімай краіны" (укладальнік і аўтар прадмовы Л. Пранчак), пазначаная як "Збор выбраных твораў" — яе выпусціла Беларуская асацыяцыя "Дзелавая ініцыятыва". Спрабуе Я. Золак свае сілы і ў галіне прозы — у часопісе "Беларуская думка (не ў мінскім, а ў тым, што выходзіць у замежжы) друкуецца яго аповесць "Ціхі стаў", для дзяцей напісаў аповесць "Т. Д. Ч.", як прызнаецца, "нешта накшталт "Тимур и его команда" Аркадзя Гайдара", а таксама вершаваную казку "Бабок". Ёсць у яго і некалькі драматычных твораў, хоць і не ўсе закончаны.

Займаўся Я. Золак і выдавецкай дзейнасцю. Дарэчы, набыўшы сваю друкарню. Выдаваў газету "Беларускі патрыёт" і літаратурны дадатак да яе "Сялянскі кліч". У яго ж друкарні пабачылі свет некалькі нумароў часопіса "Палесьсе" і адзін нумар "Прыйсьця". Перавыдаў паэтычны зборнік Н. Чарнушэвіча "Дзіва", рэдагаваў і друкаваў кнігу У. Клішэвіча "Далячынь"... І, канечне ж, выдаў уласныя творы, якіх назбіралася на два тамы.

У лістападзе 1959 года Я. Золак увайшоў у склад ініцыятыўнай групы па стварэнні часопіса "Беларуская думка" і стаў яго галоўным рэдактарам, аддаўшы гэтай працы не адзін год.

85-годдзе Я. Золака прыпадае на 1 лістапада, на апошні месяц восені, а гэта — яго любімая пара:

*Не хачу аб журбе гаварыць,*
*Толькі восень любіць не пакіну.*
*Я кахаю яе, як жанчыну, —*
*Аж да самай зімовай пары...*

Віншуем Антона Міхайлавіча з юбілеем! Зычым яму ўсяго найлепшага і запэўніваем, што на Радзіме яго памятаюць і чытаюць!

Язэп ЛІТВІНОВІЧ

# Вяртанне ў Эдэм

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

нічога не ствараючы, перашкаджаў ствараць і іншым. Безумоўна, акрамя таго, што было патрэбна для будучых "вялікіх змаганняў". У выніку новы грамадскі лад, узведзены на грунце марксізму-ленінізму, давёў велізарную краіну, былую жытніцу Еўропы, да нечуванай матэрыяльнай нястачы, па сутнасці да масавага голаду. Сельская гаспадарка была падарвана на дзесяцігоддзі: амаль удвая, зменшыўся статак жывёлы, былі засмечаны дзесяткі тысяч гектараў лепшых ворыўных зямель, без патрэбы былі высечаны многія тысячы гектараў лясоў. Быў практычна "искоренен" найбольш працавіты слой сялянства. Сітуацыя на працягу многіх дзесяцігоддзяў існавання савецкай улады рэальна пагражала калі не фізічным выміраннем, то, прынамсі, дэградацыяй і выраджэннем цэлых народаў.

Трохі інакшай была сітуацыя ў Германіі, дзе "пракляты капіталізм" быў эфектна "запрэжаны" ў агульную калясніцу, скіраваную да "сусветнага панавання". На пэўным этапе нават удалося значна падняць жыццёвы ўзровень народа, асабліва, калі былі абрабаваны акупаваныя краіны. Але гэта быў часовы поспех...

4. Развіццё культуры і навукі. Менавіта культура была падвергнута найбольш жорсткай вівісекцыі. Адсякалася ўсё, што не ўкладвалася ў ідэалагічную схему. Культура мусіла стаць на службу ідэалогіі. Якраз у сферы культуры і выяўляецца найбольш вялікае падабенства чырвонага і карычневага "сацыялізмаў". Культурная спадчына падвяргалася жорсткай рэвізіі аж да публічных аўтадафэ. Асобныя ж дасягненні ўзнікалі не дзякуючы "мудрай" палітыцы кіруючай партыі, а часцей насуперак ёй.

У СССР, напрыклад, у выніку такога культурнага і ідэалагічнага выхавання мас яны доўгі час шчыра верылі, што будыніна наскрозь "прагнілага" сусветнага капіталу цалкам дэградавала маральна і фізічна і толькі чакае штуршка з боку пераможнага сацыялізму, каб з грукатам абрынуцца. Штуршок быў і "будыніна" абрынулася. Толькі не тая...

Ну а як жа быць з "грандыёзнымі" дасягненнямі краіны "перамогшага сацыялізму" ў навуковай ці ваеннай сферах, асабліва ў апошнія 30 гадоў яе існавання, калі першымі зрабілі крок у космас і г. д.? Якімі б ні былі гэтыя, па сутнасці лабараторныя, дасягненні таталітарнай, як і сам лад, навукі, яны, безумоўна, бясследна раствараліся ў бязмежным балоце амаль поўнага гаспадарчага развалу велізарнай краіны...

## V

У апошні час усё больш даследчыкаў схіляюцца да думкі, што камунізм увогуле — з'ява хутчэй эсхаталагічная, звязаная з канцом пэўнага развіццёвага цыкла чалавецтва. *Хто быў "Нічым" мусіў стаць "Усім". Але для* тых, хто знаёмы хаця б з элементарнымі законамі фізікі, відавочна, што Нішто можа трансфармавацца толькі ў Нішто. І ўсё ж вынік "вялікага эксперыменту", вынік, пра які папярэджваў яшчэ знакаміты Настрадамус, сёння больш чым відавочны. Абрынутая сацыялістычная "будыніна" пахавала пад сваімі абломкамі дзесяткі мільёнаў чалавечых жыццяў і незлічоныя матэрыяльныя скарбы. Але не самую ідэю... Больш за тое, была паспяхова створана і цудоўна працуе "генетычная праграма" прынцыпова новага чалавека, па сутнасці чалавека-мутанта. Нездарма ў Настрадамуса выраз "камуністычнае прышэсце" (commun advenement) стаіць побач са згадкаю пра "чакаемую мутацыю чалавецтва".

Размова ідзе якраз пра фундаментальную мутацыю, якая добра ўсведамлялася і самімі "бацькамі" і "правадырамі" рэвалюцый. Яна заключалася ў стварэнні "чалавека новага тыпу", чалавека грамадскага, а не індывідуальнага. "Мутант" той мусіў быць не проста нейкай варыяцыяй традыцыйнага "капіталістычнага" чалавека — ён павінен быў несці ў сабе адмысловыя анамальныя рысы.

Сутнасць анамаліі заключалася на метафізічным, містычным і дагматычным узроўнях у рашучым адмаўленні Боскага пачатку, самога хрысціянства ўвогуле. Наступствы актыўнай "прывіўкі" антыбоскай ідэалогіі сёння відавочныя. Гэта ідэалогія, у якой у нашым грамадстве засталося нямала прыхільнікаў, па сутнасці з'яўляецца адназначным **антыканонам хрысціянству**, экстрэмальнай формай Метафізічнага Зла. Злачынства камуністаў, пра якое сёння многа гавораць і пішуць, выяўляецца не толькі ў астранамічных лічбах забітых, замучаных, абрабаваных, прыніжаных і г. д. Яно значна глыбей і страшней, бо супярэчыць фундаментальнай для хрысціянства духоўнай канцэпцыі, знішчаючы Асобу і Дух. Замест гэтага жорстка пануе ў душах людзей калектывізм і матэрыялізм.

На жаль, відавочныя амаль усяму свету вынікі панавання гэтай "анамаліі" не стварылі ў нашым грамадстве ніякага імунітэту. Апалагеты сацыялізму сцвярджаюць сёння, што напалоханыя нечуваным росквітам СССР капіталісты, масоны-сіяністы і іншыя сілы сусветнага зла арганізавалі супраць магутнага і стабільнага "лагера" сацыялізму подлую змову, якая падарвала яго здаровы і моцны арганізм, і ён рухнуў. Што ж, згодна з законамі эвалюцыі ў бязлітаснай барацьбе за існаванне выжывае мацнейшы. Здаўна ў народзе пра аслабленых і хваравітых, няздольных супрацьстаяць усемагчымым інфекцыям і іншым неспрыяльным знешнім фактарам гаварылі: "дахадзяга"... Справа, відаць, усё ж не толькі ў знешніх "падрыўных" дзеяннях.

Бясспрэчны і просты, як думка дзіцяці, вынік сацыялізму — з яго не выйшла НІЧОГА! Акрамя, канечне, бяды і гора для мільёнаў простых людзей сапраўднага "камунізму" для ўзрошчаных жорсткай селекцыяй унікальнай касты "абраных", здольных на любыя маральныя кампрамісы са сваім сумленнем. Гэтыя мутанты і на гібелі бальшавіцкай "Пампеі" здолелі нажыць сабе капітал. Прычым у самым літаральным сэнсе, акуратна і са страшэнным цынізмам, за лічаныя тыдні абрабаваўшы дзесяткі мільёнаў сваіх былых "падданых". Большасць з іх цяпер зноў пры ўладзе і шчыра абяцаюць скрадзеныя ўклады "вярнуць народу". Вось ужо сапраўды: "Беларусь, твой народ дачакаецца..."

Самыя капіталістычныя краіны сёння — самыя сытыя, самыя сацыялістычныя — страшэнна галодныя. Якія ж яшчэ патрэбныя аргументы апалагетам камунізму? Не, яны ізноў заклікаюць пачаць усё спачатку. Што ж, французскія санкюлоты, "предвестники" Вялікага Кастрычніка, пачыналі спачатку разоў пяць...

## VI

Ужо ў першыя гады свайго існавання сацыялізм прынёс на беларускую зямлю шмат гора. У той час Янка Купала пісаў: "Над Мінскам павіс крывавы кашмар... Курганы сотняў нявінна расстраляных аб гэтым... сведчаць..." Трохі пазней жыццё прымусіла народнага паэта прыстасоўвацца да рэалій і прызнаць бальшавіцкі рэжым. Але рэжым ніколі не прызнаваў яго, звёўшы з вялікім паэтам рахункі пры першым жа зручным моманце. Такія, як Купала, Жылка, Зарэцкі і інш. яўна "выпадалі" з абоймы...

"Прыстасоўваўся" і ўвесь беларускі народ. "Прыстасоўваўся" цяжка, "са скрыпам", праз сотні тысяч пабітых на грамадзянскай, падчас зусім нярэдкіх "слуцкіх збройных чынаў", *праз раскулачванне лепшых гаспадароў* напрыканцы дваццатых — пачатку трыццатых, праз знішчэнне (амаль поўнае!) нацыянальнай інтэлігенцыі ў трыццатых. "Прыстасоўваўся" праз беспрэцэдэнтныя курапатаўскія "разнарадкі"... Ацалелым давялося "прыстасоўвацца" праз франты Айчыннай і шматлікія "ўдарныя" камуністычныя штурмы пасляваенных і пазнейшых гадоў. Апошняе і найбольш татальнае "прыстасаванне" адбылося праз Чарнобыль. А "прыстасаваны" народ той — маўчаў, доўга і цяжка...

Сёння вельмі шмат гаворыцца пра вялікую стваральнасць пасляваенных і пазнейшых гадоў, калі наша рэспубліка стала адной з самых квітнеючых у Саюзе пад чуйным кіраўніцтвам кампартыі і яе надзіва мудрых і справядлівых лідэраў, на якіх нам быццам бы, насуперак У. Караткевічу, здорава пашчасціла. Што ж, разбітую і разбураную Беларусь адбудавалі сапраўды вельмі хутка. Адбудаваў яе *сваімі рукамі працавіты і руплівы наш народ*, але хутчэй за ўсё не ДЗЯКУЮЧЫ бліскучаму кіраўніцтву камуністаў, а НЯГЛЕДЗЯЧЫ на іх кіраўніцтва! Але Беларусь уваходзячы "на роўных" у склад дзяржавы-пераможцы ў шэрагу не менш "шчаслівых" братоў і сясцёр, не стала насамрэч квітнеючай, як гэта неяк няўзнак здарылася з ушчэнт разбітымі пераможанымі... Тое стала вельмі відавочным, калі на пачатку 90-х "жалезная заслона" рухнула і многія з тых, хто меў вочы, змаглі ацаніць рэальную ступень нашаганеверагоднага "росквіту".

Мы проста да нейкага часу не ўяўлялі сабе рэальныя маштабы сацыялістычных "перамог", якія адкінулі нас на дзесяткі гадоў назад. І сёння мы, беларусы, працягваем жыць "пры сацыялізме", трохі разбаўленым нешматлікімі і адчайнымі "капіталістычнымі" элементамі. Чаму ж такім жывучым аказаўся гэты лад менавіта ў нас? Пра гэта ўжо даволі шмат *пісалі, але адзін аспект ягонай трываласці, як* нам здаецца, неяк застаўся ў цені.

Сацыялізм, камунізм і іншыя ізмы, якія меркавалі перавярнуць свет, мусілі мець значнае энергетычнае сілкаванне, каб "скрануць" з месца такі вялікі груз. Як, адкуль было знойдзена столькі сілы, якая ўжо ў першыя "10 дзён" узрушыла свет "до основанья", а "затем" амаль 80 гадоў ліхаманкава "калашмаціла" і тэрарызавала? Адказ на гэтае пытанне не такі ўжо складаны, як можа падацца. Рэвалюцыя "адбіла" горла ў вялізнай бутэльцы спрадвечнай маралі чалавецтва, якая ствралася **тысячагоддзямі**. Яны былі вельмі ўмоўнымі, тыя "сценкі". Але для найбольш цывілізаванай часткі чалавецтва паступова пачалі ўваходзіць у звычку...

Рашучыя і бескампрамісныя бальшавіцкія "пераўтваральнікі" свету аказаліся надзвычай мэтанакіраванымі і ўпартымі. Яны дзяўблі тое "горла", пакуль яно не трэснула. Гэта было шмат страшней за скрынку Панжоры, бо на волю былі выпушчаныя інфернальныя сілы. Маштабы пазнейшых трагедый відавочна тое пацвярджаюць. Сацыялізм, сапраўдны баявы рэвалюцыйны сацыялізм, а не ягоны фабіянскі сурагат, рабіў і **робіць** стаўку на нянавісць і страх. Камуністам проста неабходна было сеяць іх у масах, а значыць раздзяляць тыя масы (падзяляй і кіруй!), каб больш эфектыўна будаваць сваю, як сцвярджаў Дастаеўскі, Вавілонскую вежу, на якой, безумоўна Богу месца не было...

Па вялікім рахунку, гэтая задума была і застаецца безнадзейнай, але сёння нам больш-менш становіцца зразумелым з'яўленне і існаванне рабесп'ераў, троцкіх, сталіных, мао, палпотаў, кожны з якіх, своеасабліва пераасэнсаваўшы старажытную ўсходнюю мудрасць, даводзіў і даводзіць нам, што *"дзяржава — гэта я"*, маючы на ўвазе, безумоўна, сваю адзіную і непаўторную персону. Ды і ўвогуле, усе нашы сённяшнія палітычныя "пастары", як піша адзін сучасны беларускі паэт, выйшлі "з аднаго галіфэ" — з "камісарскага", незалежна ад ідэйных і партыйных поглядаў.

У "пастараў", якія сёння пры ўладзе, "бальшавіцкая" жылка выяўляецца ў эмацыйна-валюнтарыстычным стаўленні да ўласна палітыкі, эканомікі, у максімалісцкім непрыманні інакшых, чым свае, поглядаў, у "размахванні" без дай патрэбы "дубінай" гэтай улады. У сённяшнім грамадстве спрэс (і гэта, на жаль, зусім не перабольшанне!) пануе менавіта бальшавіцкае стаўленне да ўсіх праблем, якія быццам бы можна вырашыць пры дапамозе чарговых кампаній і "мерапрыемстваў". Адметая рыса сённяшніх "дзяцей Кастрычніка" — у фенаменальных выкрутлівасці і беспрынцыповасці, у татальнай дэмагагічнасці, упакаванай у самыя прывабныя "абгорткі".

Кажуць, *што палітыка — увогуле брудная* рэч, і не толькі бальшавікі адметныя ў гэтым плане. Што ж, чалавецтва ва ўсім, не толькі ў палітыцы, рабіла і робіць свой выбар не паміж злом і дабром, а паміж злом большым і трохі-трохі меншым. Мірымся ж мы з тымі хваробамі ў сваім арганізме, якія не вельмі перашкаджаюць нам жыць. Але, калі моцна "прыцісне", ліхаманкава пачынаем лячыцца, разумеючы, што пры такім дыскамфорце мы не зможам існаваць далей паўнавартасна.

Тыя ж фактары ўплываюць і на развіццё грамадства. Яно будзе "цярпець" пэўную палітычную "хваробу", пакуль не "прыпячэ". Але хвароба бальшавізму, цяжкая, невыносна працяглая, была і застаецца найбольш небяспечнай — грамадскі арганізм вельмі доўга "мірыўся" з ёю, нават калі хвароба тая падбіралася да жыццёва важных "органаў".

Беларуская нацыя, на жаль, аказалася найбольш "інфіцыраванай" СНІДам XX стагоддзя — *сацыялізмам, знаходзячы ў сваёй* страшнай балячцы, як якая-небудзь старэнькая Тэкля, нават нейкае мазахісцкае задавальненне. Прынамсі, існаванне ў самым цэнтры Еўропы пад бокам самых "дэмакратычных" дэмакратый Нямеччыны, Францыі, Англіі і іншых, сапраўднага сацыялістычнага запаведніка ў гэтым пераконвае. Беларусь, як бы нам ні хацелася і як бы мы яе ні называлі, была і застаецца БССР. Менавіта гэтая краіна — адзіная з былых "братніх" рэспублік СССР — зрабіла рэальную спробу вярнуцца ў сацыялістычны Эдэм, які так апантана будавалі нашыя бацькі і дзяды. Наўрад ці ашукаюць сёння каго-небудзь у свеце нязначныя касметычныя штрыхі капіталізму на фасадзе існуючай сёння на Беларусі сістэмы. Здабыты "ў бітвах за волю, у бітвах за долю" чырвона-зялёны "сцяг перамог" якраз выдатна сімвалізуе лад, у якім мы сёння жывём. Хай не ўводзіць некаторых у зман адсутнасць на тым сцягу бязлітасна скрыўленага калісьці бальшавікамі крыжа-сярпа і молата. Гэта вельмі часовы кампраміс...

●

Каб "вылечыцца", грамадству, як і чалавеку, недастаткова глытаць лекі, тым больш чужыя. Ды і да многіх з іх у нас стойкая алергія. Ачуняць нам ад цяжкай хваробы сацыялізму, вырвацца нарэшце з учэпістых кіпцюроў гэтага бязлітаснага "Эдэма" можа дапамагчы толькі ідэя, якую будуць лічыць сваёй і "лукашысты", і "пазнякоўцы". І гэта зусім не ілюзія, а жорсткая рэальная неабходнасць. На жаль, пакуль у якасці ідэалогіі мы маем усё той жа бессмяротны бальшавізм у розных варыяцыях — ад камуністычнай да ліберальна-кансерватыўнай. Нестварэнне кансалідуючай **нацыянальнай** ідэі, якая б сваім прыярытэтам мела **нацыянальны інтарэс**, у самы бліжэйшы час можа зрабіць беларускі камуністычны (як бы яго ні называлі інакш) рэцыдыў паталогіяй, што вядзе, як вядома, да "лятальнага" зыходу. Наўрад ці такі вынік будзе прымальным для усіх нас, незалежна ад нашых ідэйных перакананняў. Бо мы ўсе — і добрыя і дрэнныя сыны Беларусі — я вельмі на тое спадзяюся, любім сваю радзіму. Ды і як можна яе не любіць! Гляньце за вакно! Восень. 1997 год. На парозе — XXI стагоддзе!

*Алесь ЛІСІЦКІ*

# Штрышкі быцця

У парку па-над берагам Прыпяці стаіць у рад некалькі лавак. Ды мне, калі ўпершыню сюды прыйшоў, чамусьці наймілей здалася перадапошняя.

Не аднаго разу сядзеў тут, чытаў або проста думаў, і заўсёды адчуваў сябе вельмі ўтульна.

Калі ж трэба было ад'язджаць, я нечакана для сябе задумаўся: "А чаму ж сеў менавіта тут, а не дзе-небудзь у іншым месцы?"

Агледзеўшыся навокал, убачыў побач сівы зымшэлы камень.

Ага, дык гэта значыць яна, душа мая, падсвядома адгукнулася на прысутнасць побач друзачкі вечнага?..

●

Здагадаешся, што цябе падманваюць, і на душы стане так прыкра, як бывае, бадай, адно тады, калі ты на самым золку ідзеш па лясным гушчары, абсыпаным буйной сцюдзёнай расой, па грыбы, ашчаджаешся, каб ні кропкі не пырснула на рукі ці твар, і ўсё ж некалі не ўсцеражэшся — і цябе пройме такой стыласцю, што ажно скалане. І ты ўжо доўга потым не сагрэешся і ў самай шпаркай хадзе.

●

Павінна быць навальніца.

Зямля, паветра, прырода і птушкі — усё ў гэты час жыве прадчуваннем дажджу і грымотаў.

Гэтак жа загадзя і па-свойму ўсялякая з'ява як бы "прадвызначае" тую форму, у якой ёй льга рэалізавацца ва ўсёй сваёй паўнаце і непаўторнасці.

●

Бывае, спытае ў цябе нехта пра нешта, ты спынішся, патлумачыш яму або пакажаш дарогу,і потым пойдзеш далей з адчуваннем нейкае радасці ў душы ад таго, што дапамог, што выбавіў чалавека з пэўнага клопату, чым, здаецца, зрабіў і яго крыху шчаслівейшым таксама.

●

Дзяўчына вядзе сляпога бацьку.

А я думаю: неяк так ужо большасць з нас выхавана, што некаторым было б сорамна быць на яе месцы — быць павадыром у калекі, бы тое чужое калецтва выдавала б і за тваё ўласнае.

Ды што там калецтва?!.

Калі ж добра ўспомніць, то ці не саромеліся мы ў юнацтве сваіх састарэлых бацькоў перад сябрамі?

●

У мяне падрастае дачка. Веташок яе першага году жыцця спакваля акругляецца ў поўню, і яна не толькі пяе па-птушынаму, а і лоўчыцца вылучыць у хоры гукаў словы, што не пазбаўлены сэнсу: ма-ма і та-та, ба-ба і дзя-дзя.

І калі хоць адно з іх даецца ёй, тады яна паўтарае яго мноства разоў запар, каб адчуць і запомніць.

Гэтак было і са мной, і з усімі.

То чаму ж так няўдзячна атрымліваецца, што мы гэтулькі сілаў душы трацім некалі на засваенне матчынай мовы, а потым надзіва лёгка забываем не толькі цану той навукі, а і самое роднае Слова?!.

●

Кажучы пра свайго малога сына ці ўнука, мамы і бабулі звычайна абавязкова пахвальваюцца яго дасціпнасцю і таленавітасцю.

Гэта наіўна, кранаюча і зразумела.

Калі ж бачыш, як нейкі крытык задужа нахвальвае твор свайго сябрука, на душы становіцца несамавіта, бо надта ж выразна не стасуюцца яны паміж сабой — падобнае мудрагельства і прадмет самой размовы.

●

Цяжарнай жанчыне дактары звычайна настойліва раяць: каб ваша будучае дзіця было дужым, вам лепш есці тое і гэта, і ні ў якім выпадку нельга есці таго і гэтага. Так раіць навука.

У народзе ж нярэдка гавораць зусім іншае: еш, маладзічка, што бог на душу пашле, што табе хочацца...

А што да карысці такой парады, то па прыклады хадзіць далёка не трэба. Бо дужымі і разумнымі нарадзіліся некалі і тыя самыя эскулапы, хоць іх маці наўрад ці пільнаваліся нейкіх рэцэптаў...

Нешта падобнае надараецца і ў творчай працы. Маладому аўтару іншы раз раяць: трэба пісаць толькі так і такое, а не на свой схоч і не па-іншаму.

Але ці не лепш яму пісаць менавіта аб тым, аб чым не напісаць ён проста не можа?

●

Падыходзячы ад ракі да вясковых кладоў, самахоць задумаўся над сэнсам быцця і ўнутрана сцяўся, каб лішняе не расчульвацца. І не змог утрымацца, каб не запісаць адно абвостранае адчуванне.

Спыніўся, дастаў блакнот і аловак, паспрабаваў як мага глыбей засяродзіцца, але неўзабаве заўважыў і зразумеў, што не магу зрабіць гэтага: таму замінае нечае няўлоўнае шапаценне поруч.

Азіраюся навакол і бачу: трымціць пад ветрам выпетраны за лета чарот у пустым лазовым карчы.

●

Сядзеў у немаладым гарадскім парку, усхвалявана глядзеў наўкруга, дзівячыся чысціні і размаітасці восеньскіх фарбаў, таму каляроваму фотасінтэзу, што неўпрыкмет для людскіх вачэй адбыўся ў прыродзе.

Ленавата-стомлена свяціла паніжэлае вераснёўскае сонца. Сейва яго зайчыкаў высвеціла на доле россып мядзяна-зыркіх, што першы жар з печы, апалых кляновых лістоў. І самы маленькі з тых, якія я бачыў, свяціўся, бы сама радасць на сподзе маёй душы.

●

Пара светлага лістападу. У кастрычніцкім парку цёпла і ўтульна: стаіць позняй пары бабіна лета.

Неўпрыкмет, як зманьваючы адзін аднаго, падаюць долу лісты клёна, бярозы, асіны.

Іх лёгкі дотык да травы і зямлі, усе наўкольныя шолахі-гукі ўспрымаюцца мной як шчымлівая сімфонія восеньскага мілавання прыроды.

●

Так яно ёсць: усё зямное быццё трымаецца на самаахвярнасці і самаспаленні. Сусвет даў жыццё сонцу, сонца — зямлі, зямля — усяму жывому, а ўсё жывое — нам, людзям.

Так яно ёсць: жыццё трымаецца толькі на працы, якую людзі аддаюць адзін у імя другога. Інакш не будзе самога жыцця.

Калі ж не будзе працы нашай душы дзеля іншых, то тады ці не знікне і сама чалавечнасць, ці не засохне тады і самое дрэва быцця на нашай блакітнай планеце?..

●

Надыходзіць хвіліна, калі неяк па-асабліваму абвастраецца ўнутранае чуццё — зрок душы. Тады ты занадта пранізліва пачынаеш адчуваць сваю сувязь з усім на гэтым белым свеце, і нейкае нязначнае іншым разам, будзённае ўражанне шчыра здзівіць цябе сваёй значнасцю і святочнасцю. І ты моцна пачынаеш верыць, што павінен, што проста не можаш не падзяліцца ім з усімі, хто яшчэ гэтага не адчуваў. Бо проста не ўяўляеш, што і сапраўды можна пасталець, хоць аднойчы не перажыўшы падобнага.

●

Я разумеў, што дочкі мае зусім яшчэ не адчуваюць ніякага сэнсу ў словах "Я цябе люблю", а таму ніколі да таго не прымаў усур'ёз гэта моўленае імі.

Аднойчы я прылёг на канапе. Яны ўбеглі, нечым узрушаныя, але, убачыўшы мяне, адна адной зашапталі:

— Цішэй ты!

— Не крычы, а то тату разбудзіш! — і ціхенька выйшлі з хаты...

Дык вось ты якая, першая дзіцячая ўвага і ласка...

●

Смяльчак пераскочыў на чырвонае святло святлафора нешырокую вулку і заклікае адтуль зрабіць тое ж сваіх сяброў.

А бабуля, што стаіць поруч, тлумачыць яму:

— А яны, сынку, жывуць у горадзе!

●

Усё напісанае мной здаецца падчас такім звычайным і відавочным, нібыта толькі падгледжаным у жыцці...

Вось і пакутую, чаму ж усё гэта звычайнае і відавочнае не заўважалі хоць некалі іншыя?

●

Прывёз у парк малую дачку ў калясачцы.

На адным з дрэўцаў нейкая птаха вывела дзетак. Яны і пішчаць — не то радуюцца свайму нараджэнню на свет, не то з голаду плачуць; а можа, і бяду знекуль чуюць ды бацькоў на дапамогу ў пострасе клічуць, — разбяры ў тым гармідары, паспрабуй...

А дачка ледзь толькі слыхам дапала да іх піску, давай тураваць сваё: а-а-а, а-а-а, а-а-а.

Дзе б то сталася, каб родныя душы адна адной не падалі хоць нейкага знаку?

ВЫСТАВЫ

# Эмацыянальнасць і арыгінальнасць

У верасні ў Палацы мастацтваў праходзіла выстава твораў жывапісца Віктара Барабанцава.

Пачынаў В. Барабанцаў як манументаліст. У яго кампазіцыях цэнтральнае месца займаюць вобразы славутых беларусаў (фрэска "Сынам зямлі Беларускай", 1981, мазаіка "Партрэты асветнікаў", 1989, вітражы "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі", 1988, энкаўстыка "На Купалле", 1990 і інш.). Шэраг работ мастака ўпрыгожваюць грамадскія будынкі ў Мінску.

Мастак малюе старажытныя замкі і на іх фоне — партрэты вядомых дзеячаў Беларусі, як бы ўводзячы гледача ў тую эпоху. Сярод станковых работ вылучаюцца сімвалічнымі кампазіцыямі "М. Гусоўскі", "Абуджэнне" (К. Каліноўскі, Урублеўскі), "Выклік кінуты" (С. Будны), "Сяброўскія сустрэчы" (В. Дунін-Марцінкевіч, С. Манюшка, У. Сыракомля).

У жаночых партрэтах — эмацыянальнасць і артыстычнасць натуры (партрэт народнай артысткі Л. Давідовіч, заслужанага дзеяча мастацтваў Н. Шчаснай.

У шматлікіх партрэтах яго знаёмых або сяброў, сярод якіх пісьменнікі, музыканты, В. Барабанцаў перадае непаўторнасць характару, сімпатыю да людзей, энергію руху, яны вылучаюцца нязвычнасцю кампазіцыі, тонкай гульнёю святла.

Асобнае месца ў творчасці мастака займае чарнобыльская тэма. Карціны, напісаныя непасрэдна ў раёнах катастрофы, дзе ён пабываў, носяць дакументальны характар ("Эвакуацыя", "Пакінуты двор", "Трывожны крык", трыпціх "Зона").

Творы Віктара Барабанцава знаходзяцца ў многіх музеях Беларусі: Нацыянальным мастацкім музеі, Рэспубліканскай мастацкай галерэі Саюза мастакоў, Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, Літаратурным музеі Кузьмы Чорнага ў Цімкавічах, а таксама ў прыватных калекцыях Англіі, Бельгіі, Кіпра, Польшчы, Швецыі.

**Галія ФАТЫХАВА**

*На здымках: "Асветнікі", 1990 г., "Легенда".*

*Фота Я. КОКТЫША*





# Як наша зямля...

Уладзімір Васюк — вядомы графік, ягоная жонка Тамара — не менш вядомая як мастак-кераміст. Абое яны — сябры творчай суполкі "Пагоня" і абавязковыя ўдзельнікі выстаў суполкі да Дня Волі, гадавіны абвяшчэння Незалежнасці БНР.

28 кастрычніка ў Палацы мастацтваў адкрылася сумесная выстава Тамары і Уладзіміра Васюкоў. Выстава шмат у чым нечаканая для знаўцаў іхняй творчасці. Уладзіміра калегі і крытыкі ведаюць найперш як плакатыста, аўтара шэрагу твораў гісторыка-культурнай тэматыкі. Ягоныя плакаты ўвайшлі ў афіцыйную анталогію беларускага мастацтва, з творчасцю Васюка у значнай ступені звязана само паняцце "беларуская школа плаката". Паколькі сёлетні год і, адпаведна, выстава для Уладзіміра — юбілейныя, гледачы чакалі ўбачыць ужо бадай класічныя творы мінулых гадоў. Аднак мастак вынес на суд публікі творы зусім іншага характару — вытанчаныя малюнкі. Творца знаходзіць глыбокі сэнс быцця ў звычайных рэчах, звыклых рэаліях прыроды. І звыклыя рэчы ў ягонай інтэрпрэтацыі набываюць сімвалічнае значэнне: беларуская зямля, беларускае неба, беларускі сусвет.

Тамара Васюк працуе з самым, мабыць, "цёплым" матэрыялам — глінай. У яе творах адчуваецца веданне народнай традыцыі.

Я добра памятаю яе работы выразна этнаграфічнага характару. Аднак сённяшняе мастацтва Тамары хутчэй адпавядае паняццю "дызайн", чым "этнаграфія". Зробленыя ёю рэчы могуць быць скарыстаны ў побыце, а могуць і проста ўпрыгожваць інтэр'ер альбо музейную экспазіцыю.

Асобная гаворка пра керамічную скульптуру Тамары Васюк. Увогуле падзел на "кераміку" і "скульптуру" існуе, бадай, толькі ў нас. Ва ўсім свеце ўжываецца шырокае разуменне "пластыка". Так я разумею і зробленыя Тамарай постаці гістарычных асоб Беларусі і сімвалічныя фігуры. Мастачцы ўласцівы пэўны рамантызм і вытанчаная дэкаратыўнасць.

Творы Тамары і Уладзіміра ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго. Экспазіцыя атрымалася гарманічная, светлая, прыгожая. Я б сказаў, беларуская — бо гэта спакойная, неагрэсіўная прыгажосць.

Як наша зямля...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## Майстар краявіду




**Віталь Канстанцінавіч Цвірка — пейзажыст, якога вельмі добра ведалі і, бадай, сёння ведаюць па ўсім былым СССР. Мастак быў улюбёны ў сваю зямлю, яе прыроду. Яго карціны зразумелыя кожнаму.**

**У канцы верасня на доме N 42 па вуліцы Сурганава ў Мінску, дзе жыў і працаваў мастак, была ўсталявана мемарыяльная дошка. На ўрачыстасці адкрыцця яе выступілі намеснік міністра культуры Беларусі Валерый Гедройц, мастацтвазнавец Барыс Крэпак, мастакі Уладзімір Басалыга, Георгій Лойка, Уладзімір Талкачоў, скульптар Андрэй Заспіцкі (аўтар мемарыяльнай дошкі), Барыс Аракчэеў, Іван Рэй, Уладзімір Уродніч. Усе яны адзначалі высокі прафесіяналізм Віталя Канстанцінавіча, "беларускасць" яго адметнага таленту пейзажыста, гаварылі пра яго як пра добрага, шчырага чалавека і незабыўнага настаўніка.**

**У наступным годзе майстру беларускага краявіду споўнілася б 85 гадоў. І, можа, нам пашчасціць убачыць яго карціны на выставе, якую мае наладзіць Саюз мастакоў і грамадскасць. А пакуль яго творы (больш за 70) могуць убачыць толькі спецыялісты ў Нацыянальным музеі Беларусі — там яны знаходзяцца ў запасніках.**

**Г. Ф.**

## Пісаў па-польску

**Паэт і драматург Уладзімір Кавальскі нарадзіўся 21 кастрычніка 1912 года ў сяле Варонеж цяперашняга Карукаўскага раёна Чарнігаўскай вобласці (Украіна). З 1930 года загадваў польскім сектарам Камітэта радыёвяшчання пры Саўнаркоме БССР. Быў адным з арганізатараў і кіраўніком польскай секцыі Саюза пісьменнікаў Беларусі. У лістападзе 1937 года У. Кавальскага рэпрэсіравалі, а 28 снежня гэтага ж года расстралялі.**

**З першымі публікацыямі выступіў у газеце "Орка" ("Ворыва"). Друкаваўся ў цэнтральных польскіх газетах Савецкага Саюза і ў часопісе "Культурная Москва". Выйшлі кнігі паэзіі "Паэзія", "Дзве паэмы", "Дарога на Поўнач", "Вершы пра Грузію". Напісаў п'есы "Штурм чарнаводаў" і "Сям'я Варанцовых". Першая з іх была пастаўлена польскім тэатрам у Кіеве, другая рыхтавалася да пастаноўкі ў 1935 годзе польскім тэатрам у Мінску, але прэм'ера так і не адбылася.**

## Ткачыха



**Пенсіянерка Алена Раманаўна Арлоўская з вёскі Мыслабож Ляхавіцкага раёна з юнацтва займаецца творчасцю. Яе работы неаднаразова прадстаўляліся на конкурсах і выстаўках. А ўнучкі Таня і Каця — частыя госці ў бабулі. Яны — першыя цаніцелі яе работ. І здольныя вучаніцы.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

# Запаліць святло ў душах...

*(Праця. Пачатак на стар. 3)*

намерамі. Нават Маркс, таксама прэтэндуючы на адкрыццё новай гістарычнай фармацыі — сацыялізму, станавіўся часам насуперак матэрыялізму на ідэалістычныя пазіцыі, пра што сведчаць хоць бы такія яго выказванні, як вядомае параўнанне архітэктара з пчалой або славуты 11 тэзіс аб Феербаху, пра што некалі пісаў і Бярдзяеў. А Энгельс адзначаў нават падабенства рабочага руху да дзейнасці ранніх хрысціян. І сапраўды ў марксізме нярэдка сустракаюцца чыста *хрысціянскія палажэнні, накшталт* тэзіса "хто не працуе, той не есць", прагалошанага некалі апосталам Паўлам. Усё гэта дало ў свой час падставу А. Тойнбі ахарактарызаваць марксізм як адну з хрысціянскіх ерасей, а С. Булгакаву аб'явіць нават самога Маркса рэлігійным мысліцелем. Аднак супраць такіх у прынцыпе магчымасцей, ужо ў даўнія часы энергічна папярэджвалі і пратэставалі як старазапаветныя пракокі, так і хрысціянскія апосталы і айцы царквы, заклікаючы не верыць новым ілжэпрарокам і не пакланяцца кумірам і ідалам, хоць пазней, на жаль, і тое збылося ў Расіі амаль што ў літаральным сэнсе слова, калі ўспомніць усё яшчэ існуючы культ асобы Леніна і амаль што містычнае пакланенне ягонай муміі.

У сапраўднасці ж уся тая квазідухоўнасць марксізму і яго ідэалаў мела ілюзорны, прывідны характар, аб чым і самі яго заснавальнікі міжвольна прагаварыліся ўжо ў першым радку славутага "Маніфеста камуністычнай партыі". Камунізм з усімі яго абяцанымі дабротамі аказаўся сапраўды толькі прывідам: духоўныя яго ідэалы, заснаваныя на матэрыялізме і ваяўнічым атэізме, былі чыстай утопіяй, і адзінай рэальнасцю стала ўстаноўка на матэрыяльную сілу і амаральны *таталітарна-дыктатарскі прымус*, што і паказала выразна марксісцка-ленінская версія яго ў расійскім бальшавізме, дзе тая прывіднасць вельмі хутка перарасла ў крывадушную хлусню, каб замаскіраваць жахлівыя рэальнасці Курапатаў і архіпелага ГУЛАГ.

Расійскі бальшавізм па сутнасці сваёй быў складанай з'явай, бо ўтварыўся на базе злавеснага спалучэння расійскай ментальнасці "бесов", з такой пераканаўчай сілай апісанай Дастаеўскім і арыентаванай на насілле і тэрарызм (варта ўспомніць нават такіх выдатных прадстаўнікоў расійскай інтэлігенцыі, як анархіст Бакунін з яго культам стыхійнага бунту, або Чарнышэўскі, што клікаў Расію "к топору"), і еўрапейскага марксізму, які таксама лічыў насілле *бабкай-павітухай гісторыі. Усё гэта, трапіўшы* на глебу адвечнай, што існавала яшчэ з часоў Івана Жахлівага, халопскай псіхалогіі цёмных народных мас, і дало ў выніку тое, што пазней было ахарактарызавана Рэйганам як імперыя зла. Рамантычна-ўзнёслыя некалі лозунгі Свабоды, Роўнасці і Брацтва прынялі здзекліва адваротны сэнс: свабода ператварылася ў рабства, роўнасць — у сацыяльную проціпастаўленасць партнаменклатуры насельніцтву і брацтва — у класавую па сутнасці сваёй, узаемную паміж імі нянавісць. Выбрукаваная, здавалася б, такімі добрымі намерамі дарога сапраўды прывяла ў пекла. Мілаван Джылас, сам некалі шчыры і адданы камуніст, аналізуючы ўсё гэта з марксісцкага ж пункту гледжання, акрэсліў тую імперыю як форму дзяржаўнага *капіталізму і саміх расійскіх камуністаў* — як новы эксплуататарскі клас. Марксізм аказаўся, такім чынам, чымсьці падобным да сярэдневечнага змея, што сам з'ядае сябе з хваста.

●

Такое злавеснае пераўвасабленне камунізму з пераменай знакаў на адваротныя, амаль што зусім у духу вядомай паэмы Дастаеўскага аб вялікім інквізітары, мела *далёкія і вельмі нядобрыя наступствы*. Агульная лінія абездухоўлення і дэмаралізацыі грамадства заканамерна прывяла да ператварэння яго кіруючай вярхушкі, якая некалі, можа, і верыла ў камуністычныя ідэалы, у амаральную, цынічную і карумпаваную наменклатуру, якая і сёння трывала сядзіць у сядле, працоўнага люду — у гэткі ж амаральны і бездухоўны охлас, здольны толькі да п'янства і крадзяжу, а інтэлігенцыі — у нейкую асацыяльную, бездухоўную і прадажную праслойку, гатовую служыць каму ўгодна. Нездарма ж камуністы цынічна прысвоілі ёй анкетную назву "служащий".

Зразумела, што ў падобных абставінах ніякія аднабаковыя і палавінчатыя рэформы ў кірунку толькі фармальна-палітычнай дэмакратызацыі і стварэння чыста рынкавай эканомікі на заходні ўзор, менавіта ў фрыдманаўскім яе варыянце, арыентаваным выключна на *асабісты, эгаістычны* інтарэс, і не маглі даць нічога добрага. Гарбачоўская перабудова, якая была скіравана на ўдасканаленне сацыялізму і паскарэнне эканамічнага развіцця шляхам узмацнення матэрыяльнай зацікаўленасці, хоць і ўзламала застылую бюракратычна-таталітарную сістэму, але фактычна толькі паскорыла і інтэнсіфікавала той самы рух уніз па сыходнай траекторыі, прывёўшы да сённяшняга крымінальнага капіталізму, яшчэ горшага, чым еўрапейскі капіталізм XIX стагоддзя. Калі там, у Еўропе, гэтая лінія нагадвала плаўнае зніжэнне (яшчэ Герцэн пісаў, напрыклад, што Парыж несумненна распадаецца, але распадаецца вельмі прыемна), то на тэрыторыі былога СССР тое зніжэнне перайшло ў імклівае піке, асабліва страш*нае ў сферы духоўнага жыцця*. Джыласаўскі новы клас, канчаткова скінуўшы крывадушныя марксісцка-ленінскія маскі, адкрыта стаў тым, чым ён з'яўляецца цяпер. У эканоміцы запанавалі крымінальна-мафіёзныя структуры з іх крывавымі разборкамі, іх узначалілі пераважна нашчадкі ўсё той жа былой партнаменклатуры, у галіне культуры сталі размывацца і знікаць духоўныя каштоўнасці і ідэалы, пачынаючы са знікнення маральнага аўтарытэту дзяржавы і канчаючы распадам сям'і, у палітычным жыцці на базе ахлакратыі павырасталі цынічныя дыктатуры, так што мімаволі стаў успамінацца Платон з яго панурым сцвярджэннем, што дэмакратыя заўсёды прыводзіць да тыраніі.

●

*Яшчэ больш цяжкія наступствы* мелі гэтыя працэсы ў сферы нацыянальнага жыцця. Савецкі Саюз, як вядома, быў своеасаблівым працягам Расійскай імперыі, што была, па азначэнні самога Леніна, турмой народаў, хоць тое і хавалася пад прапагандысцкімі шыльдамі "новых" сацыялістычных нацый, пралетарскага інтэрнацыяналізму і "новай" супольнасці людзей — савецкага народа. На справе ж усё гэта з'яўлялася сродкам актыўнай русіфікацыі і глумлення нацыянальнай культуры народаў, *што ўваходзілі* ў склад імперскага СССР. А калі тыя шыльды і лозунгі канчаткова страцілі свой ілюзорны аўтарытэт і народы запатрабавалі рэальнай свабоды і незалежнасці, расійскі імперыялізм з яго традыцыйнай яшчэ з царскіх часоў устаноўкай на "единую и неделимую Россию" паказаў сваё ісціннае аблічча, якое мы бачылі ўжо ў Грузіі, Вільні, Рызе і нядаўна назіралі ў Чачні. Пачалася інтэнсіўная дзейнасць па расколе грамадскасці ў атрымаўшых фармальную незалежнасць былых саюзных рэспубліках, чаму вельмі садзейнічала прастытуіраваная мясцовая рускамоўная інтэлігенцыя і амаль што быдлячы стан насельніцтва, якое так і не паспела ўзняцца да стану дэмасу, стану нацыянальна свядомага народа. Гэта, у сваю чаргу, прывяло да шэрагу рэгіянальных грамадзянскіх войнаў з устанаўленнем пракамуністычных, а то і яўна фашысцкага тыпу дыктатур.

Не дзіва, што ў такіх абставінах міжволі ўзнікла адчуванне цемры, што ахапіла сабою Беларускую зямлю. Не дзіва, што і ў *галовах інтэлігенцыі як асноўнага выразніка* свядомасці народа запанавала тая ж самая цемра і безвыходны песімізм, які з такою горкай сілаю праявіўся, напрыклад, у цыкле апошніх апавяданняў Васіля Быкава. Выхаваная на марксісцкім і тым жа заходнім русісцка-ліберальным разуменні дэмакратыі, калі голас народа, механічна выражаны праз выбарчыя бюлетэні, успрымаецца ледзьве не як сам "глас Божы", яна разгубілася, як толькі ўбачыла, што гэты самы няшчасны, даведзены да крайняга духоўнага атупення народ, па-дурному прагаласаваўшы на выбарах і рэферэндумах, гэтак жа бяздумна і лёгка можа прагаласаваць, напрыклад, і за далучэнне да Расіі, прамяняўшы свае нацыянальнае першародства і суверэнітэт на сацывічную поліўку сумніўнай эканамічнай выгады. Аказалася страчанай апошняя апора, апошні, здавалася б, духоўны арыенцір, і ўсё агарнулася імглой...

●

Але не ўсё так беспрасветна. У гісторыі бывала ўжо нешта падобнае. Велізарная Рымская імперыя часоў Месаліны і Нерона, што на сконе сваіх вякоў бязлітасна душыла самую нязначную праяву імкнення да свабоды і незалежнасці, трымаючы пад сваім абцасам амаль увесь тагачасны свет і труцячы яго смуродам свайго гніення, аказалася *пераможанай хрысціянствам*, якое супрацьпаставіла колькасці — якасць, сіле — дух, баязліва-асцярожнай разважлівасці — цвёрдую веру і цынічнаму індывідуалізму — любоў да бліжняга і абсалютны маральны ідэал, увасоблены ў паняцці Бога. Менавіта гэтыя дух, вера і любоў далі магчымасць раннім хрысціянам выстаяць ва ўмовах жахлівых ганенняў, менавіта яны адкрылі сабой новую эпоху, якую мы зараз ведаем як эпоху еўрапейскай цывілізацыі. Як з маленькага *гарчычнага зярнятка вырастае* вялікая і моцная расліна, так і некалькі апосталаў на чале з Хрыстом утварылі новае грамадства і новую культуру. Утварылі, нягледзячы на тое, што былі амаль што ў поўнай адзіноце, калі нават аднаверцы Хрыста крычалі Пілату "распні яго!" (нездарма ж у грэчаскім арыгінале Евангелля ўжываецца ў іх адрас не гордае слова demos — народ, а "охлос", што значыць натоўп, чэрнь, адкуль, дарэчы, пайшло і слова "ахлакратыя"). Утварылі, бо чалавека чалавекам робіць не цела, а дух, і менавіта дух жыватворыць усё. І як бы ні йшла пазнейшая гісторыя, дух і розум заўсёды перамагалі.

Так і цяпер. Нам таксама трэба пачынаць не са страўніка, а з галавы і сэрца, не *столькі з эканамічнай перабудовы, колькі з* рэарганізацыі нашага духоўнага жыцця. Сённяшнім распадным працэсам у грамадстве і чалавеку павінны быць супрацьпастаўлены новыя ідэалы, заснаваныя на абсалютных і вечных прынцыпах рэлігіі, якая адна толькі і можа аб'яднаць абездухоўленае, амаль што збыдлелае насельніцтва, згуртаваўшы яго ў незалежны, моцны духам народ, як мы сёння бачым тое, напрыклад, у Чачні, непарушна змацаванай ісламам. Нездарма ж само слова "рэлігія" паходзіць ад лацінскага "religare", што значыць з'ядноўваць, злучаць. І высакародную ролю носьбіта гэтых ідэалаў павінна ўзяць на сябе нацыянальная інтэлігенцыя, папярэдне правёўшы ў сабе самой карэнную ўнутраную перабудову і аднавіўшы Бога ў сваёй душы, знявечанай матэрыялістычным светапоглядам і разбэшчанай спакусамі бяздумна-стыхійнага тэхнічнага прагрэсу, што цягне нас ужо і ў бездань экалагічнай катастрофы.

Толькі рэлігія ў стане аднавіць у народзе цвёрдую веру ў чалавека і дабро, веру, якая, падобна безумоўнаму рэфлексу ў біялагічным індывідзе, змацоўвае сабою і стабілізуе сацыяльны арганізм, ператвараючы яго з тупога, эгаістычнага охласа ў самасвядомы дэмас, Народ. Пранізваючы ўсё цела грамадства сваімі маральна-духоўнымі ўстаноўкамі, рэлігія ўздзейнічае не толькі на духоўную культуру — філасофію, навуку, мастацтва і мараль, але і на матэрыяльны яе падмурак — эканоміку, прымушаючы яе кіравацца, акрамя чыста эгаістычнай выгады, і вышэйшымі інтарэсамі нацыі і чалавецтва, тым, што Макс Вэбэр называў у свой час Прызваннем і чым створана было цяперашняе матэрыяльнае багацце Захаду, на якое мы так зайздросна паглядаем сёння. Тут асабліва вялікае значэнне мае і філасофія, якая мусіць запоўніць сабою тую бяздонную прорву паміж рэлігіяй і навукай, духам і целам, розумам і пачуццём, што была выкапана марксісцкім светапоглядам. Менавіта новая, нацыянальная беларуская філасофія, а не прастытуіраваны марксісцка-ленінскі гістмат і не гнаёвая, па салжаніцынскім выразе, жыжа заходняга дэструктыўна-абсурдысцкага постмадэрнізму, які з лёгкай рукі некаторых выхаванцаў філасофскага факультэта БДУ актыўна распаўсюджваецца зараз на Беларусі, — менавіта беларуская нацыянальная філасофія павінна выпрацаваць і сістэматызаваць іерархічную сукупнасць ідэалаў, пачынаючы ад Бога і канчаючы законамі эканамічнага жыцця. На Захадзе, напрыклад, даўно аналагічную ролю адыгрывае рэлігійная філасофія неатамізму, знаходзячы сабе палітычнае ўвасабленне ў ідэях хрысціянскае дэмакратыі.

Такая іерархічная сістэма ідэалаў можа быць у нас коратка намечана ўжо і сёння. *Гэта перш за ўсё ідэя Бога як абсалютнага* каштоўнаснага арыенціра, як кропкі адліку абсалютнай сістэмы каардынат, у якой бачыцца ўсё астатняе, увесь акаляючы сусвет.

